Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№32 (4627) 12 жніўня 2011 г.



# Асвечаны сонечным пратуберанцам

Серж МІНСКЕВІЧ

**Для большай часткі Еўропы гэта была дзівосная і ашаламляльная падзея. 16-га ліпеня паводле старога стылю (ці 28-га паводле новага) 1851 года сонца цалкам схавалася за чорным дыскам, і ўдзень настала цемра. Паны і панны, шляхта і сяляне, дзеці і дарослыя падносілі да вачэй закурадымленыя шкельцы і пазіралі на сонца. Месяц, горды і смелы, змог хоць на некалькі хвілін адолець само Сонца!**

Сярод насельніцтва хадзілі неверагодныя чуткі. Журналісты пазней запішуць:

“Уражанне, якое стварыла сонечнае зацьменне на простых людзей, было вельмі моцным: шматлікія з іх дайшлі да поўнай роспачы, некаторыя служылі набажэнствы, каб зацьменне адышло, іншыя чакалі землятрусаў. Аднак самае страшнае, што прарочылі невукі і схільныя да забабонаў людзі, — быццам бы падчас поўнага сонечнага зацьмення знішчыцца ўсё атмасфернае паветра. Літаральна ў тры хвіліны памруць усе людзі і жывёлы. І калі журналісты і навукоўцы, якія прыехалі назіраць гэтую велічную з’яву прыроды, імкнуліся супакоіць прасцякоў, устрывожаных такімі недарэчнасцямі, тыя ўзбуджана пярэчылі: маўляў, вы, разумнікі, маеце спецыяльныя сродкі, каб перажыць зацьменне без дыхання”.

А зацьменне 1851 года было непаўторна яскравае. Знакаміты рускі астраном Ота Струвэ замаляваў два вялікія пратуберанцы і адзін маленькі.

Сонечныя ці месяцовыя зацьменні заўсёды бянтэжылі людзей. Яны былі сімвалам рэзкай перамены лёсу ў добры ці, не дай бог, дрэнны бок.

Вядомы факт, што месяцовае зацьменне вырaтавала экспедыцыю Хрыстафора Калумба. Па каляндарных кнігах ён ведаў, калі адбудзецца гэтая астранамічная падзея. 29 лютага 1504 г. ён абвясціў ямайскім індзейцам, што, калі яны не будуць пастаўляць прадукты на яго караблі, ён пазбавіць іх Месяца. Індзейцы пасмяяліся. А калі Месяц у іх на вачах пачаў знікаць — перапалохаліся. Калумб “вярнуў” ім Месяц, і болей перабояў з пастаўкамі правіянту не было.

Аднак вернемся да поўнага сонечнага зацьмення 1851 года. Сярод шляхты і сялян, што з трымценнем назіралі за знікненнем сонца, быў малады чалавек, якому толькі месяц таму споўнілася дваццаць гадоў. Яго звалі Вінцэсь Каратынскі. Насамрэч пасля зацьмення яго лёс вельмі рэзка змяніўся. Папулярны і паважаны ў Польшчы і Літве паэт, перакладчык, публіцыст Уладзіслаў Сыракомля запрасіў маладзёна на працу. Папрасіў быць яго пісарам і сакратаром. А гэта значыць, што ён давяраў Вінцэсю Каратынскаму свае рукапісы і нават даваў згоду на рэдакцыйную працу. Гэта была вялікая пашана і гонар. Асабліва для самавука, які не меў аніякіх папер пра заканчэнне прэстыжных навучальных устаноў.



*“Сёлета спаўняецца 180 год з дня нараджэння і 120 год з дня смерці паэта, журналіста, патрыёта Вінцэся Каратынскага. Цяпер мы можам выправіць адзін штрых у яго біяграфіі. Менавіта калі яму споўнілася 20 гадоў, у 1851 годзе (а не ў 1850-м), ён стаў супрацоўнічаць з далікатным і мудрым паэтам Уладзіславам Сыракомлем. Гэта сталася пачаткам літаратурнай кар’еры Вінцэся Каратынскага.*

Значна пазней, як падае Уладзімір Мархель у прадмове да кнігі “Вінцэсь Каратынскі. Творы”, у сваіх успамінах сам сакратар Сыракомлі напіша: “Было гэта ў 1850 годзе. Памятным поўным зацьменнем сонца, якое мы праз абкураныя шкельцы назіралі з Кандратовічам і Пшыбыльскім”.

Ва ўсіх энцыклапедыях, ва ўсіх біяграфічных звестках пазначана, што Вінцэсь Каратынскі паступіў на службу да Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Уладзіслава Францішка Кандратовіча) у 1850 годзе і працаваў з вясковым лірнікам да самай яго смерці — да 1862 года. І гэтыя звесткі, відавочна, узятыя з яго ўспамінаў. Аднак памяць чалавека — недасканалая. Увогуле, чалавек запамінае не нумарацыю года, а тое, што ў гэтым годзе незвычайнага адбывалася. А вось астраномія — навука дакладная. І згодна з ёй поўнае сонечнае зацьменне ў 1850 годзе можна было назіраць толькі ў палярных шыротах Канады і Арктыкі. Вінцэсь Каратынскі ніякім чынам не мог знаходзіцца там. Але поўнае сонечнае зацьменне, якім можна было палюбавацца ў Заходняй Беларусі, адбылося якраз у 1851 годзе. Значыць, Вінцэсь Каратынскі паступаў на працу да Сыракомлі годам пазней, чым нам падаюць падручнікі.

Сёлета спаўняецца 180 год з дня нараджэння і 120 год з дня смерці паэта, журналіста, патрыёта Вінцэся Каратынскага. Цяпер мы можам выправіць адзін штрых у яго біяграфіі. Менавіта калі яму споўнілася 20 гадоў, у 1851 годзе (а не ў 1850-м), ён стаў супрацоўнічаць з далікатным і мудрым паэтам Уладзіславам Сыракомлем. Гэта сталася пачаткам літаратурнай кар’еры Вінцэся Каратынскага.

Сваім паэтычным словам Вінцэсь Каратынскі першы даследаваў супярэчнасці сялянскай душы беларуса (паэма “Таміла”), стаў слоўным жывапісцам роднага краю. Яго пяру належаць вершы на беларускай мове — эмацыянальныя і сардэчныя. Таксама ён стварыў цудоўныя паводле стылю і назірання нарысы пра беларускія гарады і іх наваколле: Наваградак, Вілейку, Валожын, Віцебск, Слуцк, Стоўбцы і інш. Гэтыя творы могуць быць узорам для сучасных журналістаў. У яго творчым набытку — некалькі артыкулаў па біяграфіі Адама Міцкевіча.

Чым далей мы адыходзім па сцежцы часу ў вечнасць, тым каштоўнейшымі становяцца яго працы.

Ёсць звесткі, што Вінцэсь Каратынскі і Уладзіслаў Сыракомля разам падрыхтавалі зборнік беларускамоўных вершаў. Але па загадкавых акалічнасцях кніга не пабачыла свет.

Застаецца надзея, што даследаванні навукоўцаў і супрацоўнікаў архіваў адшукаюць іх. Тады мы зможам глыбей адчуць перажыванні, непакой і спадзяванні далікатнай паэтычнай душы Вінцэся Каратынскага.

## Пункцірам

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь 2 жніўня падпісаў Указ аб узнагароджанні дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь. Сярод уганараваных і дзеячы культуры і мастацтва. Ордэнам Францыска Скарыны ўзнагароджаны член грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў" Барыс Аракчэеў і артыст Узорна-паказальнага аркестра Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь Уладзімір Яскевіч.

Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў медалём "За працоўныя заслугі" члена грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў" Уладзіміра Чарнышова. Медалём Францыска Скарыны адзначаны артысты-вакалісты Маладзёжнага тэатра эстрады Гюнеш Абасава і Аляксей Хлястоў, вядучыя майстры сцэны Тэатра-студыі кінаакцёра Валерыя Арланава, Тамара Мужэнка, Ала Проліч, Віктар Рыбчынскі, загадчык кафедры харэаграфіі факультэта традыцыйнай беларускай культуры БДУКіМ Святлана Гуткоўская, вядучы майстар сцэны Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Алена Дудзіч, галоўны рэжысёр Гродзенскага абласнога тэатра лялек Алег Жугжда, члены грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў" Алег Зінчук і Леанід Хобатаў, саліст балета Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Дзяніс Клімук і артыст-вакаліст Станіслаў Трыфанаў.

Указам Кіраўніка дзяржавы ганаровае званне "Народны артыст Беларусі" прысвоена галоўнаму дырыжору Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь Аляксандру Анісімаву і вядучаму майстру сцэны Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча Якаву Навуменку.

Званне "Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь" прысвоена салістцы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Настассі Масквіной і вядучаму майстру сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Сяргею Чэкерэсу.

Званне "Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь" прысвоена мастацкаму кіраўніку ансамбля салістаў "Класік-Авангард" Уладзіміру Байдаву. Званне "Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь" — члену грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў" Мікалаю Назаранка.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Мікалая Бурляева з 65-годдзем.

Кіраўнік дзяржавы падпісаў указ аб узнагароджанні намесніка старшыні Беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" Саюза беларусаў Латвіі Станіслава Валодзькі медалём Францыска Скарыны. Гэтай узнагароды ён удастоены за значны асабісты ўнёсак у прапаганду і развіццё духоўнай спадчыны беларускага народа, умацаванне двухбаковых сувязей у сферы культуры паміж Рэспублікай Беларусь і Латвійскай Рэспублікай.

У сувязі са смерцю народнага артыста СССР Мікалая Пятрова Прэзідэнт Беларусі накіраваў спачуванне яго родным і блізкім.

**Падрыхтавалі Бажэна Строк і Алена Галай**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Наперадзе — з'езд

***Прайшло чарговае пасяджэнне прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі***

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец падрабязна праінфармаваў прысутных пра вынікі работы творчай арганізацыі за першае паўгоддзе 2011 г. Разглядаліся пытанні падрыхтоўкі да чарговага з'езда СПБ, які павінен адбыцца ў кастрычніку 2011 г. Чакаецца ўдзел у рабоце прадстаўнічага пісьменніцкага форуму дэлегацый болей як з дваццаці краін. Таксама на прэзідыуме прынята рашэнне аб аказанні матэрыяльнай дапамогі вялікай групе членаў СПБ.

Першы сакратар грамадскага аб'яднання Генадзь Пашкоў расказаў пра тое, якія планы ў арганізацыі па ўдзелу ў Дні беларускага пісьменства ў Ганцавічах у верасні 2011 года. У сталіцы свята пройдзе нямала сустрэч з пісьменнікамі і чытачамі, прэзентацый новых кніг, будуць уручаныя ўзнагароды пераможцам Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу.

Разглядалася і пытанне аб прыёме ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Членамі СПБ сталі Таццяна Сівец, Марына Лайкова, Надзея Ніжняя-Ксенафонтава, Наталля Саветная, Дзіяна Грышукевіч, Уладзімір Лазар, Ніна Каленчыкава (Русаковіч), Уладзімір Кісялёў, Рыгор Саланец, Тамара Філіповіч, Віктар Купрыянчук, Тацццяна Атрошчанка, Андрэй Васільеў, Віктар Рашкевіч, Дзмітрый Новікаў, Яніна Жабко, Арнольд Дыбча, Сяргей Мусіенка, Уладзімір Грозаў, Вадзім Гігін. Падрабязна з іх жыццёвай і творчай біяграфіяй "ЛіМ" пазнаёміць чытачоў у бліжэйшых нумарах.

На пасяджэнні прэзідыума выступілі Алесь Савіцкі, Анатоль Сульянаў, Уладзімір Ліпскі і іншыя пісьменнікі.

**Ул. інф.**

## Фестывалі

# У Крэве шукаюць князёў

**Рэгіянальны фестываль "Крэўскі замак" пройдзе ў Смаргонскім раёне Гродзенскай вобласці 13—14 жніўня.**

На фестывалі ў вёсцы Крэва будуць прадстаўленыя лепшыя тэатральныя, танцавальныя і песенныя плыні сучаснай інтэрпрэтацыі традыцыйнай культуры. У праграме — горад майстроў, майстар-класы па народных танцах, песнях і гульнях, канцэрт з удзелам мясцовых фальклорных калектываў, а таксама шматлікія прадстаўленні і конкурсы.

Сярод галоўных дзеючых асоб — крэўскія князь і княгіня, якіх выберуць падчас фестывалю. Таксама будуць вызначаныя лепшы фальклорны ансамбль, лепшы кулінар, бард, паэт, майстар, валанцёр і інш. Гасцей свята чакаюць і жартоўныя ўзнагароджанні.

Адна з мэт правядзення фестывалю, ініцыятарам якога выступае мясцовы дабрачынны фонд "Крэўскі замак", — прыцягненне ўвагі да аховы матэрыяльнай і нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

## Конкурсы

# Таленты трэба ўзрошчваць

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

**Часопіс для падлеткаў "Бярозка" і РВУ "Літаратура і Мастацтва" абвясцілі літаратурны конкурс для юных аўтараў. Вынікі будуць падведзеныя ў маі 2012 года.**

"Бярозка" нетрадыцыйна падышла да вызначэння ўзросту канкурсантаў — ад 12 да 18 гадоў. Ніжэйшая планка — яшчэ падлеткі, вышэйшая — ужо практычна дарослыя людзі з развітай палітрай пачуццяў і шырокім колам інтарэсаў. Але ж практыка паказала, што вельмі часта 12—15 гадовыя ніяк не "ўпісваюцца" са сваёй творчасцю ў рамкі дзіцячых конкурсаў. А ў конкурсах дарослых удзельнічаць не могуць з-за ўзроставых абмежаванняў. "Бярозка" ў першую чаргу ім дае магчымасць для рэалізацыі таленту.

Намінацыі дзве: "Проза" і "Паэзія". Прычым, ніякіх жанравых абмежаванняў няма. Проза, напрыклад, можа быць як рэалістычнай, так і фантастычнай, казачнай. Паэзія — у любой з вядомых форм. Больш за тое, ад аднаго аўтара могуць быць прынятыя работы ў розных намінацыях. Конкурс быў абвешчаны ў красавіку 2011 года, таму творы вырашана прымаць да 1 красавіка 2012 года. Яшчэ месяц журы будзе ацэньваць іх, вылучаючы лепшыя. Афармленне работ — цалкам стандартнае. Яны мусяць быць набранымі на камп'ютары шрыфтам не меншым як 14 праз інтэрвал 1,5. У правым верхнім кутку першай старонкі кожнай работы трэба ўказваць імя, прозвішча, узрост аўтара, хатні адрас і тэлефон. Недапушчальныя псеўданімы. Калектыўныя творы таксама не будуць разглядаца. Усё дасланае дублюецца на электронным носьбіце ў фармаце Word.

І галоўнае патрабаванне конкурсу: творы павінны быць на беларускай мове, бо асноўнай мэтай арганізатары ставяць выхаванне ў моладзі любові і беражлівага стаўлення да беларускай культуры, мовы, нацыянальных традыцый.

Як будуць ушаноўвацца пераможцы? Папершае, яны атрымаюць памятныя дыпломы. Па-другое, іх чакаюць каштоўныя прызы. Па-трэцяе, лепшыя творы плануецца апублікаваць на старонках "Бярозкі". А калі сярод іх будзе многа вартых, яны могуць скласці нават асобную кніжку. Таксама арганізатары гарантуюць урачыстую цырымонію ўзнагароджання, сапраўднае свята з сімвалічнай пасадкай маладых бярозак.

Для дарослых аўтараў РВУ "Літаратура і Мастацтва" разам з часопісам "Бярозка" абвясцілі заснаванне новай літаратурнай прэміі. Яна будзе насіць імя Алеся Якімовіча, прысуджацца па намінацыях "Проза" і "Паэзія" і стане штогадовай. Спаборнічаць за гэтую прэмію будуць дарослыя аўтары надрукаваных у "Бярозцы" цягам года твораў. Узнагароджанне лаўрэатаў дыпломамі, памятнымі нагруднымі знакамі і грашовымі прэміямі адбудзецца ў красавіку.

## Праекты

# "Вожык" і "Белорусская нива" — юбіляры аб'ядноўваюцца!

**Юлія АНДРЭЕВА,**
**калаж Аляксандра Каршакевіча**

**"Вожык" — старэйшае і адзінае ў рэспубліцы дзяржаўнае выданне ў галіне сатыры і гумару — адзначае сёлета сваё 70-годдзе. А вядомая рэспубліканская газета "Белорусская нива", галоўнае "вясковае" выданне краіны — 90 гадоў з дня выхаду ў свет свайго першага нумара. Што аб'ядноўвае гэтыя два знакамітыя выданні, акрамя юбілейных дат?**



А тое, што "Белорусская нива" ў пэўнай ступені традыцыйна звязана з "Вожыкам". Пастаянныя чытачы газеты добра памятаюць рубрыку "Пошта дзеда Міхеда". Яе заснаваў і пэўны час вёў паэт Анатоль Астрэйка, які падчас Вялікай Айчыннай вайны быў адказным сакратаром газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну", а пазней — адказным сакратаром часопіса "Вожык". Таму "вожыкаўскія" аўтары былі частымі гасцямі дзеда Міхеда.

У чэрвені рэдакцыя "Белорусской нивы" вярнула папулярную некалі рубрыку на старонкі газеты. Шэфствуе над ёй "Вожык", а легендарны дзед Міхед зноў абжываецца на старонках сялянскай газеты, выкрывае недахопы і хібы, якія яшчэ існуюць у нашым грамадстве. Дарэчы, новая-старая рубрыка адметная тым, што творы ў ёй друкуюцца выключна на беларускай мове. Сустракацца з "Вожыкам" чытачы "Белорусской нивы" будуць штомесячна.

У бліжэйшых нумарах газеты можна будзе пазнаёміцца з гумарыстычнымі творамі Аркадзя Жураўлёва, Валянціна Лукшы, Уладзіміра Правасуда, Паўла Саковіча, карыкатурамі і коміксамі Аляксандра Каршакевіча, Міколы Гіргеля, Алега Папова.

# З увагай да творцаў

**Абласная газета "Мінская праўда" пачала выпуск літаратурнай старонкі "Даляглядзы".**

Цяпер раз на месяц поруч з матэрыяламі пра жыццё вобласці і рэспублікі чытачы змогуць знаёміцца з вершамі, апавяданнямі, творамі іншых жанраў пісьменнікаў рэгіёна. Новы клопат абласной газеты — сумесны праект "Мінскай праўды", Саюза пісьменнікаў Беларусі і газеты "Літаратура і мастацтва".

З просьбай пракаменціраваць пачынанне мы звярнуліся да галоўнага рэдактара газеты, старшыні Мінскай абласной арганізацыі Беларускага саюза журналістаў Мікалая Літвінава: "Ведаеце, літаратурная ніва Міншчыны заўсёды была багатая на таленты. Шмат актыўных у творчым плане людзей — паэтаў, пісьменнікаў, краязнаўцаў — і сёння працуюць і жывуць у розных раёнах вобласці. Памятаючы, што з нашай зямлі — Якуб Колас, Янка Купала, што Міншчыне не чужы Максім Багдановіч, з прыемнасцю можна канстатаваць той факт, што сённяшняя літаратурная супольнасць імкнецца наследваць традыцыі папярэднікаў. Дзякуючы падтрымцы Саюза пісьменнікаў Беларусі — з вітальным словам у першым выпуску выступіў старшыня СПБ Мікалай Чаргінец — і газеце "Літаратура і мастацтва", дзе працуюць аўтарытэтныя пісьменнікі, майстры слова, мы і збіраемся прадаставіць шырокую прастору для публікацый твораў паэтаў, празаікаў, якія ўваходзяць у Мінскае абласное аддзяленне СПБ, а таксама робяць першыя спробы пяра, шукаюць свае сцежкі-дарожкі ў літаратуры".

**Дар'я ШОЦІК**

Літабсягі




# Ад Заходняй Дзвіны пачатак

**Першы яго верш ухваліў Янка Купала, як адоранага паэта ўспрымаў яго Максім Багдановіч. Творчы шлях Янкі Журбы (сапраўднае імя Іван Івашын) распачаўся ў 1909 годзе: у "Нашай Ніве" апублікаваны верш "На беразе Дзвіны". Выступаў ён у друку яшчэ як празаік і публіцыст. Сённяшні чытач мае магчымасць пазнаёміцца са спадчынай аўтара — у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Школьная бібліятэка" пабачыў свет зборнік твораў Янкі Журбы.**

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Нарадзіўся паэт вясной 1881 года ў сялянскай сям'і, з маленства спазнаў цяжар працы, бо разам з бацькам у Чашніках і навакольных вёсках тынкаваў хаты, клаў падмуркі, рабіў печы. Але пашанцавала Януку, бацька знайшоў сродкі на тое, каб даць сыну адукацыю. Ён скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю (1902), пазней — Глухаўскі настаўніцкі інстытут (1909). Вялікую частку свайго жыцця паэт аддаў народнай асвеце, школьнаму будаўніцтву і выхаванню дзяцей.

Відавочна, што адукацыя, ды і прафесія наклалі адбітак на творчасць Янкі. У яго вершах з'явіліся вобразы Праметэя (народа, ужо "раскутага" рэвалюцыяй), гордага сфінкса. Але апроч інтэлектуальнасці, у творах Янкі Журбы можна заўважыць адлюстраванне ўсіх характэрных рыс літаратуры ХХ ст.: ад нацыянальна-адраджэнскіх, народных, міфалагічных, фальклорных матываў у пачатку стагоддзя, вітання рэвалюцыі і новай савецкай рэчаіснасці да пафаснай узнёсласці ў выказванні любові да Радзімы ў сярэдзіне стагоддзя. Бачацца ў вершах і ўплывы рускіх творцаў. І гэта не выпадкова, бо паэт перакладаў на беларускую мову творы рускіх класікаў, у прыватнасці, раман Фёдара Дастаеўскага "Бедныя людзі".

"Янка Журба паводле складу таленту — паэт лірычны, таму яго творчую манеру вызначаюць сардэчная шчырасць пачуцця, эмацыянальна-прачулы лад гаворкі", — заўважае ў прадмове да зборніка доктар філалагічных навук, прафесар Алесь Бельскі. Зазначае ён таксама і тое, што ў сваім самавыяўленні паэт не імкнуўся да творчага эксперыменту, не ўзводзіў у абсалют форму верша, не стараўся стаць футурыстам ці імажыністам. Яго строфы простыя, някідкія, але шчырыя, поўныя любові да роднай Віцебшчыны.

У новым зборніку чытач мае магчымасць пазнаёміцца з самымі знакавымі і яркімі творамі Янкі Журбы. У іх ліку — і вершы для дзяцей, апавяданні "Перад святам" і "Прыгонная душа", публіцыстычныя артыкулы. Дарэчы, у свой час менавіта ў публіцыстыцы Янка Журба быў наватарам. Так, на старонках "Нашай Нівы" ён распачаў серыю допісаў-нататак пад загалоўкам "Лісты з Украіны". Нататкі паклалі пачатак агляду нацыянальна-духоўнага жыцця ўкраінскага народа, беларуска-ўкраінскіх гістарычных, культурных (у тым ліку тэатральных і літаратурных) узаемасувязей пачатку ХХ ст. Ідэю Журбы падхапілі Украінец, А. Б. і малады таленавіты публіцыст Сяргей Палуян.

Артлінія

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**фота Кастуся Дробава**

# Майстры адной эпохі

**З пачатку гэтага года Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ажыццяўляе ўласны праект "Нашы калекцыі", які ўвабраў у сябе творы з усіх яго калекцый. І, як зазначыў дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў, самае галоўнае — гэта работы беларускіх мастакоў, да юбілеяў якіх ладзяцца выстаўкі.**

Раней наведвальнікі маглі азнаёміцца з трыма экспазіцыямі праекта. І вось адкрылася чацвёртая выстаўка — "Гэта было нядаўна…". У экспазіцыі — творы мастакоў-юбіляраў 2011 года ва ўзросце ад 75 да 95 гадоў. Самыя сталыя з іх нарадзіліся за год да Кастрычніцкай рэвалюцыі, самыя малодшыя — у год пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Нехта з іх пакінуў гэты свет, некаторыя і цяпер плённа працуюць. У той ці іншай ступені іх можна назваць людзьмі адной эпохі.

На выстаўцы прадстаўлены 49 мастакоў. Зразумела, што пры такой колькасці ўдзельнікаў магчыма паказаць творчасць кожнага толькі адным-двума творамі, што дае канцэнтраванае, "эпіграфічнае" ўяўленне пра аўтара, пра характар яго светабачання і майстэрства, пра наш нацыянальны здабытак. Такім чынам, увазе наведвальнікаў — 80 работ самых розных кірункаў: жывапіс, скульптура, графіка, ткацтва, плакат. Дадзеная выстаўка — даніна памяці і павагі нашым мастакам, якія зрабілі важкі ўнёсак у беларускую нацыянальную культуру.

Уладзімір Пракапцоў падкрэсліў, што музей ставіць на мэце не толькі адзначыць мастакоў-юбіляраў, але і асэнсаваць іх творчасць з далейшым выданнем альбомаў, каталогаў, рабіць навуковыя даследаванні, вярнуць многія незаслужана забытыя імёны для шырокага кола нашай грамадскасці. Гэта адмысловая спроба нагадаць пра пераемнасць пакаленняў, здабыткі, каб не перарваўся ланцуг часу. Сярод выступоўцаў былі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, удзельнікі выстаўкі, а таксама сваякі мастакоў-юбіляраў.

На выстаўцы можна пабачыць творы майстроў з розных рэгіёнаў Беларусі. Сярод аўтараў — Уладзімір Пасюкевіч "Хакеісты", Віктар Варламаў "Мінск. Няміга", Уладзімір Булыга "Водныя лыжы", Натан Воранаў "Дарога на аўтазавод", Галіна Азгур "Рака Волма", Аляксандр Сямілетаў "Восень", Людміла Ізмайлава "Жаночы партрэт", Леанід Лапчынскі "Раніца", Любоў Пакаташкіна "Станцыя "Таварная", Галіна Гаравая "Лес", Яўген Бусел "Усе дзяўчаткі добрыя, але скуль бабы ліхія бяруцца?", Леанід Дробаў "Партрэт пісьменніка А. А. Шаўні" і інш.

Сапраўдная юбілейная выстаўка вельмі шматгранная ў творчых пошуках і кірунках аўтараў, што, між іншым, дазваляе паказаць высокі мастацкі ўзровень беларускай выяўленчай школы, якую сфарміравалі ў тым ліку і прадстаўленыя мастакі ў розныя перыяды іх творчай дзейнасці.



***На здымку: палатно мастака-юбіляра Барыса Аракчэева "Хлеб".***

Повязі

# Новы крок да пабрацімства

**Сяргей ШЫЧКО**

**У Расіі пабачыў свет першы нумар літаратурна-гістарычнага часопіса "Великороссъ". Прадстаўляючы новае выданне, галоўны рэдактар, вядомы паэт і перакладчык, добры сябар беларускай літаратуры Іван Галубнічы зазначыў: "Часопіс… адкрывае свае старонкі… таксама для таленавітых вершаў і прозы, напісаных у рамках рускай літаратурнай традыцыі ці традыцыі братэрскіх народаў…" Заснаваны як прыватнае і некамерцыйнае выданне, часопіс аб'ядноўвае аўтараў з розных куткоў не толькі Расіі, але і іншых постсавецкіх рэгіёнаў.**




З вострай аповесцю "Перадай па ланцужку" выступае Уладзімір Крупін. А ўвогуле раздзел "Проза" знаёміць з творчасцю Георгія Каюрава, Уладзіміра Глазкова, Алы Сінькоўскай, Юліі Саннікавай. У раздзеле "Паэзія" прадстаўлены вершы Галіны Мамантавай, Ларысы Такун, Юрыя Мінералава, Наталлі Паламарчук, Аляксандра Станішэўскага, Гургена Баранца, Кацярыны Шыдлоўскай, Міхаіла Гарцава, Інакенція Мядзведзева, Вольгі Давыдавай, Вольгі Суханавай. З вершамі ў часопісе "Великороссъ" выступае і паэт з Беларусі Юрый Сапажкоў. Даволі сур'ёзна выглядаюць і іншыя раздзелы новага выдання: "Памяць", "Літаратуразнаўства", "Старонкі гісторыі", "Філасофія", "Публіцыстыка", "Песня славянства". Дарэчы, у апошнім з іх — пераклады з балгарскай паэзіі. Дзімчу Дэбялянава (1887—1916) наноў адкрывае рускаму чытачу Іван Галубнічы.

Наклад першага нумара — 1000 асобнікаў. Шэф-рэдактар выдання — Святлана Замлелава, адказны сакратар — Мікалай Галоўкін.

Не выклікае ніякіх сумненняў, што новы творчы праект зойме сваё месца ў грамадзе сучасных расійскіх літаратурна-мастацкіх выданняў. Прычын на тое некалькі. Па-першае, адчуваецца запатрабаванасць сапраўднай літаратуры, пабудаванай на традыцыях рускай рэалістычнай прозы, грамадзянскай паэзіі. Па-другое, часопіс можа паяднаць на сваіх старонках шырокую грамаду пісьменнікаў, якія працуюць у розных краінах. І найперш — літаратараў, якія ўваходзяць у склад Саюза пісьменнікаў Саюзнай Дзяржавы. У дадатак да часопісаў "Нёман" і "Белая Вежа", якія выходзяць у Мінску на рускай мове, новае выданне пашырае прастору для публікацый тых, хто піша на рускай мове, а магчыма, і прастору для публікацый перакладаў беларускай паэзіі і прозы на рускую мову.

З-пад пяра

Вечар паэзіі Вольгі Норынай "Пакуль на свеце бэз цвіце" сабраў у 5-й публічнай бібліятэцы г. Мінска аматараў жаночай лірыкі і аўтарскай песні. Вечар песнямі на вершы Уладзіміра Караткевіча адкрыў Алесь Емельянаў. Таксама прагучалі вершы і песні на вершы самой Вольгі ў выкананні мінскага барда Сяргея Панамарова і пісьменніка Сяргея Трахімёнка. На вечары выступілі Мікола Маляўка, Юры Гарбачоў, Яна Явіч.

**Алена КАЛЕЙНІК**

Унікальны праект "Яна не можа сказаць НЕБА" прадстаўлены ў галерэі сучаснага мастацтва "Ў". Тэмай выставы стала ўнутраная міграцыя мастака. Праблемы жыцця, думкі і пачуцці чалавека — тое, што падштурхнула мастакоў знайсці новыя формы. Праект "Яна не можа сказаць НЕБА" журы міжнароднага форуму "ART VILNIUS`11" назвала лепшай экспазіцыяй, падрыхтаванай замежнай галерэяй.

**Дар'я ШОЦІК**

Упраўленне выхаваўчай працы з моладдзю Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Інстытут журналістыкі БДУ абвясцілі конкурс на лепшую малатыражную студэнцкую газету. Праводзіцца ён будзе сярод студэнтаў БДУ дзённай формы навучання, а прызавы фонд конкурсу складае 1 950 000 бел. руб. Да ўдзелу запрашаюцца факультэцкія студэнцкія газеты, газеты моладзевых грамадскіх аб'яднанняў і газеты органаў студэнцкага самакіравання БДУ. Тэматыкай конкурснага выпуску выданняў стане юбілей — сёлета БДУ споўніцца 90 гадоў. Матэрыялы прымаюцца да 29 верасня ўключна ў галоўным вучэбным корпусе БДУ.

Мода на курэнне даўно прайшла, ды і кідаць фанцік ад цукеркі міма сметніцы таксама не камільфо. Для тых, хто неабыякавы да навакольнага асяроддзя і свайго ладу жыцця, 12—14 жніўня 2011 года адбудзецца экалагічны маладзёжны фестываль "Браты Грын", ініцыятарам якога выступае Цэнтр экалагічных рашэнняў. Фестываль будзе ўяўляць сабой адкрытую пляцоўку ў адным з дзіцячых лагераў Мінскай вобласці, на якой будуць арганізаваныя шматлікія майстар-класы, перформансы, прэзентацыі. Да ўдзелу ў фестывалі плануецца прыцягнуць больш як 200 гасцей з Беларусі, краін Балтыі і Скандынавіі.

Арганізатары XVIII Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад", які пройдзе з 5 па 12 лістапада, вядуць актыўную працу па фарміраванні праграмы кінафоруму. Для адбору праграмных фільмаў і атрымання новага вопыту беларускія кінематаграфісты наведалі вядучыя еўрапейскія кінафорумы. Упершыню на 64-м міжнародным Канскім кінафестывалі быў адкрыты нацыянальны павільён Беларусі. Паспяховая праца на працягу двух гадоў (манавіта на такі выпрабавальны тэрмін фестывалю прадастаўлена акрэдытацыя Міжнароднай федэрацыі асацыяцый кінапрадзюсераў (FIAPF)) у будучым дасць магчымасць "Лістападу" стаць у адзін шэраг з найбольш прэстыжнымі сусветнымі кінафорумамі, сярод якіх Берлінскі, Канскі, Венецыянскі фестывалі.

**Алена ШАНДРАК**

# Неразлучная пара — Алесь і Тамара

**Кожны чалавек крочыць сваімі жыццёвымі сцежкамі. І чым далей будзе адыходзіць ад сваёй першай сцежкі, тым больш іх будзе: вузкіх і шырокіх, каротких і доўгіх, крутых і гладкіх. Ад таго, якую чалавек выбярэ, будзе многае залежаць у набыцці ўласнага вопыту, без якога жыццё не жыццё. Калі ў чалавека адбываецца нешта важнае, гэта адкладаецца ў памяці вузельчыкам, і калі такіх вузельчыкаў усё больш, тады ўзнаўляецца ўсё, што сустракалася на пройдзеным шляху. Адно больш прыкметнае, другое — менш. Гэтыя мудрыя словы-разважанні я пачула ад Алеся Пальчэўскага ў дзень яго сямідзесяціўгоддзя. Успамінаюцца яны і цяпер, калі споўнілася трыццаць гадоў, як яго няма разам з намі.**



Алена МІМРЫК

Ён і яго жонка Тамара Цулукідзе апякалі мяне з дня нашага знаёмства як родную дачку. Гэты клопат я адчувала заўсёды.

Тамара Рыгораўна нарадзілася ў 1903 годзе ў Грузіі — прыгожым сонечным краі са шматлікімі вінаграднікамі, чайнымі плантацыямі, хуткаплыннымі рэкамі. Гэтае хараство роднай зямлі, духоўнае багацце народа і адлюстравана ў яе творчасці. Яна была адной з вядучых актрыс Тбіліскага акадэмічнага тэатра імя Руставелі, сыграла шмат розных роляў.

Праўду кажуць, што шчаслівыя людзі — закаханыя. Вось такім закаханым у Тамару Рыгораўну быў Алесь Восіпавіч. І ў змаганні з жыццёвымі нягодамі яна стала яму вернай сяброўкай. Ён ніколі не хаваў пяшчоты да яе, заўсёды любаваўся



ёю. А сустрэліся яны ў высылцы на Поўначы, куды закінуў іх лёс.

У лагерах і высылцы сустракаліся цудоўныя людзі. Алесь Восіпавіч і Тамара Рыгораўна дзівіліся іхняй моцы, духоўнай цярплівасці і чалавечнасці, справядлівасці і нястомнаму парыву тварыць дабро, верыць у лепшае жыццё, дапамагаць сваім таварышам па няшчасці, падтрымліваць іх.

У высылцы Алесь Восіпавіч і Тамара Рыгораўна пасяліліся ў старой хаціне. Суседзі казалі, што ёй не менш як сто гадоў: яна была зрублена так, як будавалі ў пазамінулым і мінулым стагоддзях, сякерай. Знадворку — зусім развaліна. А ўсярэдзіне — акуратна і прыгожа аздоблена. Яны самі адрамантавалі хату. Калі сябры-таварышы прыходзілі да іх, захапляліся майстэрствам Алеся Восіпавіча і Тамары Рыгораўны: "Як хораша ў вас! Як утульна!"

Жылі яны дружна, стараліся аблегчыць жыццё адно аднаму. Алесь Восіпавіч — цяжка паверыць — хадзіў на працу ў брыгаду цесляроў, а Тамара Рыгораўна гаспадарыла ў хаце і на агародзе. І як бы ён ні быў стомлены, заўсёды ўваходзіў у хату з песняй і жартам на вуснах. Як бы ні гняло яго жыццё, ён усё роўна заставаўся пісьменнікам. Часта засяджваўся за сталом да раніцы.

Нарадзіўся Алесь Восіпавіч Пальчэўскі ў студзені 1905 года ў вёсцы Прусінава на Узджэншчыне. Быў адзінаццатым дзіцём у сялянскай сям'і.

Малы Алеська больш хіліўся да маці, шкадаваў яе за цяжкую працу: трэба было і сям'ю накарміць, абмыць і абшыць, і парадак навесці ў хаце і за яе сценамі, і дачок навучыць гэтаму майстэрству.

Малыя любілі сядзець каля маці, назіраць, як яна латае бялізну ці шые новую. Але больш за ўсё любілі слухаць казкі альбо праўдзівыя здарэнні.

А тата з чатырнаццацігадовым Уладзікам яшчэ на досвітку выпраўляліся ў заробкі: вазілі з лесу бярвенне да Нёмана. Увесну плытнікі павязвалі іх і ганялі плыты аж да Коўна. Вярнуўшыся, расказвалі пра дзівосны горад з вялікімі люстранымі вітрынамі.

Алеська пачатковую школу скончыў з добрымі адзнакамі, паступіў у вышэйшае пачатковае вучылішча ў Новым Свержні. Быў актыўным культармейцам: дапамагаў ліквідоўваць непісьменнасць сярод моладзі, займаўся зборам падпіскі на газеты, пачаў сам пісаць у "Савецкую Беларусь" і "Беларускую вёску". Першыя допісы, першыя замалёўкі вясковага побыту, надрукаваныя ў газетах, акрылілі яго. Вялікае жаданне вучыцца не давала спакою. І шчасце напаткала яго. Улетку 1925 года Уздзенскі райана за актыўны ўдзел у ліквідацыі непісьменнасці сярод сялян, за распаўсюджванне друкаванага слова паслаў яго на рабфак БДУ.

Незабыўная раніца. Бацькі, сястра Волька і ён стаяць на ганку, побач — самаробны дашчаны куфэрак з Алесевым скарбам. Надыходзіць хвіліна расставання.

— Усе вы ростам у бацьку. Галавы твае не дастаць, — кажа да Алеся маці. — Нахіліся, я бласлаўлю цябе, — і дзве буйныя слязіны падаюць на яго загарэлую шыю.

Тата адвозіць яго на станцыю Негарэлае. Развітваецца з ім:

— Перад табою, сынок, шырокая дарога ў свет. Ідзі па ёй, ды ніколі не забывайся, што ты чалавек.

У 1931 годзе Алесь Восіпавіч скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Але настаўнікам працаваць не давялося — быў накіраваны на газетна-выдавецкую працу. Крыху пазней яго прызначылі адказным сакратаром дзіцячага часопіса "Іскры Ільіча" (будучы часопіс "Бярозка").

Вучні старэйшых класаў і сёння з захапленнем чытаюць апавяданні і аповесці, у якіх пісьменнік раскрывае прыгажосць і багацце роднай прыроды, вучыць ставіцца да яе з павагай. Ён любіў родныя палеткі, не раз праходжаныя ім, таму мілыя і дарагія сэрцу. Любіў таксама блукаць па лясных сцяжынах, прадзірацца праз непралазныя гушчары, буралом і зараснікі да знаёмай паляны сярод прыгажунь бяроз і медностволых соснаў. Тут ён адпачываў. Тут пад шэпт лістоты прыходзілі ў галаву розныя думкі, нараджаліся новыя сюжэты для будучых твораў.

Праблема шчасця заўсёды хвалявала пісьменніка. Сумленны, праўдзівы, зычлівы, ён быў непрымірымым да ўсяго, што перашкаджала жыццю. Ён асабіста падтрымліваў у нялёгкую часіну многіх нават малавядомых яму людзей. За свае сродкі ўпарадкаваў у роднай вёсцы могілкі і дарогу, у сваёй кватэры прапісаў маладога пісьменніка Генрыха Далідовіча, апякаў пісьменніцу Клаўдзію Каліну, мяне і маю сям'ю.

Часта, ідучы з Дома літаратараў, непадалёк ад якога мы жывём, ён і Тамара Рыгораўна заходзілі да нас і, вядома, заўсёды з рознымі падарункамі. Аднаго разу ён пачуў, як мая малодшая дачка Анюта адмаўлялася нешта зрабіць, пасадзіў яе на калені і параіў: "Ніколі не кажы: не, не буду, не хачу! Забудзь гэтае "не". Яно прыніжае чалавека. А кажы: так, буду, хачу! За гэта цябе будуць усе любіць, вось паглядзіш". На ўсё жыццё запомніла Анюта гэтыя словы Алеся Восіпавіча. А Тамара Рыгораўна надзела ёй невялікі заплечнік і мовіла: "Яго я прывезла з Грузіі. Бачыш, як прыгожа размаляваны. Пакладзеш усё, што трэба для вучобы. Галоўнае, вучыся на пяцёркі. Жадаем, каб у цябе ўсё ладзілася".

З Алесем Восіпавічам мы сустракаліся амаль кожны дзень на рабоце, калі я прыходзіла ў "Вясёлку" ці калі ён заходзіў да нас у "Бярозку". Адчыніўшы дзверы і павітаўшыся з трыма "тузамі": Васілём Віткам, Алесем Восіпавічам і Сяргеем Грахоўскім, пачуўшы іхняе прывітанне, я дзівілася, з якой радасцю прывячаюць мяне гэтыя "тузы" (многія аўтары называлі іх так).

Мне было прыемна, што Алесь Восіпавіч заўсёды спакойна прымаў мае заўвагі. Памятаю, я чытала арыгінал апавядання пра футбол. Алесь Восіпавіч і Васіль Вітка не разбіраліся глыбока ва ўсіх тонкасцях гэтай гульні і не заўважылі недакладнасцей аўтара — ён пераблытаў ролю паўабаронцы з роляй нападаючага. І наогул, у апавяданні было некалькі недарэчных момантаў. А я, маючы мужа майстра спорту СССР па футболу, заслужанага трэнера БССР, была заўзятай балельшчыцай. Не прапускала ніводнага матча. Вітка і Пальчэўскі падзякавалі мне за пільнасць.

Заўважыўшы мае праўкі, веданне вёрсткі, шрыфтоў, уменне падлічыць тэкст, Алесь Восіпавіч параіў галоўнаму рэдактару "Бярозкі" Касцусю Кірэенку перавесці мяне на іншую пасаду. Праз некаторы час мяне прызначылі адказным сакратаром "Бярозкі", дзе я прапрацавала трыццаць два гады.

Спачатку было складана, ды ва ўсім стараўся мне дапамагчы Алесь Восіпавіч. Я старалася выхоўваць у хлопчыкаў і дзяўчынак пачуццё любові да роднай зямлі, вучыць іх быць вернымі змагарамі за праўду, шчасце людзей. На ўсё жыццё запомніліся мне словы Алеся Восіпавіча: "Любі свой край усёй душою, усім сэрцам, як і належыць чалавеку. Бо толькі зверу абыякава, каму належыць лес, у якім ён жыве..."

Некалькі разоў ездзілі з Алесем Восіпавічам і Тамарай Рыгораўнай у Прусінава. Аднойчы, адпачыўшы з дарогі, Алесь Восіпавіч прапанаваў: "Давайце, жанчынкі, сходзім на прыроду".

Хто ж ад гэтага адмовіцца?! І мы, узяўшы з сабою посцілку, кіруем да Нёмана. Перад намі распасціраецца шырачэзны луг з волатамі дубамі. Ідзём берагам ракі, любуемся бялюткімі з жоўтым вочкам рамонкамі, а каля ног быццам звіняць блакітныя званочкі.

Расчуленыя прыгажосцю наваколля, мы прыселі на сонечнай палянцы на толькі што скошаным духмяным сене і, як зачараваныя, удыхалі свежае паветра, ад якога аж кружылася галава. Тады перайшлі ў цень разгалістага дуба. Прымасціліся каля яго ствала і, успомніўшы песню пра Нёман, пачалі спяваць: "Ой, Нёман, ой, бацька наш Нёман..." Голас Алеся Восіпавіча станавіўся больш упэўнены. І вось ужо выразна льецца песня пра магутную, нястрымную раку.

> ***"Праблема шчасця заўсёды хвалявала пісьменніка. Сумленны, праўдзівы, зычлівы, ён быў непрымірымым да ўсяго, што перашкаджала жыццю. Ён асабіста падтрымліваў у нялёгкую часіну многіх нават малавядомых яму людзей. За свае сродкі ўпарадкаваў у роднай вёсцы могілкі і дарогу, у сваёй кватэры прапісаў маладога пісьменніка Генрыха Далідовіча, апякаў пісьменніцу Клаўдзію Каліну...***

Алесь Восіпавіч папрасіў мяне праспяваць венгерскую народную песню "Адлятаюць жураўлі". Гэтая песня з сумнай мелодыяй кранала яго душу. Спяваючы, я пазірала на Алеся Восіпавіча і, калі ўбачыла, як ён хвалюецца, падумала: "Відаць, нешта ўспомніў. Што ж, у кожнага свая памяць". Мне спадабалася, як хараша падпявала Тамара Рыгораўна.

Уранні я выйшла на двор і прымасцілася на лавачцы непадалёк ад разгалістай бярозы, сумелася ад неспадзеўкі, убачыўшы птушак, якія лёталі да прымацаванай на суку шпакоўні. Адтуль чуўся піск птушанят. Шпак улазіў у акенца, карміў іх і адлятаў. Ды раптам з круглага акенца вываліўся шпачок і паляцеў уніз.

"Дзе ж ён?" — захвалявалася я і памкнулася да бярозы. Убачыўшы птушаня ў траве, пашкадавала яго, злавіла і панесла ў хату.

— Ой, дзе вы ўзялі яго?! — усклікнула Тамара Рыгораўна.

— Пад бярозай знайшла. Вываліўся са шпакоўні.

— Трэба пакласці яго назад, — прамовіў Алесь Восіпавіч. — Хадземце. — Алесь Восіпавіч прыставіў драбіны да ствала бярозы і пачаў памалу падбірацца да шпакоўні. Не паспеў паднесці птушаня да акенца, як на яго наляцела шпачыха, і Алесь Восіпавіч ледзь не зваліўся долу. Але ўсё абышлося.

— Вось вам сюжэт для апавядання, — параіў мне ён.

Аднаго дня Алесь Восіпавіч і Тамара Рыгораўна паклікалі мяне ў госці. Як заўсёды, Тамара Рыгораўна частавала нас грузінскімі стравамі і печывам. А яе сацыві, лобіо і слаёныя піражкі з мясам не забываюцца да гэтай пары. Тут, за сяброўскай бяседай, вяліся гарачыя спрэчкі, гучалі песні. Спявала і Эдзі Агняцвет. Раней я не чула яе спеваў і нават не ведала, што ў яе цудоўнае каларатурнае сапрана. Заслухаешся! А калі прыйшлі Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Мяжэвіч і Васіль Хомчанка, стала зусім шумна, чуліся жарты, смех. У гэты момант прыемна было назіраць за Алесем Восіпавічам. Вочы яго свяціліся радасцю. Цудоўная кампанія!

Неўзабаве вялікія аматары шахмат Уладзімір Мяжэвіч і Васіль Хомчанка селі за шахматную дошку. Гуляць у шахматы — таксама мастацтва. У гэтай гульні ёсць свая прыгажосць. У пакоі стаяла ціша. Мяжэвіч засяроджана думаў і то абдымаў рукамі высокі лоб, то апускаў іх уніз. А Хомчанка пазіраў на столь. Па ўсім было відаць, што іх абодвух захапляла барацьба. Яны і за сталом працягвалі абмяркоўваць розныя камбінацыі, пакуль Алесь Восіпавіч не спыніў іх, убачыўшы ў дзвярах Васіля Вітку, які крыху запазніўся.

Такія сустрэчы прыносілі мне вялікую радасць, пакінулі ў жыцці значны след. Іх ніколі не забываю, як і дарагога майго настаўніка Алеся Пальчэўскага, дзівоснага чалавека, які знаходзіў для кожнага добрае, суцяшальнае слова, і Тамару Рыгораўну, простую, шчырую і душэўную. Гэта была неразлучная пара.

Я амаль кожны дзень наведвала Алеся Восіпавіча. Ён ляжаў у адной палаце з пісьменнікам Янам Скрыганом. У абодвух быў інсульт. Алесь Восіпавіч не мог размаўляць. Цяжка было глядзець на яго пакуты. Узіраецца ў цябе сумнымі вачыма, быццам хоча нешта сказаць, ды не можа. Але мы з Тамарай Рыгораўнай крыху разумелі яго, і, калі рабілі, што яму патрэбна, ён у знак згоды заплюшчваў вочы.

Памёр Алесь Пальчэўскі на парозе свайго 75-годдзя.

На пісьмовым стале стаіць скульптура вялікага рускага спевака Фёдара Шаляпіна. Калі Алесь Восіпавіч дарыў мне яе на дзень нараджэння, ці то іранічна, ці то сур'ёзна мовіў: "Няхай гэтая скульптура нагадвае вам пра мяне. Усе кажуць, што мы з Шаляпіным вельмі падобныя".

Я гляджу на яе, і думкі мае пераносяцца праз усё жыццё, спыняюцца ў Прусінаве, дзе побач з магіламі бацькоў на высокай наднёманскай кручы знайшоў сваё вечнае супакаенне Алесь Пальчэўскі. Ён пакінуў нам багатую спадчыну. Памяць пра яго ўвесь час саграваe маё сэрца, як і сэрцы ўсіх, хто меў гонар ведаць яго і працаваць з ім, гэтым цудоўным, прыгожым чалавекам.

***На здымках: Тамара Цулукідзе, 1965 год; адказныя сакратары часопісаў "Бярозка" і "Вясёлка" Алена Мімрык і Алесь Пальчэўскі, 1972 год .***

Вераніка КУРЦОВА,
загадчык аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовы і літаратуры

# Даследчык народных скарбаў

**Кожны народ пазнаецца па тых нацыянальных каштоўнасцях, якія застаюцца ў спадчыну не толькі яго нашчадкам, але і ўсёй чалавечай супольнасці. За кожным нацыянальным артэфактам, за кожным яго духоўным набыткам — праца выбітных асоб: навукоўцаў, паэтаў, мастакоў. Да ліку тых, хто займаўся стварэннем вышэйшых культурна-гістарычных каштоўнасцей беларускага народа, належыць Юзэфа Мацкевіч.**



Юзэфа Фларыянаўна — вядомы беларускі дыялектолаг, светлы, добры, інтэлігентны чалавек. Яна пачынала працу на пасадзе навуковага супрацоўніка, з 1950 па 1986 год узначальвала сектар (пазней аддзел) дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, закончыла працоўны шлях у званні доктара філалагічных навук, члена-карэспандэнта. У 1978 г. працу слыннага беларускага навукоўца-даследчыка адзначыла дзяржава, надаўшы Юзэфе Фларыянаўне званне заслужанага дзеяча навукі БССР.

У якасці сааўтара Ю. Мацкевіч удзельнічала ў стварэнні такіх выданняў, як "Нарысы па гісторыі беларускай мовы" (1957 г.), "Курс сучаснай беларускай мовы. Марфалогія" (1957 г.), "Русско-белорусский словарь" (1953 г.), асабіста падрыхтавала манаграфічнае даследаванне "Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове" (1959 г.). Але па-сапраўднаму агромністую працу правяла Юзэфа Фларыянаўна ў галіне нацыянальнай дыялекталогіі.

Яна аўтар і рэдактар двух лінгвагеаграфічных атласаў — "Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы" (1963 г.) і "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак" у 5 тамах (1993—1998 гг.). Юзэфа Фларыянаўна не толькі сама рабіла карты, але і з'яўлялася нязменным рэдактарам дадзеных прац. Асэнсаваннем атрыманых вынікаў працы над першым нацыянальным "Дыялекталагічным атласам беларускай мовы" сталі калектыўныя выданні "Нарысы па беларускай дыялекталогіі" (1964), "Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак" (1968—1969 гг.), практычным дадаткам — "Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі" (1962 г.). За комплекс гэтых інавацыйных для тагачаснай савецкай навукі прац аўтарскі калектыў у 1971 годзе быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР. У 2000 годзе былы загадчык аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі разам са сваімі калегамі па навуковай дзейнасці за стварэнне лінгвістычнага атласа "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" у 5 тамах атрымала Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь. За атрыманымі ўзнагародамі — невераґодная працоўная і навуковыя высілкі. Пра гэта яскрава расказваюць лічбы. Напрыклад, каб падрыхтаваць да друку "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы", даследчыкамі вырашана было абследаваць каля 1200 населеных пунктаў. Гэты велізарны аб'ём работы быў выканаы на працягу некалькіх гадоў. Праца над дыялекталагічным атласам пачалася ў 1948 г. і працягвалася да 1955 г. У выніку сістэматызацыі і апрацоўкі назапашаных матэрыялаў у канчатковы варыянт "Дыялекталагічнага атласа..." было ўключана 338 лінгвістычных карт і 8 інфармацыйна-даведачных. Для рэалізацыі такога буйнога праекта былі прыцягнуты выкладчыкі ўсіх тагачасных вышэйшых навучальных устаноў. Аднак асноўны цяжар, і найперш арганізацыйны, выпаў на Нацыянальную акадэмію навук, на Інстытут мовазнаўства, перадусім аддзел дыялекталогіі. Яго ўзначальвала Юзэфа Фларыянаўна. Яна і была галоўным арганізатарам і каардынатарам той працы.

Каб падрыхтаваць да выдання "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак", навукоўцам неабходна было наведаць 142 населеныя пункты (пазней іх колькасць вырасла да 149) і запісаць адказы на 3972 пытанні. З іх 1700 пытанняў былі абавязковымі. Ю. Мацкевіч здолела так арганізаваць збіральніцкую працу, на такі ўзровень паставіць яе значнасць, што праца мела статус дзяржаўнага навукова-га мерапрыемства.

На працягу ўсяго 5 гадоў (з 1971 па 1975 гг.), калі непасрэдна збіраўся матэрыял, значная колькасць звестак адначасова перапраўвералася і ўдакладнялася, для чаго навукоўцамі было здзейснена звыш 200 выездаў на даследчыя аб'екты і апытана за час збірання дыялектнага матэрыялу 1111 асоб. Аналітычная праца, накіраваная на складанне лінгвагеаграфічных карт, цягнулася з 1976 па 1980 гг. Першапачатковы варыянт лексічнага атласа, у якім на адпаведнай навуковай базе дэманстраваліся набыткі беларускай нацыянальнай мовы, быў падрыхтаваны да друку ў 1980 г. Як жа трэба было працаваць самому кіраўніку гэтага праекта Юзэфе Мацкевіч і як здолець арганізаваць аўтарскі калектыў, каб за такі непрацяглы час падрыхтаваць да друку шматтомнае фундаментальнае навуковае даследаванне.

Юзэфа Фларыянаўна любіла жывую працу з людзьмі, шмат часу праводзіла сярод вяскоўцаў, руплівa занатоўваючы кожнае пачутае ад іх слова. Яе шматлікія экспедыцыйныя выезды сталі, відаць, штуршком для складання адметнага лексікаграфічнага дыялекталагічнага даведніка "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча" ў 5 тамах (1979—1986 гг.). Адрознасць яго ад іншых выданняў такога тыпу ў тэрыторыі, з якой збіраліся лексічныя матэрыялы для будучай працы. Каб рэалізаваць гэтую задуму, неабходна было аб'яднаць даследчыкаў іншых дзяржаў — Польшчы, Літвы, дамовіцца пра супрацоўніцтва з Інстытутам мовы і літаратуры імя А. Упіта Латвійскай ССР, зладзіць інтэрнацыянальныя дыялекталагічныя экспедыцыі, а таксама распрацаваць метадалагічныя прынцыпы ўкладання матэрыялу ў слоўніку.

Юзэфа Фларыянаўна ўсё сваё навуковае жыццё не проста займалася стварэннем прац, якія сёння без перабольшвання можна аднесці да агульнацыянальных культурна-гістарычных каштоўнасцей, гэта перадусім дыялекталагічны і лексічны атласы. Многія моўныя з'явы былі разгледжаныя і прааналізаваныя ёй у спецыяльных артыкулах, змешчаных у розных навуковых беларускіх і замежных выданнях. Асаблівай увагі заслугоўваюць яе артыкулы, у якіх разглядаюцца шматлікія лексічныя асаблівасці, выказваюцца цікавыя думкі пра прычыны іх паходжання ў беларускіх гаворках. Наогул Ю. Мацкевіч напісала звыш 80 навуковых прац. Яе апантанасць, самаахвярнасць у служэнні навуцы, грамадзянская актыўнасць была высока ацэнена дзяржавай. Яна ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў, медалём "За доблесную працу", Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Але калегі і вучні запомнілі Юзэфу Фларыянаўну не толькі як слыннага даследчыка, арганізатара дыялекталагічнай працы ў нашай рэспубліцы, а найперш як простага, цудоўнага чалавека. Яна мела шчодрае сэрца. Усім старалася дапамагчы, яе чалавечага цяпла хапала на кожнага.

Лёс Юзэфы Фларыянаўны склаўся так, што сямейныя клопаты саступалі месца навуковым, але яна любіла свой родны дом, захоўвала сямейныя традыцыі, з задавальненнем прымала гасцей. Яе цёплы дом наведаў не адзін замежны даследчык, калега па працы. Камфортна было ўсім, і асабліва радавалася Юзэфа Фларыянаўна. Яе вочы праменіліся шчасцем, твар асвятляла шчырая ўсмешка, якой яна, тады ўжо амаль невідушчая, адорвала кожнага. З ёй было проста цікава, бо гэта быў чалавек высокай духоўнасці, свой і ў навуковых колах, і сярод вясковых жыхароў. Такой дэмакратычнай, шчырай у зносінах з людзьмі і апантанай у здзяйсненні задуманага мы і ўспамінаем яе сёння.

Агагельды АЛАНАЗАРАЎ,
пісьменнік, г. Ашхабад

# Пераклічка

## *Успаміны пра сябра і брата па пяру Мікалая Калінковіча*



Ужо некалькі гадоў пішу гэтыя кароткія ўспаміны. Нібы праходзіць перада мной пераклічка тых людзей, з якімі я сустрэўся і пасябраваў на сваім шасцідзесяцігадовым жыццёвым шляху.

Калі чытаю іх імёны, нібы старшына перад строем, адзін з іх выгукае:

— Я, Мікалай! Коля Калінковіч…

Мы пазнаёміліся тады, калі Мікалай працаваў у Туркменіі ў органах дзяржбяспекі. Ён курыраваў нас, выдаўцоў і пісьменнікаў. Таму мы часам сустракаліся з ім у рэдакцыях, выдавецтвах.

У той час у газетах і часопісах пачалі з'яўляцца яго першыя нарысы. Матэрыялы зацікавілі чытачоў дакументальнасцю і шчырасцю. Мікалай адкрыў забытыя і недаступныя старонкі гісторыі. Блізка я пазнаёміўся з ім тады, калі выйшла ў свет мая гістарычная аповесць "Падарожжа да сябе і ўдалечыню".

У творы ёсць расповед пра жыццё генерала Скобелева — заваёўніка крэпасці Гёк-Тэпэ. Гёк-Тэпэ была апошняй крэпасцю, якую жорстка скарыў генерал. Там ён надоўга затрымаўся. Прычынай гэтага было славалюбства генерала. Ён хацеў заваяваць крэпасць з трыумфам, але, паводле шматлікіх сведчанняў удзельнікаў штурму, "тэкінцы біліся, як ільвы". Генерал ясна ўсведамляў, што ў рукапашным баі рускім не выстаяць, таму вырашыў пазбегнуць дастойнага змагання і дзейнічаў хітрасцю. Таемна зрабіўшы падкопы, ён паклаў порах і арганізаваў выбух крэпасці разам з яе жыхарамі. У тыя дні перад штурмам мастак Верашчагін пісаў свайму брату: "Скобелеў не ў гуморы, ён нешматслоўны, бубніць, як дэльфійскі аракул…" Тады шмат хто не разумеў, чаму Скобелеў такі раздражнёны і незадаволены.

У сваёй аповесці я расказаў, чаму ён мог быць такім. На гэта былі дзве прычыны. Першая: ворагі аказаліся мацнейшымі і не такімі палахлівымі, як тыя, з кім раней даводзілася змагацца. Другая прычына была звязана з яго маці Вольгай Міхайлаўнай.

Дагэтуль яна з вялікімі грашыма вандравала па ўсёй Балгарыі, каб праславіць свайго сына і ў будучыні пасадзіць яго на балгарскі трон. Аднойчы па шляху ў Казанлык, куды Скобелева ехала з агітацыяй, яна сустрэла паручыка Узаціса, былога ад'ютанта свайго сына, які ехаў з двума харватамі. Яны разагналі ахову і забілі Вольгу Міхайлаўну. Пра гэта Скобелеў даведаўся перад самым штурмам крэпасці.

Калі аповесць з'явілася ў друку, да мяне зайшоў Мікалай. Ён спытаў мякка і зацікаўлена:

— Агагельды, тое, што ты напісаў пра Скобелева, праўда? Ці гэта прыдуманы мастацкі вобраз?

— Так, праўда. Ёсць дакумент.

Я распавёў яму, як трапіў гэты дакумент да мяне ў рукі. Калі я вучыўся ў Маскве, у гістарычным архіве і знайшоў пацвярджэнне гэтага факта. Пасля Мікалай Мікалаевіч удакладняў, дзе менавіта ён знаходзіцца, у якім фондзе, у якой справе. Я сказаў што ведаў. Хутка высветліў, што нібыта сам першы намеснік старшыні КДБ рэспублікі, генерал Мікалай Агамырадавіч Авезаў зацікавіўся мной. Магчыма, не толькі ён. Калі праз некалькі гадоў мяне пазнаёмілі з гэтым генералам, ён, пачуўшы маё прозвішча, спытаў:

— Ці не ты гэта пісаў пра маці Скобелева?

Пасля дадаў:

— Гэтым матэрыялам і нас таксама зацікавіў.

І ён згадаў, што іх супрацоўнік Мікалай Калінковіч перакана́ў усіх, што гэта не мастацкі вымысел, выкліканы шавіністычным настроем, а гістарычна праўдзівы матэрыял.

Толькі тады я даведаўся, як ён абараніў мяне. А маглі і інакш патлумачыць маю аповесць, калі б не Мікалай.

Пасля гэтага выпадку мы сталі сустракацца часцей, не толькі ў рэдакцыі, але і за сталом, і з розных нагод. Як пісьменнікі, дзяліліся меркаваннямі. Аднойчы ён прынёс мне гістарычна-дакументальны нарыс пра аднаго старога чэкіста. Тэкст быў невялікі — сем-восем старонак. Пакуль Мікалай піў гарбату ў маім кабінеце, я азнаёміўся з матэрыялам. Нарыс быў напісаны добра. Але пра яго героя ў народзе бытавала негатыўнае меркаванне. Ён, як і яго старэйшы брат, у свой час замучыў многіх людзей, кагосьці забіў сам, кагосьці адправіў у турмы. Калі стаў адным з партыйных кіраўнікоў, то многае "выкрасліў" у класічнай туркменскай літаратуры. Да гэтых кніг над пагрозай турэмнага зняволення нельга было дакранацца. Калі я распавёў Мікалаю пра "гераізм" яго героя, ён задумаўся. Забраў нарыс і ніколі нідзе яго не друкаваў.

У Ашхабадзе яго літаратурныя творы неаднойчы выходзілі асобнымі кнігамі. Як чалавек, нягледзячы на тое, што ён займаў высокую пасаду, Мікалай быў вельмі просты. Я ніколі не бачыў яго ганарыстым, пыхлівым... Дагэтуль, калі кажуць пра сапраўднага чэкіста, я заўсёды адным з першых згадваю свайго сябра Колю Калінковіча.

Апошні раз я бачыўся з ім перад распадам Савецкага Саюза.

...Аднойчы тэлефануе мне намеснік рэдактара "Туркменской искры" Сухамозскі і радасным голасам паведамляе:

— Агагельды, адзін чалавек хоча паразмаўляць з табой.

Чую голас Колі.

— Ты? Якім ветрам?

— Захацелася ўбачыцца. Вось і прыехаў.

— Ты цяпер у Ашхабадзе?

—Так, уяві сабе, у кабінеце намесніка рэдактара чакаем цябе!

У той час ён ужо не працаваў у Ашхабадзе. Яго перавялі на працу ў Грузію.

Пасля сяброўскіх абдымкаў Сухамозскі зачыніў кабінет. Коля прывёз з Грузіі дзве бутэлькі чырвонага віна. Весела пілі мы за сустрэчу, за сяброўства. Коля сказаў, што заўтра вяртаецца ў Грузію, мы па-сяброўску абняліся і сказалі адзін аднаму "Да сустрэчы". Яму не хацелася з'язджаць з Ашхабада, але служба ёсць служба. А гэта, як аказалася, была наша апошняя сустрэча. Пазней я пачуў, што сябра трагічна загінуў у Грузіі.

Ірына БАЖОК

# Статыка думкі

## Філасофская аснова інтэлектуальнай паэзіі

Доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан сцвярджае, што “вопыт гісторыі філасофіі засведчыў: у спакойныя, “традыцыйныя” эпохі яна акцэнтуе ўвагу на тлумачэнні сутнасці быцця і культуры; у драматычныя, пераходныя эпохі, на стыку стагоддзяў і тысячагоддзяў, філасофія становіцца крытычнай, бо вызначае момант перарыву традыцыяў, станаўленне новых філасофскіх парадыгмаў”. Актуалізуецца **філасофскае пытанне** на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў. У канцы XX стагоддзя “здае” свае пазіцыі **“філасофія жыцця”**.

Паміж інтэлектуалізмам і філасафічнасцю немагчыма правесці дакладна вызначаную мяжу. Я. Гарадніцкі звяртае ўвагу на тое, што паняцці “філасафізм” і “інтэлектуалізм” у літаратуразнаўстве і крытыцы змешваюцца і падмяняюцца адно адным. Больш як дваццаць год таму адбылася актыўная “інтэлектуалізацыя паэзіі”. Гэта было звязана ў першую чаргу з інавацыямі ў эканамічнай, тэхнічнай і грамадзянскай сферах. Так, касмічныя даследаванні, развіццё тэхнікі значна пашырылі погляд чалавека на свет. Я. Гарадніцкі сцвярджае, што “дыялектыка агульнага і канкрэтнага, “зямлі” і “неба” ў сучаснай беларускай паэзіі праяўляецца надзвычай выразна, яна абумоўлена спецыфічнасцю светаўспрыняцця сучаснага чалавека”. Рускі тэарэтык літаратуры Ю. Бораў таксама звязвае **інтэлектуалізацыю мастацтва з ускладненнем і паскоранасцю гістарычнага працэсу**.

У тэарэтычным асэнсаванні паняцця “інтэлектуалізм” і “філасафічнасць” назіраюцца пэўныя супярэчнасці. Я. Гарадніцкі, даследуючы дадзеную праблему ў беларускай лірыцы, лічыць лепшым наступнае азначэнне інтэлектуалізму ў мастацтве: “Гэта такі спосаб мастацкага мыслення, які мае асобыя мэты (філасофска-канцэптуальны аналіз “метафізічных” праблем быцця, аналіз стану свету), асобую актыўнасць мастацкай думкі ў адносінах да жыццёвага матэрыялу (павышэнне ролі суб’ектыўнага пачатку, прымат думкі над фактамі), асобую форму і стылістыку (схільнасць да ўмоўнасці, парабалічнасць мыслення, эксперыментальнасць абставін, лагізаваныя характары, якія разыгрываюць у асобах думкі аўтара, і г. д.) і, нарэшце, асобы характар уздзеяння на чытача і гледача (мастацкі доказ ідэі, зварот не столькі да пачуццяў, колькі да розуму, “выпрамленне” і інтэнсіфікацыя дзейнасці твора)”. Паэзія ў дадатак да названых мае і свае, больш шырокія магчымасці ў праяўленні інтэлектуалізму.

Асэнсоўваючы філасофскую праблематыку, даследчык адзначае, што “філасофскія катэгорыі, адцягненыя паняцці ўспрымаюцца праз духоўны свет чалавека, асобы, асвойваюцца эмацыянальна”. Але ж **эмацыянальнасць павінна быць мінімальнай** у інтэлектуальнай паэзіі. Вынікае, што нельга цалкам атаясамліваць філасофскую і інтэлектуальную паэзію. Акрамя таго, інтэлектуальнае мастацтва звернута да метафізікі, а Я. Гарадніцкі сцвярджае адваротнае: “Дыялектыка жыцця дыктуе свае законы паэзіі, прыўносіць у яе дух развіцця, руху, адмаўляе статычнасць, закасцянеласць”. Метафізіку нельга назваць “закасцянеласцю”, метафізіка такая ж важная і эфектыўная, як і дыялектыка, яна проста прапануе спыніць час і звярнуць увагу на тое, што адбываецца тут і цяпер, вакол чалавека, сёння.



Фота Аксаны Спрынчан

Вызначаючы тэндэнцыі паэтычнага развіцця, Я. Гарадніцкі прыходзіць да высновы, што “ў сучаснай паэзіі ўзрастае роля думкі, мыслення, рацыянальнага пачатку і павялічваецца цікавасць да быційных, філасофскіх, светапоглядных праблем”. Таму філасофская лірыка і паэзія думкі “выражаюць два бакі адзінага працэсу — інтэлектуалізацыі паэзіі”.

Інтэлектуалізм і філасафічнасць з’яўляюцца вызначальнымі якасцямі паэзіі М. Багдановіча і У. Жылкі, М. Танка і А. Разанава. Можна сказаць, што, у адрозненне ад папярэдніх дзесяцігоддзяў, сучасная паэзія значна пашырыла паняцці інтэлектуалізму і філасафічнасці. І тое, і другое выявілася ў новых формах, тэндэнцыях, паэзія стала больш свабоднай і разнастайнай, узрасла роля чытача ў інтэрпрэтацыі тэкстаў, бо адна з яскравых прыкмет сучаснай паэзіі — **шматсэнсоўнасць**.

У апошні час пачалі з’яўляцца правакацыйныя меркаванні наконт сённяшняй літаратурнай сітуацыі. Так, З. Смалякоў у артыкуле “Мысленне інтэлектуальных пенсіянераў” эпатажна сцвярджае: “Літаратура — гэта не гульня, а забойства. Пісьменнік у творы забівае частку сябе —ператварае ў тканку тэксту ўласную экзістэнцыю. Нельга слугаваць літаратуры — ёй можна толькі падносіць ахвяры. Яна прагне крыві аўтара”. Але наўрад ці сучасная паэзія вылучаецца самаахвярнасцю; для маладых паэтаў творчасць — у першую чаргу магчымасць самавыяўлення. Паэзія апошняга дзесяцігоддзя вырашыла адзін з галоўных прынцыпаў інтэлектуальнага мастацтва — **глядзець на рэчаіснасць метафізічна.**

Зварот да прыроды, пейзажу ў сучаснай паэзіі нячасты, але арыгінальны. Метафізічнае мысленне прывяло да **зацікаўленасці ўсходнімі формамі паэзіі.** Хайку, хоку, танку сталі сустракацца побач з санетамі і верлібрамі даволі часта. Адзін з майстроў пейзажных вершаў — А. Глобус. Снег у яго вершах часта атаясамліваецца з малаком, “гарыць на вачах”, цярушыцца на прыдарожны лес, раптоўна з’яўляецца з хмары, абцяжарвае елкі, шархоча пад падэшвамі, снег ядуць дзеці. Снег — гэта не столькі сімвал чысціні, колькі тое, што пастаянна прысутнічае, нечакана з’яўляецца, заўсёды трапляе на вочы. Дарэчы, снег і ноч (белае і чорнае) — самыя частаўжывальныя словы ў сучаснай пейзажнай лірыцы.

> *“Можна сказаць, што, у адрозненне ад папярэдніх дзесяцігоддзяў, сучасная паэзія значна пашырыла паняцці інтэлектуалізму і філасафічнасці. І тое, і другое выявілася ў новых формах, тэндэнцыях, паэзія стала больш свабоднай і разнастайнай, узрасла роля чытача ў інтэрпрэтацыі тэкстаў, бо адна з яскравых прыкмет сучаснай паэзіі — шматсэнсоўнасць.*

Каляровая гама раніцы ярка прадстаўлена ў аднайменным вершы А. Глобуса: яна блакітная, рудая, чырвоная, сіняя, белая, залатая. Гэта не звыклае маляванне прыгожымі эпітэтамі, а **метафізічны (фактаграфічны) малюнак** з яркімі адназначнымі колерамі. У вершы няма філасофскіх роздумаў, меркаванняў, поглядаў. Сама канстатацыя фактаў, акцэнт увагі на нязвыклым і робяць тэкст філасофскім. Акрамя яркіх колераў, ёсць у вершы і два яскравыя сімвалы — агонь і слёзы, таксама вельмі моцныя проста сваім значэннем, таму ад зместу не патрабуецца дадатковых тлумачэнняў і разваг.

Для пейзажу Ю. Пацюпы характэрна шырокае выкарыстанне **метафары** як галоўнага мастацкага сродку інтэлектуальнай літаратуры. У “Зніклай чыгунцы” Ю. Пацюпы менавіта на метафары заснаваны змест: “збіўся цень у траве заспанай”, “па вадзе ноч ідзе”, “мох залёг”, “спіць барак”, “ноч уздыхае”. Прырода і чалавек знаходзяцца ў гармоніі.

Прырода ў творчасці А. Арашонка знайшла сваё выяўленне ва ўсходніх формах верша, але і “захавала сваё”.

Калі раней беларускія пісьменнікі імкнуліся пазнаць прыроду праз пачуцці, то сёння — праз **статыку думкі.**

Чалавек у сучаснай беларускай паэзіі становіцца цэнтрам усяго, але гэта не эгацэнтрызм. Чалавек, стоячы ў цэнтры, аглядае свет вакол сябе. У структуру наваколля ўваходзяць не толькі прырода, рэчы, але і біблейскае, касмічнае, міфалагічнае; абстрактныя паняцці абсалютна тоесныя канкрэтным і наадварот.

Так, у вершы В. Морт “Музыка саранчы” Бог уяўляецца як просты выканаўца жаданняў, лірычная гераіня нават кажа, што Богу “трэба” паспяшацца выконваць жаданні.

У паэзіі XX стагоддзя зварот да Бога выяўляўся ў просьбах, малітвах, Бог быў адзіным надзейным духоўным абаронцам свету. Сучасную паэзію нельга вінаваціць у бездухоўнасці, таму што сённяшняя сітуацыя — вынік тэндэнцыі збліжэння “зямлі” і “неба”, у паэзіі гэтыя катэгорыі проста зліліся ў адзінае цэлае. А. Арашонак зазначае, што “Маці — ад Бога. Вера ў бога — ад маці. Мы верым адзін у аднаго”.

Роздум над чалавечым існаваннем вылучае манавершы В. Жыбуля:

*Жыццё праходзіць,*
*стоячы на месцы.*

* * *

*Рэчаіснасцю тут*
*і не пахне.*

Інтэлектуалізм і філасафічнасць сучаснай беларускай паэзіі ўяўляюць сабой **цэласную структуру**. Філасофскі (метафізічны) пачатак выяўляецца праз інтэлектуальныя прыёмы (метафарычнасць, сінтэз літаратурных традыцый і інш.). Інтэлектуалізацыя сучаснай паэзіі абумоўлена ў значнай ступені **пераасэнсаваннем культуралагічных каштоўнасцей**.

Universum



Віка ТРЭНАС

## Гульні з чытачом

*Поспех у літаратурнай справе, зрэшты, як і ў любой іншай творчай дзейнасці, залежыць не толькі ад здольнасцей, працавітасці або выпадковага шанцунку. Важна таксама, каб творца быў прынцыпова настроены на перамогу ў пошуку свайго прафесійнага “я” і сваёй чытацкай аўдыторыі. Азарт — у здаровым сэнсе гэтага слова — будзе не лішні і нават абавязковы. Калі псіхалогія пісьменніцкай працы зразумелая не ўсім, то, прыкладам, сутнасць гульні ў карты вядомая кожнаму. Элітарная паэзія адрозніваецца ад папулярнай прыблізна як гульня ў покер ад гульні ў падкіднога. Зразумела, што наладжванне стасункаў з чытачом у першым выпадку нашмат больш складанае, чым у другім. Але — заўважце — шулерства тут ні пры чым! Хаця часта можна чуць пра тое, што самы паспяховы творца той, хто гуляе не па правілах. Галоўнае для паэта ведаць — чытача не падманеш.*

### Кніга чорна-белых вершаў

Прыемны малады чалавек, пра якога зараз пойдзе гаворка, якраз такі не падманвае ні чытачоў, ні самога сябе. Таленавіты хлопец — прадстаўнік новай генерацыі, так званага пакалення дваццацігадовых. Можна без перабольшвання сказаць: сучасны беларускі літаратурны працэс развіваецца пры яго непасрэдным удзеле.

Паэт і перакладчык Віталь Рыжкоў нарадзіўся ў 1986 годзе ў Магілёве. Па адукацыі інжынер-аўтамеханік. Фіналіст некалькіх літаратурных конкурсаў, пераможца трох паэтычных слэмаў у Беларусі і Украіне. Жыве ў Мінску.

Нядаўна да лаканічнай біяграфіі Віталя далучыўся яшчэ адзін радок: пабачыў свет яго дэбютны паэтычны зборнік пад назвай “Дзверы, замкнёныя на ключы”. Да выдання прыкладаецца дыск – аднайменная аўдыёкніга, на якім можна пачуць аўтарскае выкананне твораў. Абсалютна лагічна, бо Віталь Рыжкоў вядомы сваім артыстызмам – нездарма ён прызнаны нароўні з паэтам Віктарам Жыбулем адным з лепшых беларускіх слэмераў. А ў такой форме паэтычнага спаборніцтва, як слэм, цэніцца не толькі мастацкая вартасць твораў, але і ўменне “завесці” публіку і ўключыць яе ў працэс чытання. Спадзяюся, ні Віталь, ні Віктар не пакрыўдзяцца на мяне, калі я сцверджу, што яны падчас сваіх выступаў спраўляюцца з публікай не горш, чым ды-джэі на дыскатэцы.

Зразумела, Віталь Рыжкоў прываблівае інтэлектуальнага чытача хутчэй не “слэмерствам”, а глыбінёй і сур’ёзнасцю сваёй паэзіі. Звяртае на сябе ўвагу канцэпт “чорна-белага верша”, які, на мой погляд, з’яўляецца для паэта адным з асноўных. Сэнс не толькі ў абранай форме – вершах з рытмікай, але без рыфмы – але і ў змесце. Тут як у жыцці – не бывае толькі белага або толькі чорнага. Усё нашмат больш складана.

### Блюз уцекачоў

Адзін з трох раздзелаў кнігі “Дзверы, замкнёныя на ключы” прысвечаны перакладам з англійскай, польскай, грузінскай, украінскай і амерыканскай паэзіі. Назва верша Уістана Х’ю Одэна “Блюз уцекачоў”, напэўна, сталася для Віталя Рыжкова ключом да майстэрства. Паэт не проста перакладае – ён пераствярае эстэтычна блізкіх яму аўтараў, а на ягоны мастацкі густ смела могуць арыентавацца інтэлектуалы і аматары добрай паэзіі. Аднак непасрэднае знаёмства з кнігай лепш за любую крытыку.

Эдуард КАРНІЛОВІЧ

# Запатрабаваныя лёсы

**Шкада, што паміраюць палітыкі, не пакінуўшы ўспамінаў, пісьмовага сведчання пра сваю дзейнасць. Добра, што знаходзяцца апантаныя пісьменнікі ці гісторыкі, якія клапоцяцца пра захаванне іх імён. Аўтар новай кнігі “Лёс да запатрабавання” Славамір Антановіч, несумненна, разумеў, што стварыць мастацка-дакументальны твор пра палітыка — справа складаная, якая патрабуе не толькі адказнасці і смеласці, але і канкрэтных ведаў.**



Славамір Антановіч працяглы час працаваў у высокіх уладных структурах. Быў сведкам многіх палітычных падзей у рэспубліцы і ў Маскве, асабіста ведаў герояў сваёй будучай кнігі, размаўляў з імі, чуў іх непаўторныя галасы... Магчыма, таму кніга атрымалася цікавай, дакладнай, праўдзівай. Адразу заўважым, што гэта не проста кніга, якіх цяпер выдаецца нямала, а сур’ёзнае асэнсаванне жыцця найбольш відных партыйна-дзяржаўных дзеячаў нашай рэспублікі XX стагоддзя: Пятра Машэрава, Ціхана Кісялёва, Мікалая Слюнькова, Яфрэма Сакалова і іншых. Гэта людзі сапраўды асаблівага складу і асаблівага гістарычнага лёсу, якія пакінулі прыкметны след у развіцці Беларусі. Характэрна, што іх дзейнасць, вызначаная ідэямі свайго часу, праходзіла ў зменлівых умовах, пад моцным уздзеяннем партыйнага цэнтра з Масквы. І ім неяк удавалася весці свой карабель між дзвюх скал такім чынам, што, як кажуць, і ваўкі былі сытыя, і авечкі цэлыя. Лёсы Зміцера Жылуновіча, Аляксандра Чарвякова, Панцеляймона Панамарэнкі, Васіля Казлова, Кірылы Мазурава, Аляксандра Аксёнава ды іншых былі рознымі, на іх уплывалі сацыяльна-эканамічныя і палітычныя абставіны, ад якіх не адмахнешся. У біяграфіях палітыкаў — гісторыя і лёс беларускага народа, своеасаблівы духоўны і кіраўніцкі досвед.

Кніга Славаміра Антановіча, безумоўна, адносіцца да вартай увагі літаратуры, бо дае магчымасць дазнацца шмат новага пра слынных палітычных дзеячаў Беларусі і іх атачэнне, іх дасягненні і нават недахопы, невядомыя факты. Пісьменнік ужо выдаў кнігу пра Пятра Машэрава, таму “Лёс да запатрабавання” пачынаецца аповесцю “Ціхан Кісялёў”, герой якой стаў Першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі пасля смерці Пятра Міронавіча і нядоўга знаходзіўся на гэтай пасадзе. Мы ведаем біяграфіі і стыль кіраўніцтва П. Машэрава і Ц. Кісялёва, якія ўвайшлі ў сузор’е беларускіх славутых палітычных імёнаў. Але ж аўтар не палічыў, што яму не засталося месца для адкрыццяў. Таму паказвае ён сваіх герояў у дзеянні, распавядае пра іх станоўчы (а часам і адмоўны) досвед, нават крыху раскрывае тайны “мінскага двара”. І робіць гэта зусім не дзеля таго, каб задаволіць, магчыма, мяшчанскую цікаўнасць асобных чытачоў, але каб “ачалавечыць” асобу кіраўніка, паказаць менавіта чалавечыя рухі ягонай душы.

З захапленнем чытаецца старонкі жывой гісторыі, дзе аналізуюцца і супастаўляюцца дзве яркія біяграфіі П. Машэрава і Ц. Кісялёва, вопыт якіх і сёння застаецца каштоўным. Аўтар знутры ведаў сутнасць пасяджэнняў, прызначэнняў, добра вывучыў характары і звычкі першых асоб. С. Антановіч раскрывае невядомыя, схаваныя ад большасці рысы характараў сваіх герояў і адзначае, што адносіны паміж імі не склаліся. Калі адносіны сямейныя, то перажываюць некалькі чалавек, а тут за імі, першымі асобамі, — дзяржава, мільёны людзей, працоўныя здабыткі і гонар нацыі. Гэтая праблема — не навіна — узнікала ў розных краінах, розных абставінах і маштабах. Аўтар заключае: “Кісялёў умеў хітрыць, выкручвацца. Быў няпросты, схільны да кулуарных інтрыг. Яго гумар быў злым і калючым. Вострым словам, грубай іроніяй мог у любы момант “адбрыць” таго, хто першы трапіць на вочы. Не скупіўся на рэзкую з’едлівую ацэнку. Машэрава гэта часта раздражняла, і ён часам рабіў яму заўвагі”. Як тонка і слушна заўважана. Такія якасці характару не для лідара палітычнай эліты, яны парушаюць гармонію, зладжанасць.

Дарэчы, Ціхан Кісялёў, як і іншыя кіраўнікі рэспублікі, шмат вучыўся, быў адукаваны, добра ведаў беларускую літаратуру. Аўтар называе імёны Я. Коласа, Я. Купалы, А. Куляшова, Я. Брыля, І. Мележа, М. Танка і іншых, якіх першы сакратар ведаў не горш за літаратуразнаўцаў. Акалічнасць гэтая, трэба сказаць, мае вельмі важную сацыяльную афарбоўку: грамадска-палітычныя дзеячы разумелі, што моц і жыццяздольнасць дзяржавы — у вялікай залежнасці ад адзінства народа і інтэлектуальнай эліты, якое трывала мацавалася літаратурна-мастацкімі каштоўнасцямі.

Цікавая таксама біяграфія Мікалая Слюнькова. Працаздольны і таленавіты сын Гомельшчыны, які прайшоў надзвычай цяжкі шлях пасляваеннага жыцця, паспяхова выбіўся “ў людзі”, у перадавую галіну беларускага трактарабудавання. Стаў дырэктарам Мінскага трактарнага завода, стваральнікам народнага багацця. Але ж калі яго вылучылі на партыйную работу, кінулі на сыпкі пясок, дзе хапала прыстасаванцаў і зайздроснікаў.

У асноўным аўтар адпаведна стварае вобраз М. Слюнькова — спрытнага ў рабоце, разважлівага рацыяналіста, з заўсёдным клопатам пра дабрабыт працоўных. Але ж у ацэнках “Першага” мала хто абыходзіўся без суб’ектывізму, дый не магло быць, каб ім усе заставаліся задаволеныя. Мікалай Мікітавіч працаваў у Мінску і ў Маскве, куды трапіў “насуперак усялякай логіцы”. Слюнькоў стаў героем працы, добрасумленна выконваў свае адказныя абавязкі, але адбывалася гэта ў зусім іншых палітычных абставінах, чым у К. Мазурава ці П. Машэрава.

Выбраны першым сакратаром Мінскага гаркама партыі, Слюнькоў, паводле слоў аўтара, аказаўся кіраўніком рашучым, здольным адысці ад звыклых, але састарэлых стандартаў: “Ён на роўных вёў справы з вытворцамі і вучонымі, будаўнікамі і творчай інтэлігенцыяй, студэнцкай моладдзю і ветэранамі... Умеў усебакова і прадумана ацэньваць любую сітуацыю”. І ў Маскве, займаючы высокія пасады, Мікалай Мікітавіч думаў пра людзей Беларусі. У кнізе адзначаецца, што ён стараўся “пасадзіць” у рэспубліцы высокатэхналагічныя прадпрыемствы, абсталяваныя найноўшай замежнай тэхнікай. Аповесць С. Антановіча пераконвае, што партыйна-дзяржаўны дзеяч быў адданы справе, служэнню радзіме. Сур’ёзныя дзяржаўцы шанавалі яго, а нядобразычліўцы распускалі пра яго чуткі і давалі абразлівыя мянушкі.

Несумненна, мае значэнне і тое, з якім жыццёвым досведам, з якой прафесіяй, з якімі чалавечымі якасцямі прыйшоў чалавек да высокай пасады. Калі М. Слюнькоў — ледзь не бацька беларускай індустрыі, абнаўлення вытворчых фондаў, то Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў — шчыры руплівец зямлі, аграрна-прамысловага комплексу.

Я. Сакалоў у лютым 1987-га быў выбраны Першым сакратаром ЦК, змяніў М. Слюнькова. Дагэтуль ён быў першым сакратаром Брэсцкага абкама партыі, валодаў арганізацыйнымі здольнасцямі, многае зрабіў, але, зразумела, былі і пэўныя пралікі. У прыватнасці, заўважным было яго няўменне працаваць з творчымі людзьмі. Асобныя яго заявы, помныя і да гэтага часу, выклікалі цэлую хвалю абурэння сярод мастацкай інтэлігенцыі.

Аповесці пра вядомых палітычных дзеячаў, нарысы пра людзей, якія праявілі гераізм у самых рызыкоўных умовах вайны, маюць асабліва важнае значэнне — выхоўваць патрыётаў ды, зрэшты, і сапраўдных кіраўнікоў-стратэгаў таго ці іншага ўзроўню. А прыкладаў для перайменя ў нас шмат. Аўтар з гонарам распавядае пра аса ваеннай разведкі, Героя Расіі Івана Коласа, генерал-лейтэнанта авіяцыі, двойчы Героя Савецкага Саюза Леаніда Бяду, героя-кулямётчыка Дзмітрыя Жмуроўскага, пра Героя Сацыялістычнай Працы, сталевара Мінскага трактарнага завода Андрэя Бялко... Дарэчы, упершыню ў нашай літаратуры С. Антановіч расказаў пра абставіны гібелі Фёдара Сурганава, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Леаніда Бяды, генерал-лейтэнанта авіяцыі.

Новая кніга С. Антановіча заклікае пільна ўгледзецца ў наша мінулае, асэнсаваць яго. Кніга зацікавіць многіх чытачоў, але ў першую чаргу яна будзе карысная палітыкам, палітолагам, гісторыкам, студэнтам вышэйшых навучальных устаноў.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Водгулле рыжых сноў

**На небасхіле беларускай паэзіі з’явілася новае імя: у маладой, 19-гадовай, паэтэсы Аляксандры Дударчык выйшаў зборнік вершаў “Рыжыя сны”.**

Паколькі імя аўтара пакуль яшчэ невядома ўдзельнікам беларускага літаратурнага працэсу, дазволю сабе прывесці для знаёмства некалькі фактаў з яе біяграфіі. А. Дударчык нарадзілася ў Мінску, закончыла гістарычны клас ліцэя БДУ і цяпер з’яўляецца студэнткай гістарычнага факультэта БДПУ імя Максіма Танка. Вершы пачала пісаць з 14 гадоў. Некаторыя з іх публікаваліся ў зборніку “Спроба пяра”, які выходзіў у Экалагічнай гімназіі № 19 г. Мінска. З’яўляецца пераможцай некалькіх літаратурных конкурсаў. “Рыжыя сны” — яе першая кніга.

Пісаць рэцэнзіі на дэбютныя зборнікі маладых творцаў, асабліва на кнігі паэтычныя, а тым больш калі аўтарам з’яўляецца маладая дзяўчына, справа надзвычай цяжкая. Лягчэй звярнуцца да творчасці каго-небудзь з прызнаных ці непрызнаных майстроў, чый почырк ужо сфарміраваўся, манера вершаскладання вызначылася, а глыбіня патэнцыялу відавочная. Аналіз дэбютных твораў больш нагадвае спробу бяспечна прайсці па вузкім калідоры паміж Сцылай і Харыбдай. З аднаго боку, ці не кожны крытык натуральна адзначыць “свежасць думкі, маладосць душы”, шчырасць і адкрытасць аўтара-пачаткоўца. З другога, большасць першых твораў пакутуюць ад адных і тых жа праблем. Думкі яшчэ не ўкладаюцца ў вершаваныя памеры, што нараджае перыядычныя канфлікты з рыфмай і рытмам. Акрамя таго, асобныя радкі часам ствараюцца проста для таго, каб зарыфмаваць іх з папярэднімі. Таму любому крытыку даводзіцца балансаваць на мяжы і шукаць для сябе “залатую сярэдзіну”: не пакрыўдзіць маладога творцу і адначасова расставіць належныя прыярытэты.

На першы погляд, творчасць Аляксандры Дударчык цалкам укладваецца ў адзначаныя вышэй асаблівасці маладой паэзіі. Сярод яе вершаў можна знайсці на дзіва прыгожыя вобразы, метафары, параўнанні: *“Южный ветер колышет гриву, // Разгоняет остатки звезд. // Он сегодня остатки мира // Будет складывать в новый мост// Мост, что свяжет вчера и завтра, // Мост из песен, обид и слов, // Где узоры рисует правда, // Где надежда — основа основ”* (“Лев”). Або: *“Мой сон бережёт пёс — // Статный зверь благородной масти. // Мой сон — это отблеск звёзд, // Утонувших в тумане страсти”* (“Мой…”). Пры жаданні пакрытыкаваць аўтара можна звярнуць увагу на не вельмі ўдалыя творы (“Пограничник”), дзе сустракаюцца такія радкі: *“Сердит мой взгляд и неподкупен.// Не пропускать — такой закон. // Кусочки фраз, ошмётки судеб // Сложу я в личный Рубикон”*, або *“Забыт — и в том моя отрада. // Непобедим — и в том печаль. // И с неба для меня награда — // Глоток воды, чтоб сделать чай”*.

Што ж тады дае падставу вылучаць зборнік “Рыжыя сны” з агульнай плыні маладой паэзіі? Бадай, уласцівая ёй агульная тэндэнцыя. Той з чытачоў, хто ўважліва адсочвае пошукі творцаў-пачаткоўцаў, згодзіцца, што сярод іх твораў найбольш прадстаўлены вершы пра каханне. І хоць лепшыя з іх уражваюць напалам пачуццяў і глыбінёй перажыванняў, падчас прачытання нярэдка ўзнікаюць пэўныя сумневы ў здольнасці іх аўтараў “прабегчы” ў будучым доўгую паэтычную дыстанцыю.

Не сакрэт, што вершаскладаннем займаюцца сотні, калі не тысячы, дзяўчат. Большасць з іх прыходзіць у паэзію, каб падзяліцца эмоцыямі, якія асабліва перапаўняюць іх у маладыя гады. Пачуццё закаханасці зойме сярод іх ці не першае месца. Але праходзіць час — адзінота і непадзеленасць пачуццяў саступаюць месца асабістаму шчасцю. Вось тады большасць паэтэс-пачаткоўцаў і перастаюць пісаць, бо знаходзяць аб’ект сваіх эмоцый у рэальным жыцці. Зразумела, ёсць тыя, хто застаюцца ў палоне любоўнай лірыкі надоўга. Але паколькі для напісання вершаў яны павінны ўвесь час пагружацца ў вір няспраўджаных пачуццяў і ўздымаць градус перажыванняў, існуе небяспека таго, што аднойчы аўтар проста не зможа выбрацца са свайго віртуальнага свету або спыніць уласную творчасць.

То бок для таго, каб на працягу доўгага часу жыць паэзіяй і ствараць яе, неабходна ўвесь час сілкавацца ўнутраным агнём. Полымя пачуццяў распальваецца хутчэй, але можа знішчыць свайго ўладальніка. У кнізе А. Дударчык прысутнічаюць вершы пра каханне (“…И страсть кружилась в центре зала”, “Любовник”), але не яны вызначаюць агульную танальнасць зборніка. Аснова “Рыжых сноў” — выразна інтэлектуальная. У вершах маладой паэтэсы можна знайсці матывы культуры Сярэднявечча і эпохі Адраджэння, зварот да вобразаў князя Уладзіміра, які хрысціў Русь (*“Владимир-князь, креститель всей Руси, // Ты сам себе построил храм из рёбер, // Когда забыл о нравах русского народа, // Глумясь над верой прадедов своих”* — “Княжеский крест”), Дантэ, Мефістофеля. Асабліва ўдалым падаецца пераасэнсаванне лёсу А. Салжаніцына: *“И сытая овца, вы мне поверьте, // Даёт чуть-чуть побольше белой шерсти. // И новенький, не думай, что здесь рай. // Здесь первый адский круг. Ты привыкай”* (“Шарашка”).

Пры звароце да творчасці А. Дударчык узгадваецца асоба Алеся Пісьмянкова і яго пасмяротная кніга “Думаць вершы”. Мяркую, што такі падыход — менавіта думаць іх, а не пісаць “стихи навзрыд” — найбольш уласцівы маладой паэтэсе. У яе творчасці бачыцца выразная перспектыва і багаты духоўны патэнцыял, які ў будучым можа прынесці поспех і прызнанне.



Змітрок Марозаў

## Вечар на Радзіме

*Над пустою вёскай ціха-ціха.*
*Толькі мне, самотнаму, чуваць,*
*Як на ліпе бацькавай бусліха*
*Буслянят кладзе ў пасцельку спаць.*

* * *

*Нішто не новае пад поўняй.*
*І толькі слова ў цішыні*
*Маланкай выбліснe раптоўнай...*
*І спапяліць чыесьці дні!*

## Вераснёўская элегія

*На парозе восеньскага дня*
*Слухаю матыў мінорны лета.*
*І такая ў сэрцы чысціня,*
*Быццам песня лепшая не спета.*
*Чую, як нашэптвае лісцё*
*Мне матыў, дагэтуль нечуваны...*
*І здаецца вечнасцю жыццё,*
*Што яшчэ пражыць наканавана.*

* * *

*Пра што маўчаць дубы вячыстыя*
*На стромым беразе Дняпра,*
*Аб чым спяваюць хвалі чыстыя*
*Лагодным ліпеньскім вятрам?..*
*Усё таемнасцю пазначана,*
*Якую нам не разгадаць...*
*І толькі словы з песні матчынай*
*Ні з чым не зблытаць...*
*Не прадаць!*

## Элегія дрэў

*Пад рабінай залатой*
*Рос хлапчук рухавы,*
*Слухаў жаўранка вясной,*
*Плёскат хваль Сялявы.*
*Пасталеўшы, юнаком*
*Сеяў жыта ў полі,*
*Апяваў жывым радком*
*Клёны і таполі.*

*З вёскай роднаю Язбы*
*Бачуся штолета.*
*І тутэйшыя дубы*
*Прызнаюць паэта.*

*Помніць бор сівы мяне*
*Поўны ягад спелых...*
*А спачну ў апошнім сне*
*Пад бярозай белай.*

* * *

Паэтаў на руках не носяць...
**Са слоў бабулі Ганны**

*Жыццё паэта — як імгненне*
*На горкай Матухне-Зямлі...*
*Пасее толькі думак жменю —*
*І ўжо кудысьці павялі...*

*Паэтаў на руках не носяць,*
*На ўзлёце іх, як птахаў, б'юць.*
*Ці, як быльнёг, пад корань косяць...*
*Паэты ў вечнасці жывуць!*

* * *

*Няма адвеку праўды на зямлі?..*
*А я яе штодзённа адкрываю*
*У подыху вясновае раллі,*
*Якая трызніць жніўным ураджаем.*
*У пошапце світальнага дажджу,*
*Ва ўсмешцы вечаровай мілай маці...*
*Ёсць праўда на зямлі. І я кажу:*
*"У праўды вочы й сэрца немаўляці!"*

* * *

*У дні сумніву і трывог*
*Мы ціха просім:*
*"Барані, Бог!"*
*І Бог бароніць кожны раз...*
*Ды не ратуе нас ад нас.*

## Сучасная ідылія

*Адзін другому ладзім ловы,*
*Адзін другога век скубем...*
*Змяя спаймала змеялова*
*І ажаніла на сабе.*
*Быў дужы, смелы і багаты,*
*А зараз стаў цішэй травы.*
*Дыктуюць дзеткі-змеяняты*
*Яму змяіныя правы.*
*Яды, пітва яму хапае,*
*Жыць у нары сляпой лацвей...*
*Змяя людзей больш не чапае.*
*І змеялоў не ловіць змей!*

* * *

*Надыходзяць такія хвіліны*
*Пасля доўгіх трывог і згрызот:*
*Клічуць продкі збіраць журавіны*
*Пасярод першабытных балот.*

*З электрычкаю першай памчуся*
*Я ў дзяцінства сваё — праз гады,*
*Да радзіннай сасны прытулюся,*
*Баравой паспытаю вады.*

*А пасля па купчастым балоце*
*Жураўлём буду шэрым блукаць,*
*З ведзьмакамі тутэйшымі ў згодзе*
*Журавіннае свята спраўляць.*



*Фота Кастуся Дробава*



Ірына Тулупава

**Ірына Тулупава працуе ў жанры нетрадыцыйнай паэзіі, аддаючы перавагу так званаму беламу вершу і хрэстаматыйнаму верлібру. Аднак яе творы вызначаюцца яркай вобразнасцю і назіральнасцю, глыбокім, сканцэнтраваным пачуццём, а самі верлібры скіроўваюць чытача перш за ўсё ў "дысгарманічны свет" і "нашу жыццёвую растрэсенасць".**

**Віктар Гардзей**

## Чую і адгукаюся…

* * *

*З куста бэзу*
*Пяе салавей*
*Чую*
*Адгукаюся*
*Яму ўсё роўна*
*Яго песня для каханай*
*Звышнатуральная мелодыя*

* * *

*Паветра прапахла чаромхай*
*Ёй не замінае*
*Смурод бетонных агародж*
*Блізу катэджаў*
*За імі*
*Маленькія белыя кветачкі*
*На стромкіх галінах*
*Хітаюцца ў гронках*
*Ладна і ўзважана*
*З бетонам нельга спрачацца*
*Яго трэба перарасці*

* * *

*Эпоха Delete*
*Націснуў клыпажок*
*Сцёр з памяці*
*Вось і цісНуць*
*ЦісНуць*
*ЦісНуць*
*Цісне жыццё*
*Як зношаны туфлік ліліпута*

* * *

*Жанчына сабрала сваё гора-злашчасце*
*У прыпол*
*Прынесла і высыпала*
*На парог суседцы*
*Наша жыццёвая растрэсенасць…*

* * *

*Здароўкаецца кончыкамі пальцаў*
*Хавае далонь*
*Прачытваю па пальцах*
*Здрабненне жыцця*

* * *

*Патрабавальна звініць тэлефон*
*Я не хачу*
*Каб так нехта са мной гаварыў*
*Націскаю "Адмена"*

* * *

*Сын жаніўся*
*сам перарэзаў пупавіну*
*Што злучала са мною*
*Боль*
*Яшчэ большы*
*Чым у раддоме*
*Зноў даю яму жыццё*
*Самастойнае*
*Дарослае*

* * *

*Месячнае немаўля*
*Голасна смяецца*
*Нечаму свайму*
*Гародзіцца ад святла*
*Унутраным зрокам*
*Ад інтэрактыўнага шуму*
*Унутраным чуццём*
*Ад забаў свету*
*Глыбокім смехам*
*Унутранасць*
*Не спяшаецца*
*У дысгарманічны свет*

* * *

*Душа спявае*
*Хоць не мае голасу*
*І слыху*
*Дзівачка*
*Яе ніколі не прымуць*
*У кансерваторыю*
*Але і кансерватыўнасць*
*Не для яе*

* * *

*Дзяўчынка з дарослымі вачыма*
*Праз іх*
*Нічога не прачытаеш*
*Не ўбачыш шляху*
*Укрыжавання і пакутаў*
*Дыскваліфікацыя*
*Бацькоўскага сумлення*

* * *

*Дзіця пахне пачаткам жыцця*
*Водар бясконцасці і чысціні*
*Насцярожана прынюхваюся*
*Ці будзе світанак і ў наступнага дня*
*Губляюся ў здагадках*
*Калі мой пачатак стаў бясконцым*
*Працягам*

Дэбют



Святлана Шушко-Кандратовіч

**Святлана Шушко-Кандратовіч нарадзілася 5 сакавіка 1980 года ў в. Любашава Ганцавіцкага раёна. Тут скончыла сярэднюю школу, затым вучылася ў Баранавіцкім дзяржаўным вышэйшым педагагічным каледжы. З 2001 года працавала карэспандэнтам газеты "Савецкае Палессе", цяпер — кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Верасок" пры раённым цэнтры дзіцячай і юнацкай творчасці. Вершы піша з дзяцінства. У "ЛіМе" друкуецца ўпершыню.**

## Радзіма

*Мая маленькая Радзіма,*
*Ты сэрца крыліш цеплынёй.*
*Тут першы крок я свой зрабіла,*
*Зраднілася з сваёй зямлёй.*
*Якія б сцежкі ні спаткала,*
*Прыйду не раз сюды здалёк,*
*Бо тут світанні сустракала,*
*Тут вока песціў васілёк.*
*Мой родны дом, мая Радзіма,*
*Ты сілы ў хмурны дзень даеш,*
*Напэўна, так і быць павінна,*
*Што нас для шчасця беражэш.*

## Назоўнае

*Лета. Дзіўная пара.*
*Казка. Непаўторнасць.*
*Поўдзень. Далеч і гара.*
*Стойкасць. Непакорнасць.*
*Існаванне. Непакой.*
*Высі і падзенні.*
*Песня. Радасць. Супакой.*
*Аптымізм. Памкненні.*
*Незваротнае жыццё.*
*Неўміручасць слова.*
*Боль расстання. Небыццё.*
*Думка. Прапанова.*
*Беражлівасць. Цеплыня.*
*Сутнасць. Разуменне.*
*Прыгажосць. Жыццё. Зямля.*
*Чысціня. Сумленне.*

## Пачуццё

*І ў светлы дзень, і ў цёмнай ночы*
*Твае шукаю толькі вочы.*
*Дзе ты, каханы, родны мой,*
*Калі сустрэнемся з табой?*

*Няўжо мы шчасце адпусцілі*
*У невядомы нам прастор?*
*Нібыта разам пагасілі*
*Ля зыркіх ды халодных зор.*

## Бязмежнасць

*Камяні, валуны...*
*Вы трывожнае памяці сведкі.*
*Праляцелі вякі...*
*Не нясуць кветак дзеткі.*

*Мы глядзім у няспынную плынь.*
*Дорыць радасць чужая прырода.*
*Засталіся рэшткі святынь*
*Ды і вечная памяць народа.*

*Крок за крокам, марудна́й хадой,*
*Час, аднак, не сціхае хуткасць.*
*Што пакінем мы за сабой?*
*Ці патрэбна каму наша мудрасць?*

* * *

*Раптам вырастуць крылы — узлятай,*
*Атрымаеш выйгрыш — забірай,*
*Знойдзеш шчасце — моцна трымай,*
*Забудзеш благое — не ўспамінай.*

*А калі паслізнешся — трывай,*
*Знойдзеш чужыя грошы — аддай,*
*Зловіш птушку зняначку — адпускай.*
*З чыстым сумленнем новы дзень сустракай.*

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

# Канкурэнт для “Вікіпедыі”

**Значнай падзеяй у кнігавыданні краіны стаў выхад у “БелЭн імя Петруся Броўкі” другога тома энцыклапедыі “Культура Беларусі”. Выпуск кнігі ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Больш як 2 тысячы артыкулаў (на няпоўныя тры літары алфавіта!), каля 500 аўтараў-прафесіяналаў, мноства новай інфармацыі пра яркія моманты культуры беларусаў і нацыянальных меншасцей, што здаўна жывуць на тэрыторыі нашай краіны, — і гэта далёка не ўсе адметныя рысы другога тома выдання.**

Першы том энцыклапедыі “Культура Беларусі” пабачыў свет у 2010 годзе. Гэты праект адразу вызначыўся як доўгачасовы, і праца над ім, як плануецца, будзе працягвацца яшчэ 8 гадоў. Спачатку “Культура Беларусі” бачылася як шасцітомнае выданне, але, калі пачалася непасрэдная падрыхтоўка тамоў, рэдактары зразумелі: усё багацце культуры Беларусі нават у 10 тамоў наўрад ці “ўкладзецца”. Бо тут артыкулы не толькі па гісторыі культуры, культуралогіі, эстэтыцы, мовазнаўстве, але і інфармацыя пра актуальныя кірункі ў развіцці нацыянальнай літаратуры, мастацтва, тэатра, кіно, цырка, новыя звесткі пра народныя заслужаныя калектывы. Да прыкладу, ёсць у другім томе артыкул пра віцебскі клуб гістарычнай рэканструкцыі “Варгенторн” — досыць малады, але ўжо вядомы ў сваіх колах калектыў.

— З выхаду пяцітомнай “Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі” прайшло ўжо 25 год. За гэты час у беларускай культуры шмат што змянілася, — распавядае галоўны рэдактар выдавецтва “Беларуская Эцыклапедыя імя Петруся Броўкі” Ларыса Языковіч. — Спадзяёмся, што і наша шматтомнае выданне будзе таксама грунтоўным, і патрэба ў стварэнні новай энцыклапедыі зноў з’явіцца толькі праз чвэрць стагоддзя.

У другім томе “Культуры Беларусі” шмат новых артыкулаў. Тут прадстаўлены шырокі пласт народнай творчасці, калектывы Брэста, Віцебска, ды і ў цэлым, увесь спектр з’яў, што ўваходзяць у віцебскі і брэсцкі “кусты”. Як прызналася Ларыса Уладзіміраўна, праца над выданнем вельмі карпатлівая: з кожным калектывам, асобай трэба звязацца, напісаць ліст, дачакацца адказу, зверыць усе факты. Але цяжкасці працэсу даюць і значныя вынікі. Атрымліваецца сапраўды яркі праект, які адрозніваецца не толькі густоўным афармленнем (на вокладцы кожнага тома — рэпрадукцыі карцін вядомых беларускіх мастакоў), але і зместам. У прыватнасці, у энцыклапедыі вылучаюцца матэрыялы на тэмы, што раней шырока не распрацоўваліся. Гэта “Выдавецкая марка” Аляксандра Сушы, вучонага сакратара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, “Выдавецкая справа” Алеся Карлюкевіча, “Гарадская культура” Эдуарда Дубянецкага. Сярод аўтараў асобных артыкулаў — яркія даследчыкі сучаснай культуры: Сяргей Сергачоў, Віктар Цітоў, рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Барыс Святлоў і іншыя.



Распрацоўваецца ў “Культуры Беларусі” і тэматыка, на якую ў “ЭЛіМБел” у свой час амаль не звярталі ўвагі — гісторыя не толькі вялікіх гарадоў, але і маленькіх вёсак. У артыкулах акцэнтуецца ўвага на мінулым і значных гістарычных падзеях мясцовасці, распавядаецца пра дзейнасць сельскіх дамоў культуры. Такі аспект — своеасаблівы паказальнік, які вызначае агульны ўзровень, дае матэрыял для аналізу этапаў і тэндэнцый развіцця сельскай культуры.

Праца над шматтомным выданнем не спыняецца ў “БелЭн” і цяпер. Ужо рыхтуецца трэці том “Культуры Беларусі”, выхад якога запланаваны на лета наступнага года. Паводле першапачатковага плана, штогод павінен выходзіць адзін том энцыклапедыі. Ужо распрацаваны слоўнік усяго выдання (зацверджаны ў Міністэрстве культуры), ёсць разбіўка на тамы, для кожнага артыкула строга вызначаны аб’ёмы. Але з цягам часу слоўнік змяняецца. Можа здарыцца так, што артыкул запланаваны, але матэрыял, падрыхтаваны аўтарам, не адпавядае належнаму ўзроўню ці, наадварот, з’яўляюцца новыя нагоды для ўключэння матэрыялу ў энцыклапедыю.

Макет кожнага тома ўзгадняецца з намеснікам міністра культуры Тадэушам Стружэцкім, а ў рэдкалегію выдання ўвайшлі: міністр культуры Беларусі Павел Латушка, міністр інфармацыі краіны Алег Праляскоўскі, першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна, акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Рэспублікі Беларусь Аляксандр Каваленя, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец і іншыя асобы, якія ў розных аспектах вызначаюць ход развіцця культуры. І гэта не толькі праца ў межах аднаго праекта, але і сталае супрацоўніцтва з “БелЭн”.

— Разам з гэтымі людзьмі мы распрацоўвалі агульную канцэпцыю “Культуры Беларусі”, працавалі і працуем над рэалізацыяй іншых энцыклапедычных праектаў: “Археалогія Беларусі”, “Гарады і вёскі Беларусі”, “Регионы Беларуси”, “Энциклопедия для школьников и студентов”. Мы заўсёды можам на іх спадзявацца, атрымаць кансультатыўную дапамогу, — распавяла Ларыса Языковіч. — Думаецца, “Культура Беларусі” — вельмі важная кніга, бо ні Інтэрнэт у цэлым, ні “Вікіпедыя” ў прыватнасці яе не заменяць. Гэта жывая гісторыя культуры. Спадзяюся, выданне зойме сваё месца на паліцы навукова-энцыклапедычнай літаратуры.

*Над кніжным праектам “Культура Беларусі” ў “Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі” працуюць дзве рэдакцыі: рэдакцыя літаратуры і мастацтва пад кіраўніцтвам Тацяны Рослік і рэдакцыя гістарычных і сацыяльна-эканамічных навук пад кіраўніцтвам Юрыя Бажэнава. Мастацкае рашэнне серыі стварае Алена Сітайла.*

***На здымку: галоўны рэдактар выдавецтва “БелЭн імя П. Броўкі” Ларыса Языковіч прадстаўляе другі том энцыклапедыі “Культура Беларусі”.***

*З нагоды*

## Тэндэнцыя — на зніжэнне

Таццяна РАБУШКА

Нацыянальная кніжная палата Беларусі падвяла вынікі кнігавыдання за першае паўгоддзе 2011 года. Так, у гэтым годзе ўжо зарэгістравана 5 610 кніг, іх агульны тыраж склаў 17 мільёнаў 33 тысячы асобнікаў, а аб’ём — каля 241 мільёна 24 друкарскіх аркушаў. У параўнанні з першым паўгоддзем 2010 года колькасць кніг паменшылася на 4,1 працэнта. Больш значна знізіліся тыраж і аб’ём кніжнай прадукцыі — на 15,6 працэнта і 23,8 працэнта адпаведна.

Паводле дадзеных Кніжнай палаты Украіны, падобныя тэндэнцыі назіраюцца і ва Украіне, дзе на працягу першай паловы 2011 года выпушчана 9901 кніга, што на 6, 8 працэнта менш у параўнанні з 2010 годам. Агульны тыраж кніжнай прадукцыі таксама знізіўся на 12,2 працэнта. Крыху адрозніваецца сітуацыя ў кнігавыданні РФ. Па падліках Расійскай кніжнай палаты ў першым паўгоддзі 2011 года ў адносінах да аналагічнага перыяду 2010 года назіраецца павелічэнне выпуску назваў кніг на 5,6 працэнта з аднachасовым зніжэннем тыражу, але толькі на 5,2 працэнта. Усяго ў Расіі ў першым паўгоддзі бягучага года выпушчана 62 886 назваў кніг агульным тыражом 291 мільён 85 тысяч асобнікаў.

*У падтрымку чытання*

**Дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Сяргей Вечар:**

## «Дэтэктыў па-беларуску гучыць сакавіта!»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава



Я ў школе шмат чытаў, запоем і ўсё запар, усё, што трапляла ў рукі: савецкую, замежную літаратуру, але аддаваў перавагу гістарычнай.

Паступіў на гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта — пачаў адкрываць для сябе знакавыя постаці мінуўшчыны, шмат што з гісторыі, амаль да дзірак зачытаў кніжку Чантурыі пра архітэктурныя помнікі і Дзянісава — пра плошчу Свабоды. Увайшоў у гурток “Стары Менск”. Мы ездзілі па ўсёй Беларусі і знаёміліся з літаратурай, звязанай з культурнай і архітэктурнай спадчынай. Была такая серыя “Бібліятэка сусветнай літаратуры” на беларускай мове. Дэтэктывы гучалі па-беларуску так сакавіта!

Збольшага чытаю і магу гаварыць папольску. З нядаўна прачытаных назаву кнігу Яцэка Паўловіча пра ротмістра Вітальда Пілецкага, які добраахвотна трапіў у Асвенцым, дзе арганізаваў польскае падполле. І апошняе адкрыццё — польская даследчыца з Быдгашча Гізэла Хмялеўская даслала ў музей сваю кнігу пра Эдварда Вайніловіча. Добра, што знайшоўся даследчык, які падрабязна склаў біяграфію нашага знакамітага мінчука — ад маленства да пасмяротнага ўшанавання. Чытаў з захапленнем. Такая кніжка заслугоўвае, каб яе пераклалі. Што мы ведаем пра Вайніловіча? Што ў памяць памерлых дзяцей ён пабудаваў касцёл св. Сымона і Алены. А ён шматгранная асоба, якой з поўным правам могуць ганарыцца і беларусы. Дарэчы, карані легендарнага Вітальда Пілецкага таксама беларускія — яго бацька родам з Наваградчыны. Дзякуй Богу, тэндэнцыя вяртання да каранёў уласціва і нашай краіне. А гістарычныя і культурныя повязі паміж Беларуссю, Польшчай і іншымі нашымі суседзямі моцныя. Вельмі характэрны прыклад. Тры родныя браты сталі вядомымі грамадскімі і палітычнымі дзеячамі на ніве нацыянальнага адраджэння трох народаў: Тадэвуш Іванаўскас — літоўскага, Вацлаў Іваноўскі — беларускага, а трэці брат — Юрый (Ежы) Іваноўскі — польскага.

## Пад вокладкай

Марына ВЕСЯЛУХА



**Пашкоў Г. У далонях свету / Генадзь Пашкоў; склад. Л. В. Календа. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 191 с.**

"За Уздой ля Магільнага / Нёман — малы, / ды адсюль набірае разбег адмысловы, / і пра тое пасведчыць / высока ўгары / пад нябесным скляпеннем / касяк журавовы". Карціны роднай прыроды, поўныя замілавання і любові да радзімы, малюе ў сваіх вершах Генадзь Пашкоў. У новую кнігу аўтара ўвайшлі яго, бадай, самыя лепшыя вершы —яркія прыклады беларускай пейзажнай, патрыятычнай і філасофскай лірыкі. Тут можна прачытаць таксама паэмы "Дыстанцыя небяспекі", "Легенда Прыпяці". Некаторыя творы зборніка ўключаныя ў школьную праграму па беларускай літаратуры.



**Маслюков, В. С. Рождение волшебницы. Клад / Валентин Маслюков. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 336 с.**

Гэты раман — першая кніга з цыкла твораў, арыгінальнага па сюжэце і бліскуча выкананага ў літаратурных адносінах. У ім добра спалучаюцца поўная глыбокага сэнсу казка і псіхалагічна дакладна выпісаны любоўны раман. У цэлым, кніга Валянціна Маслюкова — сапраўдны падарунак для аматараў славянскага фэнтэзі, знаўцаў гістарычных рэканструкцый і прыхільнікаў творчасці Джона Толкіна і Клайва Льюіса.



**Жураўлёў, В. П. Класіка і літаратурная сучаснасць: духоўны патэнцыял чалавека / В. П. Жураўлёў; навук. рэд. У. В. Гніламёдаў. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 244 с.**

Як акрэсліць у агульных рысах сутнасць паняцця "літаратурная класіка"? Якім чынам вызначыць уплыў класічных твораў на сучасную літаратуру, станаўленне новых традыцый і метадаў, паняццяў духоўнасці чалавека? Як адгукаецца наша класіка ў творах аўтараў розных пакаленняў, якім чынам яна фарміруе ідэал паводзін чалавека? Здавалася б, пытанні не з лёгкіх, ды і ці можа быць на іх пэўны адказ? Хутчэй за ўсё, не. Яго можна толькі акрэсліць, абазначыць у межах асобнай літаратуразнаўчай тэорыі, прафесійных перакананняў даследчыка. Што і робіць доктар філалагічных навук Васіль Жураўлёў у сваёй манаграфіі.



**Бегбедер, Ф. Романтический эгоист / Фредерик Бегбедер; Пер. с франц. М. Зониной. — Москва: Иностранка, 2010. — 464 с.**

"Некаторыя сцвярджаюць, што мяне завуць Аскар Дзюфрэн; іншыя мяркуюць, што маё сапраўднае імя — Фрэдэрык Бегбедэр. Часам я сам гублюся". Пад маскай героя рамана, які сам Бегбедэр назваў "Лега з Эга", то спавядаецца сам аўтар, то нагаворвае на сябе выдуманы пісьменнік, стомлены славай. Твор напісаны ў форме дзённіка, у якім хутка змяняюць адна адну сцэны з клубаў, дзе збіраецца парыжская літаратурная багема, пляжаў і дыскатэк модных курортаў, прэстыжных гатэляў і "гарачых кварталаў".

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# «Мёртвы сезон» гарачага лета

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

***Кніжны гандаль падпарадкоўваецца агульным законам і залежыць ад розных абставін. Лета — час адпачынкаў, таму на кніжным рынку традыцыйны спад актыўнасці. Сёлета да звычайнай сітуацыі дадаліся праблемы з набыццём валюты, што не магло не адбіцца на "тэмпературы" гандлю. Пра тое, як праходзіць "мёртвы сезон", — наша гутарка з Дзмітрыем Макаравым, генеральным дырэктарам ТАА "Макбел", адным з галоўных арганізатараў Мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу, і Інай Ракевіч, начальнікам аддзела друку ААТ "Магілёўсаюздрук", прадпрыемства, якое сёння актыўна займаецца і кнігагандлем.***





**— Скажыце, калі ласка, ці моцна адрозніваецца гэта лета ад мінулага?**

**Дзмітрый Макараў**: Традыцыйна для лета характэрна зніжэнне продажаў кніг. Але сёлета сітуацыя на кнігагандлёвым рынку горшая, чым падчас дэфолту. Кожны вынаходзіць сваю методыку выжывання. Каля 30 працэнтаў гандляроў спынілі працу, каля 50 працэнтаў скарацілі — хто напалову, хто на 20 працэнтаў. І гэтая тэндэнцыя ўзмацняецца. На выручках адразу адбілася тое, што ўпала рэальная здольнасць пакупнікоў набываць кнігі. Адсутнасць валюты ў вольным продажы прывяла да таго, што павысіліся цэны на расійскія выданні — іх жа гандляры набываюць за валюту. Скажыце, каму патрэбна новая кніга за 100 тысяч рублёў? А механізм цэнаўпарадкавання менавіта такі, што кошт расійскіх кніжных навінак перавёў іх у прадмет раскошы.

**Іна Ракевіч**: Так, лета – асаблівы перыяд у працы кнігарань. Адчуваюцца сезонныя змены спажывацкага попыту: гэта перыяд адпачынкаў, узровень продажаў паступова зніжаецца з-за памяншэння колькасці пакупнікоў. У агульную карціну гэтага лета значныя карэктывы ўнесла нестабільная сітуацыя на валютным рынку. Рэзкае павелічэнне цэн прымусіла пакупнікоў перагледзець расходныя артыкулы свайго бюджэту. І разам с тым сёлета раней, чым у мінулыя гады, назіраецца павелічэнне закупак вучэбна-метадычнай літаратуры, магчыма, у сувязі з тым, што пакупнікі вымушаны загадзя планаваць расходы на падрыхтоўку школьнікаў да новага навучальнага года. У летні час людзі імкнуцца паехаць у адпачынак, набыўшы неабходную літаратуру: павялічваюцца продажы карт, атласаў, дзіцячых кніг для чытання, размалёвак, папулярнай літаратуры кішэннага фармату — усяго, што можа спатрэбіцца ў дарозе. Такую карціну мы назіраем кожны год у гэтую пару.

**— Што можа пераламіць сітуацыю?**

**Дзмітрый Макараў**: Толькі ўключэнне рэгулятараў рынку. Пакуль не зменіцца эканамічная сітуацыя, у кнігагандлі змен не прадбачыцца. Сёння на прылаўках старыя пастаўкі. Прадпрымальнікі, якія працуюць за наяўны разлік, не могуць купіць валюту ў абменніках і набыць новыя кнігі. У выніку асартымент кнігагандлёвага рынку вымываецца. Аптавікі вяртаюць кнігі ў Расію — нават за тое, што мы прадалі, мы не можам з расіянамі разлічыцца: кнігі бралі па адной цане, а вяртаць давядзецца зусім іншыя грошы. Прадпрымальнікі скарачаюць колькасць арандаваных месцаў. Летам кнігагандляры страты неслі заўсёды. Пад'ём пачынаўся пасля 15 жніўня, калі людзі вяртаюцца з адпачынкаў, рыхтуюць дзяцей да новага навучальнага года, набываюць канцтавары і да т.п. Ці прачнецца рынак у гэтым годзе — не ведаю.

**Іна Ракевіч**: Сезонны спад спажывецкага попыту — гэта аб'ектыўны фактар, які ўплывае на актыўнасць кніжнага гандлю, але мы намагаемся звесці яго ўплыў да мінімуму. Дзеля таго, каб стымуляваць продажы, пастаянна вывучаем інтарэсы пакупнікоў, падбіраем літаратуру пад заказ, арганізоўваем тэматычныя выстаўкі, прысвечаныя розным святам і памятным датам, пастаянна дзейнічае выстаўка "Тэрыторыя нізкіх цэн" у кнігарнях горада Магілёва "Мир", "Мысль", "Світанак", "Раніца" і кнігарні горада Крычава, дзе можна набыць самую разнастайную літаратуру — ад метадычнай да мастацкай. Атрымаць інфармацыю пра акцыі і выстаўкі-продажы, а таксама пра навінкі кніжнай прадукцыі можна на нашым сайце ў Інтэрнэце (**http://mogsp.by**). Пастаянна рэкламуем кніжныя выданні па радыё, тэлебачанні, праз мясцовыя перыядычныя выданні. З мэтай прыцягнуць увагу да беларускай літаратуры ў сярэдзіне лета арганізуем выстаўку "Купляйце беларускае" ва ўсіх кнігарнях Магілёва.

**— Як выглядае на агульным фоне гандаль кнігамі беларускіх выдавецтваў?**

**Дзмітрый Макараў**: Калі адной кніжкай заняць увесь прылавак, аб'ём продажу ад гэтага не вырасце. Устойлівыя пазіцыі па продажы беларускіх выданняў захавала толькі Мінская фабрыка каляровага друку: яна адначасова і выдавец, і друкар. Значна знізіўся сёлета ў параўнанні з мінулым годам попыт на падарункавыя выданні — альбомы, буклеты. Заўважце, на сённяшні момант кнігі нават у сацыяльных апытаннях займаюць не асобнае месца: пытанне, колькі працэнтаў ад агульных даходаў людзі выдзяляюць на набыццё кніг, аб'яднана з набыццём квіткоў у кіно, набыццём газет. Агульная лічба складае адзін працэнт.

**Іна Ракевіч**: Наша гандлёвая сетка перабояў у пастаўках расійскіх кніг не адчула, бо ў нас заўсёды назапашана літаратура на такі выпадак. Таксама мы пастаянна працуем з беларускімі пастаўшчыкамі, якія могуць замяніць некаторыя расійскія кнігі беларускім асартыментам. Літаратура беларускіх выдавецтваў шырока прадстаўлена ў нашых кнігарнях. У любую пару года, а асабліва летам, шырокім попытам карыстаюцца падарункавыя, сувенірныя выданні, літаратура па краязнаўстве. Пастаянна ўстойлівы попыт на беларускую класіку і папулярныя творы сучасных беларускіх аўтараў. Заўсёды папулярныя кнігі Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна, Аляксея Дударава, Анатоля Клышкі, Тамары Лісіцкай, Наталлі Батраковай. Не выключэннем стала і гэта лета.

Навукова-метадычную літаратуру да пачатку новага навучальнага года не толькі прадаём па заяўках індывідуальных пакупнікоў, але і камплектуем неабходнай літаратурай навучальныя ўстановы.

**— Якую параду вы б далі сёння ўсім, чыя дзейнасць звязана з кнігай?**

**Дзмітрый Макараў**: Сціснуць зубы і перацярпець. Калі адмовіцца ад справы, вярнуцца ў яе неверагодна цяжка.

**Іна Ракевіч**: Сёння, калі ў кнігі з'явілася столькі канкурэнтаў — тэлебачанне, Інтэрнэт, іншыя крыніцы інфармацыі, — нельга працаваць "па-старому", трэба лічыцца з павевамі часу. Неабходна аператыўна адсочваць змены кан'юнктуры і ў адпаведнасці з імі ўносіць змены ва ўласную працу.

**— І, нягледзячы на абставіны, даводзіцца планаваць далейшую дзейнасць.**

**Дзмітрый Макараў**: Так. Загадзя трэба рыхтавацца да наступнай Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. У той час, калі буйныя кніжныя форумы маюць пэўныя клопаты, нам пашанцавала з часам правядзення апошняй выстаўкі — калі б яна адбылася на пару месяцаў пазней, мы не дасягнулі б такіх высокіх паказчыкаў: 23 дзяржавы, 605 экспанентаў (180 з іх замежных), колькасць наведвальнікаў — 51 тысяча, таму што ўваход на мінскі кніжны форум бясплатны. Параўнайце, напрыклад, з санкт-пецярбургскім форумам, які я наведаў у канцы красавіка — уваход каштуе 150 расійскіх рублёў. Калі наведаюць выстаўку тата, мама і двое дзяцей, гэта істотна адаб'ецца на сямейным бюджэце.

Ганаровы госць — Германія — адпрацавала на "дзясятку" па дзесяцібальнай сістэме, запомніліся наведвальнікам і арыгінальны дызайн стэнда, і насычаная праграма са шматлікімі майстар-класамі. З удалых праектаў адзначу "Сучасную нямецкую літаратуру", які пачалі сумесна з Інстытутам Гётэ хітом 2009 года "Ты не пампрэш" Катрын Шміт. Гэта выдатная магчымасць для беларускага чытача далучыцца да лепшых узораў сусветнай літаратуры. Цяпер у серыі "Сучасная нямецкая літаратура" мы плануем друкаваць аўтараў, адзначаных літаратурнымі прэміямі сваіх краін. Падтрымліваем стасункі з Францыяй і нашым традыцыйным партнёрам — Расіяй. Ладзяцца сустрэчы з ганаровымі гасцямі наступных выставак — Балівіянскай Рэспублікай Венесуэла (2012 год) і Іранам (2013 год).

Ёсць арыгінальныя задумкі: хочам выдаць бібліятэку венесуэльскай літаратуры, пачнём са знакамітай венесуэльскай энцыклапедыі. Ідуць перамовы на гэты конт. Найдрэнная ідэя — увесці ў практыку такога кшталту выданне, якое можна ўручаць кожнаму ганароваму госцю як падарунак. Існуюць і іншыя праекты, але пакуль няхай яны застаюцца ў сакрэце: мы пагаворым пра іх непасрэдна перад новай выстаўкай.

**Іна Ракевіч:** Не збіраемся спыняцца на дасягнутым. Пастаянна працуем над пашырэннем кола нашых патэнцыяльных пакупнікоў, знаходзімся ў цесным кантакце з пакупнікамі і выдаўцамі, каб задаволіць самы патрабавальны чытацкі густ. Спадзяёмся, гэта ў нас неблага атрымліваецца: ёсць што адзначыць кожны месяц у рубрыцы "Топ-10" праекта "Кніжны свет".

# Всего, много — и сразу!

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,
Денис МАРТИНОВИЧ

**А как иначе? В век, когда правит Интернет, нужно знать понемногу обо всём. Другое дело, что этого всего настолько много, что начинать приходится с самого раннего детства. "Харвест" представляет подборку многочисленных энциклопедий, которые пригодятся всем носящим почётное звание родителя. В сегодняшнем выпуске мы постараемся сориентировать этих благородных людей в девятом валу энциклопедий, обрушившемся на белорусские прилавки. Надеемся, что-то из предложенного попадёт в сети ваших книжных полок.**











## Обитатели Голубой планеты

Что должно быть в детской энциклопедии о животных? Конечно же, интересный текст, но в первую очередь — огромное количество ярких цветных рисунков. На них оживут вымершие динозавры, во всей красе предстанут панцирные рыбы и рыбы без зубов — агнаты, этакие плавающие воронки, дуклеостеус, который обитал на Земле 450 миллионов лет назад и не боялся акулы, а очень даже не прочь был порвать её своими мощными челюстями; предки черепах и млекопитающих. Интересно будет узнать, что хобот и горб имел такой представитель семейства копытных, как макраухения, а у синтетоцераса не только рога украшали место между ушами, но и, подобно носорогу, животное имело нечто, напоминающее костяную вилку между ноздрей. Кватти была наполовину зебра, наполовину гнедая лошадь, что, впрочем, не помешало ей сохраниться почти до начала XX века. И ещё в начале прошлого века в Северной Америке водилась птица купидон, которая, чтобы понравиться самке, надувала на шее оранжевые кожаные шарымешки. Уцелевшим видам повезло больше — читатель может оценить их красоту не только по рисункам В. Волынца, но и на фотографиях. В путешествие по Арктике и Антарктиде, Америке, Евразии, Африке, Австралии и Океании с таким гидом, как **"Большая энциклопедия животных"**, отправиться — одно удовольствие. А алфавитный указатель значительно облегчит поиск информации о том или ином обитателе нашей планеты. Энциклопедия адресована широкому кругу читателей, начиная от самых маленьких, которые "читают" только картинки.

Для тех, кто чуть-чуть постарше, — книга Лори Трифелдт **"Люди и места. Самые интересные и знаменитые"**. Темы расположены в алфавитном порядке. Здесь есть сведения о Древней Индии и калифорнийской золотой лихорадке, рыцарях Средневековья и фигурном катании (с иллюстрациями коньков — и тех, что носили викинги, и тех, которые удостоились ножки английской королевы), родео и этрусских, короле Артуре и кузнечном ремесле, маяках мира, пиратах и украшениях человечества (где, когда и куда люди умудрялись их пристраивать). В статье о каждом государстве — его место на карте мира, флаг, список достопримечательностей, краткие сведения о населении и национальной одежде, праздниках... И даже пособие, как сделать маску к карнавалу. С помощью этой книги можно поиграть в золотоискателя: сделать золотой песок и прочувствовать радость добытчиков. А ещё полистать словарь, содержащий названия частей мостов, и с полным знанием дела показать их на ажурных конструкциях, что столетиями соединяют разные берега рек планеты. И даже узнать, как изготовлялись мумии, и "законсервировать" яблоко. Правда, авторы честно предупреждают — есть его после мумификации нельзя.

## Если звёзды зажигают

Значит, это кому-нибудь нужно, утверждал Владимир Маяковский. Для тех, кому нужно, издательство "Харвест" предлагает две энциклопедии, переводные с английского — **"Звёзды и планеты. Иллюстрированная энциклопедия"** и **"Атлас звёздного неба" Сторма Данлопа.** Для читателей, у кого дети поменьше, рекомендуем "Звёзды и планеты..." — в ней, помимо всего прочего, есть словарь, много картинок и адаптированный для детей текст. В книге масса интересных фактов и курьёзов, например, как в 1938 году многие американцы настроили свои радиоприёмники на радиостанцию, которая транслировала постановку фантастического романа Герберта Уэллса "Война миров", и потому решили, что марсиане действительно начали завоевание Земли. С помощью энциклопедии читатели приобретут полезные навыки, например, научатся правильно наблюдать солнечное затмение.

"Атлас звёздного неба" адресован более взрослым читателям. В нём содержатся подробные карты звёздного неба (их 20), детальные карты всех 88 созвездий, большой раздел посвящён ближайшему спутнику нашей планеты — Луне (в него включены карты, составленные Антонином Рюклем, каждая из которых снабжена зеркальной картой меньшего масштаба, чтобы помочь при работе с телескопом: он даёт зеркальное изображение). Представляете, там, на небе, есть Море Кризисов. Впрочем, неподалёку от Моря Спокойствия и Моря Изобилия — и всё это на Луне.

Издание снабжено указателями лунных деталей и созвездий, есть раздел "Дополнительная информация", в котором размещены сведения о журналах, ежегодниках, изданиях, посвящённых звёздному небу, а также сведения об астрономических обществах. Книга обеспечит любителей астрономии всей необходимой информацией, позволяющей легко прокладывать путь по звёздному небу. Дракон и Индеец, Ящерица и Малый Лев, Микроскоп и Единорог, Летучая Рыба и Лисичка — все они заманчиво посылают на Землю свет своих звёзд и ждут взгляда путешественника.

## Что, зачем и почему?

Рано или поздно каждый ребёнок начинает интересоваться окружающим миром. В это время он задаёт массу вопросов. Что такое перископ? Какая собака была самая маленькая? Существовал ли на самом деле барон Мюнхгаузен? Кто такой мерчендайзер? Что такое полезные ископаемые, и какие они бывают? Почему корову считают священным животным? И каждый раз взрослые стараются удовлетворить интересы детей. В советскую эпоху была выпущена знаменитая двухтомная (позднее трёхтомная) детская энциклопедия "Что такое? Кто такой?", которая выдержала не одно издание.

Не ударили в грязь лицом и в постсоветскую эпоху. Одним из универсальных изданий такого типа является книга **Татьяны Шереметьевой "Что? Зачем? Почему? Новые вопросы, новые ответы"**. Прочитав её, юный почемучка узнает много нового о профессиях и хобби, религии и науке, откроет для себя удивительный мир музыки, театра и кино, познакомится с важнейшими изобретениями человечества и самыми интересными открытиями — от появления первых инструментов до технических новинок, изменивших нашу жизнь за последние десятилетия. Все это — необходимые знания, которые помогут сформировать интеллект и стать настоящим эрудитом. Эта книга не только полезна, но ещё и занимательна, для детей она станет лучшим другом и настоящим подарком.

## Джеймс Бонд или Дон Жуан?

Одним из направлений, в котором с успехом реализуют себя авторы современных энциклопедий, является работа над изданиями для определённой группы людей. Например, энциклопедий для мальчиков. Но поскольку у каждого из авторов существуют свои представления о том, каким должен быть настоящий мачо, издания такого типа существенно отличаются друг от друга. **"Энциклопедия для мальчиков"**, написанная **Денисом Матарыкиным** (он же выступил и в качестве художника), кажется, создана для будущих Джеймсов Бондов. Причём тут легендарный агент 007? Дело в том, что свои подвиги спаситель человечества приходилось совершать в разных странах и на разных континентах. Поэтому энциклопедия просто создана для тех, кто мечтает о дальних странствиях, кого влекут просторы небес и трассы автогонок. "Энциклопедия для мальчиков" рассказывает о машинах военных и мирных, о тех, что движутся по земле, летают и плавают, о транспортных средствах, которыми приходится пользоваться каждый день (например, поезд метро) и которые можно увидеть только в кино или музеях.

А вот **Елена Чайка**, автор **"Большой энциклопедии для мальчиков"**, написала свою книгу скорее для будущих Дон Жуанов. "Мужчина должен быть смелым. Мужчина должен быть сильным и ловким. Он должен уметь постоять за себя и защитить слабого. Он должен уметь общаться с людьми и отстаивать свою точку зрения. И, конечно, у него должен быть свой, неповторимый стиль". Собранный материал представлен в следующих разделах: "Искусство общения", "Настоящий мужчина — настоящий джентльмен", "Мода и стиль", "Правила личной гигиены", "Что надо знать об интимной жизни", "Сделай правильный выбор" и некоторых других. Для издания характерны яркие и оригинальные примеры. Вот как Е. Чайка советует побеждать представление человека о том, что он некрасивый: "Классик русской поэзии Александр Сергеевич Пушкин, судя по портретам и свидетельству современников, был весьма непривлекателен. Но разве это помешало ему покорить за свою недолгую жизнь несметное число женщин? И какие это были дамы!".

## Кто всех умней

**"Детская энциклопедия в вопросах и ответах для очень умных"** предназначена, как утверждают её создатели, для "взрослых детей". Действительно, сведения, содержащиеся в книге, будут полезны отличникам, участникам республиканских олимпиад по истории и географии, интеллектуальных игр "Что? Где? Когда?", а также любопытным читателям, которые любят поразить собеседников ответами на самые сложные и заковыристые вопросы. Можно с уверенностью сказать, что представляемое издание просто создано для них, поскольку книга как раз построена на сочетании вопросов и ответов: "Как помощник капитана фрегата стал пиратом?", "Что писал Кусто о затонувших сокровищах?", "Была ли Мата Хари на самом деле шпионкой?". Каждая небольшая статья сопровождается иллюстрациями. Сведения сгруппированы в разделы: "Тайны истории", "Знаменитые путешественники", "Рыцари", "Пираты", "Сокровища мира", "Тайны моря" и "Магия и колдовство".

Літаратура і мастацтва № 32 12 жніўня 2011 г.

**Працяг. Пачатак у № 4, 6 — 31.**

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 1 января 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учётный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям | Срок действия лицензии |
|---|---|---|---|---|---|
| «Республиканский центр сертификации и экспертизы лицензируемых видов деятельности» | 220088, г. Минск, ул. Захарова, 73а, к. 208 | 190212983 | 0552689 выд. 3.05.2008 №61 | 1, 2, 3, 4, 6, 8, 9 | 3.05.2013 |
| «ГлобусМедиа», торговое ЧУП | 230023, г. Гродно, ул. Виленская, 1 | 590790232 | 0150276 выд. 3.05.2008 №61 | 8 | 3.05.2013 |
| «Юнипак», ЗАО | 220073, Минск, ул. Бирюзова, 4, к. 2 | 101009573 | 0150278 выд. 3.05.2008 №61 | 2, 3, 4, 8, 9, 10 | 3.05.2013 |
| «Жизнь», издат. учреждение | 220013, Минск, ул. Кульман, 2, к. 426 | 190851099 | 0150272 выд. 3.05.2008 №61 | 9, 12 | 3.05.2013 |
| «Смэлток», ООО | 220046, Минск, ул. Радиальная, 36, к. 102 | 101190580 | 0494046 выд. 3.05.2008 №61 | 3, 4, 8, 9, 10 | 3.05.2013 |
| «Мон литера», ООО | 220075, Минск, пр. Партизанский, 178, оф. 501 | 190998440 | 0150287 выд. 11.06.2008 №67 | 3, 8, 9, 10 | 11.06.2013 |
| «Профессиональное издательство», ЧПУП | 220040, Минск, ул. М. Богдановича, 153-507 | 190482310 | 0150291 выд. 11.06.2008 №67 | 4, 8 | 11.06.2013 |
| «Равноденствие», ОДО | 220029, Минск, ул. Киселева, 47–3 | 190421632 | 0552640 выд. 11.06.2008 №67 | 2, 3, 4, 8 | 11.06.2013 |
| «Кактус групп», ООО | 212030, г. Могилев, пер. 2-ой Крутой, 5 | 790486419 | 0150286 выд. 11.06.2008 №67 | 4, 8, 9 | 11.06.2013 |
| «Минский городской институт развития образования», ГУО | 220034, г. Минск, пер. Броневой, 15а | 190253563 | 0150322 выд. 9.07.2008 №81 | 2, 6, 8 | 9.07.2013 |
| «ФилТВ», ОДО | 246050, г. Гомель, ул. Жарковского, 6а | 400416832 | 0552910 выд. 9.07.2008 №81 | 9 | 9.07.2013 |
| «Редакция журнала «Планета», ЧИУП | 220114, г. Минск, ул. Ф. Скорины, 4, к. 110 | 100055526 | 0150315 выд. 9.07.2008 №81 | 8, 9 | 9.07.2013 |
| «Дело (Восток+Запад)», ЧИПУП | 220002, г. Минск, ул. Сторожевская, д. 8, кв. 94 | 100055526 | 0150312 выд. 9.07.2008 №81 | 4, 8 | 9.07.2013 |
| «Спейс-График», ООО | 246027, Гомель, ул. Барыкина, 153 | 400284089 | 0552992 выд. 9.07.2008 №81 | 9 | 9.07.2013 |
| «Магия света», ООО | 220040, г. Минск, ул. Некрасова, 11/34, к. 2 | 100231967 | 0150311 выд. 9.07.2008 №81 | 9 | 9.07.2013 |
| «Издательство Дмитрия Харченко», ЧПТУП | 220019, г. Минск, ул. Горецкого, д. 7, корп. 2, кв. 40 | 191026614 | 0150324 выд. 9.07.2008 №81 | 3, 9, 10 | 9.07.2013 |
| «КапиталМедиаГрупп», ИЧУП | 220021, г. Минск, пер. Бехтерева, 10, к. 1403 | 190858925 | 0494327 выд. 9.07.2008 №81 | 1, 3, 4, 8 | 9.07.2013 |
| «Инфопарк-проект», ЗАО | 220030, Минск, ул. Революционная, 11, к. 305 | 190951913 | 0150330 выд. 9.07.2008 №81 | 8 | 9.07.2013 |
| «ГИВЦ Минсельхозпрода», информ.-вычислит. РУП | 220002, Минск, ул. Кропоткина, 44, к. 1008 | 100085228 | 0150357 выд. 5.09.2008 №103 | 2, 4, 8 | 5.09.2013 |
| «Открытый Медиа Проект», ЗАО | 220035, Минск, ул. Тимирязева, 65Б, пом. 98, к. 708Б | | | 8 | |
| «ИВ-Инфо», ЧПУП | 212030, Могилев, ул. Первомайская, 89, оф. 46 | 790599469 | 0003908 выд. 5.09.2008 №103 | 8 | 5.09.2013 |
| «Белорусская универсальная товарная биржа», ОАО | 220029, Минск, ул. Казинца, 2, к. 200 | 190542056 | 0150336 выд. 5.09.2008 №103 | 4, 8 | 5.09.2013 |
| «Полиграфика», ООО | 224007, г. Брест, ул. Стафеева, 21 | 290447125 | 0552848 выд. 5.09.2008 №103 | 3, 4, 8, 9 | 5.09.2013 |
| «МКФ-плюс», ООО | 223710, г. Солигорск, ул. Набережная, 13, к. 1 | 690641733 | 0150344 выд. 5.09.2008 №103 | 4, 8, 9 | 5.09.2013 |
| Шиманская С.С., ИП | Минск, ул. Ландера, 46, кв. 113 | 191028461 | 0150346 выд. 5.09.2008 №103 | 3, 4 | 5.09.2013 |
| «Редакция газеты «Слава працы» и программы радиовещания «Раніца Капыльшчыны», ГУ | 223910, г. Копыль, ул. Тракторная, 2а | 600068120 | 0150340 выд. 5.09.2008 №103 | 8 | 5.09.2013 |
| «Студия дизайна Факс-Пресс», ОДО | 231300, г. Лида, ул. Лётная, 4 | | | | |
| «БелНИЦзем», НИ РУП по землеустройству, геодезии и картографии | 220108, Минск, ул. Казинца, 86, корпус 3, к. 812 | 100036358 | 0150377 выд. 19.11.2008 №134 | 4, 8 | 19.11.2013 |
| «Точно-вовремя», ООО | 223021, Минский р-н, 500 м восточнее д. Богатырево, (Литер А 5/к-кп) | 690608000 | 0548534 выд. 19.11.2008 №134 | | |
| «Проспектплюс», ПЧУП | 220036, Минск, пер. 3-й Загородный, д. 4а, к. 503 | 190273541 | 0552819 выд. 19.11.2008 №134 | 2, 4, 8, 9 | 19.11.2013 |
| «Институт системных исследований в АПК НАНБ», научное РУП | 220108, Минск, ул. Казинца, 103, к. 211 | 101001968 | 0150376 выд. 19.11.2008 №134 | 2, 3, 4, 8 | 19.11.2013 |
| «Издательский дом «Вечерний Минск», КУП | 220005, Минск, пр. Независимости, 44 | 100144018 | 0150367 выд. 19.11.2008 №134 | 3, 8, 9 | 19.11.2013 |
| «Белорусская олимпийская академия», ОО | 220020, Минск, пр. Победителей, 105 | 101844039 | 0150369 выд. 19.11.2008 №134 | 2, 3, 4, 6, 8, 9 | 19.11.2013 |
| «Юнивенс», ООО | 220018, Минск, ул. Шаранговича, 19, к. 501 | 190966044 | 0548555 выд. 19.11.2008 №134 | 4, 8, 9 | 19.11.2013 |
| «КОМПИ», ОДО | 220049, Минск, ул. Черняховского, д. 3, к. 5 | 100339195 | 0150370 выд. 19.11.2008 №134 | 4, 8, 9 | 19.11.2013 |
| «Профигруп», ОДО | 220040, Минск, ул. М. Богдановича, 153-417 | 190090226 | 0150372 выд. 19.11.2008 №134 | 4, 8 | 19.11.2013 |
| «Гомельское отделение БелТПП», негосударственной некоммерческой организации Республики Беларусь | 246017, г. Гомель, ул. Ирининская, 21 | 400002583 | 0150385 выд. 19.11.2008 №134 | 8 | 19.11.2013 |
| «Редакция журнала «Гермес», учреждение | 220050, г. Минск, ул. Кирова, 8, корп. 1, к. 101 | 100087537 | 0150373 выд. 19.11.2008 №134 | 4, 8 | 19.11.2013 |
| «Братство в честь святого Архангела Михаила в г. Минске Минской епархии Белорусской Православной Церкви», РО | 220020, Минск, пр. Победителей, 82 | | | 3, 8, 12 | 19.11.2013 |
| «Институт переподготовки и ПК» МЧС РБ | 222131, Борисовский район, пос. Светлая Роща | 600398296 | 0150383 выд. 19.11.2008 №134 | 4, 6, 8 | 19.11.2013 |
| «Зималетто», ООО | 220030, Минск, ул. Октябрьская, д. 19, литер М 2/к, к. 10 | 190787306 | 0150378 выд. 19.11.2008 №134 | 2, 3, 4, 8, 9 | 19.11.2013 |
| Колтунов Б.П., ИП | г. Брест, ул. Орловская, 35-8 | 200719067 | 0150386 выд. 19.11.2008 №134 | 8, 9 | 19.11.2013 |
| «Институт генетики и цитологии НАНБ», ГНУ | 220072, Минск, ул. Академическая, д. 27, к. 123 | 100262387 | 0150384 выд. 19.11.2008 №134 | 2 | 19.11.2013 |
| «Информационно-издательский центр по налогам и сборам», РУП | 220005, Минск, пр. Машерова, 7, к. 123 | 190819036 | 0150379 выд. 19.11.2008 №134 | 4, 8 | 19.11.2013 |

# Антрэпрыза Арнольда Ранцанца

**Заслужанага артыста Украіны і Беларусі Арнольда Ранцанца гледачы добра ведаюць і вельмі любяць — яго камічныя і драматычныя вобразы (больш як сотня роляў!), створаныя на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, многія помняць да сённяшняга дня, хоць Арнольд Аляксандравіч ужо чатыры гады там не працуе. На жаль, не па сваім жаданні пакінуў ён родную сцэну пры былым кіраўніцтве тэатра, але змог не разгубіцца і не змарнаваць свой талент. Ён аптыміст, ніколі не скардзіцца на лёс, ставіць перад сабой задачы і вырашае іх! Сёння Арнольд Ранцанц мае сваю антрэпрызу, гастралюе са спектаклямі не толькі па Беларусі, але і далёка за яе межамі.**





**Вольга НАВАЖЫЛАВА**

Мне пашчасціла трапіць у святая святых: на рэпетыцыю спектакля "Прывітанне, я ваша цётка!". Арнольд Ранцанц там не толькі кіруе працэсам як рэжысёр, але і цудоўна іграе абаяльную мільянерку Донну Люцыю (ды настолькі пераканаўча гэта робіць, што аднойчы дзве прыхільніцы нават праніклі ў закулiссе, каб даведацца, ці насамрэч цётку Чарлі іграе мужчына). Мяне ж як гледача асабліва ўразіла тое, што акцёры ў антрэпрызе А. Ранцанца не толькі бліскуча выконваюць свае ролі, але і ствараюць на сцэне і за яе межамі настолькі сяброўскую і цёплую атмасферу, што па-добраму дзівішся такой суладнасці калектыву. Здаецца, для акцёрскага асяроддзя гэта незвычайная рэдкасць…

**— Арнольд Аляксандравіч, у чым тут сакрэт?**

— Ідэя стварыць сваю антрэпрызу пачала фарміравацца, калі я яшчэ працаваў у музычным тэатры. У пачатку 1990-х гадоў мяне папрасілі стварыць выязную канцэртную праграму. Я назваў яе "Зоркі беларускай аперэты". У склад нашай каманды ўваходзілі Наталля Гайда, Герман Казлоў, Зінаіда Вяржбіцкая, Пётр Рыдзігер, Людміла Станевіч ды іншыя выдатныя артысты. Мы з вялікім поспехам давалі канцэрты ў Беларусі і Расіі. Потым да мяне звярнуўся прадзюсар Алег Азаронак і прапанаваў стварыць музычны спектакль. Першай ластаўкай быў пастаўлены ў 2006 годзе спектакль "Містар Ікс". У музычным тэатры ён ішоў пад назвай "Прынцэса цырка", а я зрабіў сваю пастаноўку. Шмат часу прысвяціў працы над п'есай, над музычным матэрыялам. Вядомы аранжыроўшчык Уладзімір Ткачэнка зрабіў для нас мінусовую фанаграму (маё галоўнае правіла — спяваць жывымі галасамі). Спектакль атрымаўся цікавы, гледачы прымаюць яго вельмі цёпла. Галоўныя ролі выконваюць Лідзія Кузьміцкая і Васіль Мінгалёў, які, дарэчы, марыў выканаць гэтую партыю ў музычным тэатры, але там не даваўся. Многія артысты ў маёй антрэпрызе здзяйсняюць свае мары! Затым былі пастаўлены "Графіня Марыца", "Прывітанне, я ваша цётка!" і дзіцячая казка "Залатое куранятка". Мы з задавальненнем выступаем у Латвіі і Літве. А сёння я працую над двума новымі спектаклямі, але пакуль іх назвы трымаю ў сакрэце.

**— Паводле якога прынцыпу вы выбіраеце творы для пастаноўкі? І, калі ласка, раскажыце крыху пра сваіх артыстаў.**

— Я заўсёды падбіраю спектакль на канкрэтных артыстаў. На сённяшні дзень у нас сфарміраваўся вельмі цікавы творчы калектыў, у складзе якога артысты розных тэатраў. Кожны акцёр для мяне — гэта адкрыццё. Напрыклад, у маіх спектаклях бліскуча іграе Кірыла Андронаў — прафесійны артыст, якога калісьці не ацанілі ў музычным тэатры. Таксама як і Анжаліку Чумакову, якая працавала там больш як 10 гадоў, але чамусьці ёй давяралі толькі невялікія ролі. А ў мяне Анжаліка выдатна выконвае вядучыя партыі. Я вельмі рады, што ў мяне працуе Дзяніс Мальцэвіч — у мяне ён выканаў ролю Чарлі ў камедыі "Прывітанне, я ваша цётка!". Не магу не адзначыць таксама творчыя ўдачы Ігара Бычкова і Галіны Жалубоўскай. А цудоўная характарная актрыса Ірына Скарабагатава і народная артыстка Беларусі Наталля Руднева могуць упрыгожыць любы спектакль! Таксама я вельмі рады, што са мной працуе як харэограф Дзмітрый Якубовіч.

**— Арнольд Аляксандравіч, сёння, калі вы маеце свой калектыў, вашы адчуванні ад прафесіі мяняюцца?**

— Я чалавек самакрытычны, але надзвычай люблю сваю прафесію, і паколькі на сённяшні дзень я ў добрай творчай сіле, то іграю ва ўсіх сваіх спектаклях: Гасподзь Бог падараваў мне такую магчымасць у мае 66 год! А калі я паспрабаваў сябе ў ролі рэжысёра, то зразумеў, наколькі гэта цікава. За доўгае творчае жыццё даволся пабачыць мноства рэжысёраў, але са сваім калектывам працую паводле ўласнай методыкі. Я ў жанры аперэты прафесіянал, таму калі стаўлю спектакль, дык за кожнага пражываю вобраз так, як бы я зрабіў, ігpаючы гэтую ролю: мужчынскую, жаночую, камічную, драматычную… Для мяне важна, каб на сцэне былі праўда і шчырасць. Я кажу сваім акцёрам: "Людцы, наш жанр такі смешны, наіўны, несур'ёзны, але вы павінны слепа верыць у тое, што вы робіце! Калі па-акцёрску вы будзеце пераканаўчы, вы захопіце гледача, і ён пойдзе за вамі!" У нашым калектыве ў кожнага свае абавязкі: нехта адказвае за зборку дэкарацый, іншы — за музычнае афармленне, але пры гэтым адзін аднаму абавязкова дапамагаюць. Самае галоўнае — у нас цудоўная атмасфера, людзі адчуваюць сябе адной камандай! Я бачу, як у артыстаў гараць вочы, як яны перажываюць адзін за аднаго за кулісамі!



**— На ваш погляд, у якім стане знаходзіцца сёння ў Беларусі аперэта як жанр?**

— Калі я працаваў у музычным тэатры, яго ўзровень, на мой погляд, быў неблагі. Там ігралі цудоўныя артысты, якіх сёння, на жаль, трупе тэатра нестае: Пётр Рыдзігер, Герман Казлоў, Зінаіда Вяржбіцкая, Віктар Шабуня (які, дарэчы, цудоўна працуе ў маім калектыве!). Гледачы з задавальненнем хадзілі на спектаклі на сваіх любімых акцёраў. Калі я пакінуў тэатр, першыя некалькі гадоў наведваў кожную прэм'еру і, на жаль, амаль усе яны выглядалі непераканаўча, акрамя, бадай, "Бабскага бунту". Мяне засмучала гэтая сітуацыя, бо я вельмі шчыры чалавек і радуюся, як дзіця, калі бачу добрую пастаноўку! Напрыклад, я вельмі рады, што ў нашай нацыянальнай оперы адбываецца творчы ўздым з прыходам новага галоўнага рэжысёра Міхаіла Панджавідзэ. Цудоўна, што оперны ўстае на ногі, што ў яго — царскі будынак. Ён і павінен быць прыгожым і пампезным, а калі пампезны будынак напаўняецца добрым зместам — гэта цудоўна! А вось сённяшні музычны тэатр... Я лічу, што рэжысёры, якія ставяць там спектаклі, маюць цудоўныя задумы, але трупа не здольная пакуль іх "выцягнуць"… Я працаваў у музычным тэатры амаль 30 гадоў і звычу, каб ён абавязкова стаў на ногі. А жанр аперэты патрэбны гледачам, яго любяць!

**— Ваша антрэпрыза — адзіная такога кшталту ў Беларусі.**

— Так, на шчасце, мне ўдалося заняць сваю нішу — ніхто ў краіне, акрамя мяне, не робіць антрэпрызных музычных спектакляў! Але, ведаеце, калі я заняўся гэтым, дык зразумеў, наколькі цяжка ставіць класічны музычны спектакль без балета, хору, аркестра… Чым менш на сцэне народу — тым больш складана іграць! Трэба ўсю увагу гледача сканцэнтраваць на сабе, трэба іграць праўдзіва і браць сваім прафесіяналізмам. Мы шмат рэпеціруем, імкнёмся захаваць асаблівасці жанру, і, хвала Богу, у нас атрымліваецца!

***На здымках: Арнольд Ранцанц; сцэна са спектакля "Графіня Марыца"; заслужаны артыст Украіны і Беларусі Арнольд Ранцанц у спектаклі "Прывітанне, я ваша цётка!".***

## ART-пацеркі

*Лана* **ІВАНОВА,**
*Вольга* **ПАЎЛЮЧЭНКА**
**фота з архіва рэдакцыі**

Прыгожую дату адзначыла народная артыстка Беларусі Вікторыя Мазур. Прыхільнікі музычна-сцэнічнага мастацтва ведаюць яе як зорку аперэты — уладальніцу прыгожага, моцнага голасу з аксамітным тэмбрам, яркую, харызматычную актрысу. А ўзыходзіла зорка ў Магілёве: тут нарадзілася, скончыла музычнае вучылішча, адсюль паехала паступаць у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. У студэнцкія гады стала салісткай Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР (цяпер БДАМТ). Марыца, Сільва, Разалінда, Ганна Главары... Апроч гераінь класічных аперэт увасабляла разнапланавыя вобразы ў спектаклях "Паўлінка", "Чацвёра з вуліцы Жанны", "Халопка", "Пенелопа", "Мая цудоўная лэдзі", "Бабскі бунт", "Пацалунак Чаніты"... Апошнім часам яна не працуе ў тэатры, але артыстку па-ранейшаму запрашаюць выступаць у канцэртах. Бенефіс яе адбудзецца ў сталіцы восенню.



Дзесяць гадоў таму ў "Сусветную энцыклапедыю наіўнага мастацтва" ўвайшлі работы самабытнай беларускай мастачкі Алены Кіш. Стваральніцы дзівосных вясковых малявак прысвяціла свой новы фільм айчынны майстар дакументальнага кіно Галіна Адамовіч. Яе стужку "Маляваны рай", паказаную днямі на канале "Беларусь ТВ", убачылі ў розных кутках свету.

Выстаўка лаўрэата многіх міжнародных прэмій, генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Малдовы Тудара Збырні "Архетыпальная прастора" з поспехам прайшла ў Мінску. Цяпер з незвычайнымі па каларыце, поўнымі глыбіннай экспрэсіі манументальнымі палотнамі малдаўскага жывапісца знаёміцца жыхары і шматлікія госці Гомеля: выстаўка "Архетыпальная прастора", прысвечаная 20-годдзю незалежнасці Рэспублікі Малдова, экспануецца тут у Палацава-паркавым комплексе Румянцавых і Паскевічаў.

У гэтым годзе мастаку Юрыю Татарнікаву споўнілася б 70 гадоў. У дзень яго нараджэння – 10 жніўня – прайшоў вечар памяці, а ў Мастацкім музеі, філіяле Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, адкрылася выстаўка работ мастака, падрыхтаваная сям'ёй. У экспазіцыю ўвайшлі карціны Юрыя Татарнікава, прысвечаныя ваенінай тэматыцы і Брэсту. Выстаўка будзе працаваць па 28 жніўня.

***На здымку: народная артыстка Беларусі Вікторыя Мазур.***

# Да Радзівілаў “на агеньчык”...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Амаль тры гады таму, у верасні 2008-га, у Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку “Нясвіж” адбылося адкрыццё г. зв. першага пускавога комплексу Палацавага ансамбля. Сёння экспазіцыі, размешчаныя ў аднаўленых інтэр’ерах уязной брамы, прыбрамных корпусаў і паўночна-ўсходняй галерэі, дапаўняюць расповед экскурсаводаў пра гісторыю ўзвядзення, перабудоў і рэстаўрацыі радзівілаўскага замка, пра жыццёвы ўклад, звычкі, традыцыі гаспадароў гэтага магутнага магнацкага дома, пра лёс архіва і бібліятэкі вялікіх князёў. У бліжэйшы час, паводле слоў дырэктара музея-запаведніка Сяргея Клімава, плануецца адкрыць для агляду экспазіцыі чатырох аднаўленых залаў у камяніцы і паўднёвай галерэі. А пры дастатковым фінансаванні да канца гэтага года яшчэ 27 залаў (хай нават з пакуль не завершанымі экспазіцыямі ды працягам лакальных рэстаўрацыйных работ) змогуць прымаць наведвальнікаў. У кантэксце развіцця Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка “Нясвіж” выключна важнае месца належыць мастацтву, пра што мы ўжо неаднойчы пісалі. Новай нагодай для гаворкі на гэтую тэму стаў сёлетні фестываль “Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў”.**



Адразу пасля завяршэння трохдзённага летняга музычна-тэатральнага свята ў старажытным горадзе мы разважалі на старонках “ЛіМа” пра гэты праект і распавялі пра падзеі яго першага дня, які завяршыўся эфектным выкананнем оперы Уладзіміра Солтана “Дзікае паляванне караля Стаха”. Яна ва ўмовах *open air*, у атачэнні легендарных гістарычных муроў набыла дзівосныя аўтэнтычна-містычныя фарбы: у жывым гучанні аркестра, харавога ансамбля, сольных партый, у светлавой партытуры, у нейкім разняволеным подыху сцэны. У наступныя дні Нясвіж таксама поўніўся музыкай, якая гучала і ў замкавым двары (“Вечар балета” з паказам аднаактовага спектакля “Пахіта” і канцэртнага аддзялення пад кіраўніцтвам дырыжораў Івана Касцяхіна і Мікалая Калядкі; гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра Беларусі, падрыхтаваны маэстра Віктарам Пласкінам), і ў касцёле.

На фестывальны канцэрт, які адбыўся ў нясвіжскім касцёле Божага Цела, варта звярнуць асобную ўвагу. Гэта была прэм’ера араторыі “Жальбы” Ігара Хадоскі. Мастацкі кіраўнік “Вечароў...”, мастацкі кіраўнік творчага аб’яднання “Беларуская Капэла” Віктар Скорабагатаў, назваўшы Нясвіж свяшчэнным месцам для беларускай культуры, падкрэсліў асаблівую ролю тамтэйшага касцёла як гістарычнага асяродка развіцця класічных мастацтваў: архітэктуры, скульптуры, жывапісу, музыкі, высокай паэзіі. (Дарэчы, у гэтым унікальным храме, які стаў другой у свеце, пасля галоўнай рымскай святыні езуітаў, культавай пабудовай у барочным стылі і сапраўды намоленым месцам, бо набажэнствы тут не перапыняліся ні падчас войнаў, ні ў эпоху савецкага атэізму, фрэскі захавалі сваю першародную яркасць, хоць ніколі за чатыры стагоддзі не паднаўляліся. Аднак разам з радзівілаўскай крыптай касцёл — у чаканні сур’ёзнай, навукова абгрунтаванай рэстаўрацыі).

Выкананне “Жальбаў” у атмасферы храма падкрэслівала сакральны сэнс твора. “Ахвяра Хрыста здавён атрымлівала мастацкае асэнсаванне і ўвасабленне, у тым ліку ў музыцы, — распавядае В. Скорабагатаў. — Гэтак званыя жальбы, жалобныя галашэнні на ўкрыжаванне Ісуса, нарадзіліся як жанр на пачатку нашай эры і набылі папулярнасць у еўрапейскай музычнай культуры эпохі барока. Пасіёны (ад лацінскага слова passio — пакуты) — музычны твор на кананічны евангельскі тэкст пра Хрыстовы пакуты і смерць, звязаны з традыцыйным агалашэннем у храмах пэўных раздзелаў Святога Пісання ў перадвелікодныя дні. Успомнім, якія шэдэўры пакінуў у гэтым жанры вялікі Бах: “Пасіёны паводле Матфея”, “Пасіёны паводле Іаана”! Яны жывуць сёння і як самастойныя партытуры, выконваюцца ў канцэртах”.

Рупліўцы “Беларускай Капэлы” цягам некалькіх дзесяцігоддзяў шукалі ды збіралі па касцёлах, як заўважыў В. Скорабагатаў, “ад Яраслаўля да Любліна”, старажытныя беларускія нотныя старонкі, напісаныя ў жанры пасіёнаў. Асобныя нумары былі аднаўленыя і прагучалі некалькі гадоў таму ў канцэрце Ансамбля салістаў “Класік-Авангард” пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава як цыкл “Планкты”. Аўтары музыкі беларускіх жалобных галашэнняў дакладна невядомыя, хаця гісторыя данесла да нас прозвішчы двух кампазітараў другой паловы XVII — пачатку XVIII стагоддзя: Германоўскага і Катовіча. Знойдзеныя арыгінальныя матэрыялы былі выдадзеныя ў Польшчы. Прычым сабралося іх на паўнавартасную араторыю. І па просьбе кіраўніка “Беларускай Капэлы” кампазітар Ігар Хадоска зрабіў грунтоўную рэканструкцыю твора ў традыцыі барока, у сваёй працы абраўшы метад рэканструкцыі музычнага помніка ў адпаведнасці з сучаснымі ведамі пра традыцыйныя формы і музычную мову той эпохі. Лібрэта “Жальбаў” стварылі Рыгор Барадулін, Уладзімір Мархель, Васіль Сёмуха. Выканаўцамі прэм’еры сталі салісты, хор і аркестр НАВТ оперы і балета Беларусі. Спявалі Алена Золава (сапрана), Наталля Акініна (мецца-сапрана), Юрый Гарадзецкі (тэнар), Сяргей Лазарэвіч (барытон), у якасці чытальніка быў запрошаны артыст Алег Вінярскі. За дырыжорскім пультам выступіла галоўны хормайстар тэатра Ніна Ламановіч.

Пра гэты праект, заснавальнікамі якога сталі НАВТ оперы і балета, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік “Нясвіж” пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскага аблвыканкама, Нясвіжскага райвыканкама, падзяліўся сваімі развагамі адзін з ідэйных натхняльнікаў фестывалю “Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў” — дырыжор Вячаслаў Воліч:

*— У Еўропе была эпоха Адраджэння, усе мы пра гэта цудоўна ведаем, у тым ліку на прыкладзе нашай, беларускай гісторыі. А вось мне ўяўляецца чамусьці, што такую ж эпоху Адраджэння мы закладваем сваім фестывалем. І год таму, і цяпер фестываль сапраўды ўвасабляе сувязь часоў. Праз яго адбываецца вяртанне нашай культурнай спадчыны нам жа, нашым сучаснікам, і спадзяюся, што гэтая традыцыя сапраўды будзе развівацца і ўмацоўвацца. А ў чым крэда фестывалю? У тым, каб жыла наша, беларуская музыка. Яна неадменна павінна гучаць у фестывальных праграмах. І тая, што напісана і 200, і 100 гадоў таму, і сучасная беларуская музыка. Я думаю, што гэта застанецца нашай традыцыяй і ў наступныя фестывалі. Апроч таго, свята ў Нясвіж павінны прыносіць і лепшыя спектаклі, якія сёння ёсць у рэпертуары тэатра. Спектаклі ва ўнутраным замкавым двары — гэта захапляльна! Open air — гэта вельмі асаблівая форма, тут усё не пакажаш, не зробіш, як у тэатры, усё трэба прадумваць і прыстасоўваць да рэальнага атачэння, да наваколля. Тым не менш, гэтая форма, на мой погляд, вельмі сучасная, вельмі патрэбная, бо дазваляе вялікай колькасці гледачоў у вельмі дэмакратычных варунках і за самую дэмакратычную плату ўбачыць і пачуць лепшыя ўзоры опернай і балетнай класікі і сучаснага тэатра. Я абсалютна ўпэўнены ў тым, што наш генеральны дырэктар Уладзімір Грыдзюшка і дырэктар музея-запаведніка Сяргей Клімаў дамовяцца і спраўдзяць мару, якая ёсць не толькі ў мяне, — і Нясвіж з часам стане не проста замкам, які прымае “ў госці” наш фестываль, а летняй сцэнай або летнім сезонам нашага Вялікага тэатра! Такім чынам робяць многія і многія сусветныя тэатры, якія маюць і зімовы сезон, і летні — прыкладам, у Марыінскага тэатра Пецярбурга ёсць знакаміты фестываль “Белые ночи”, які разгортваецца на працягу даволі значнага часу. Таму і я вельмі спадзяюся на ажыццяўленне сваёй мары, бо ўпэўнены ў тым, што мы здатныя разгарнуць свой пакуль яшчэ трохдзённы праект у сапраўдны сезон, і мільёны нашых грамадзян ды замежных турыстаў змогуць убачыць непаўторную з’яву: Нясвіж, замак, артыстаў нашага тэатра і выканаўцаў-гасцей.*

> “*Самы дарагі білет на “Вечары...” каштаваў у Нясвіжы 20 тысяч, самы танны — 7. Нясвіжскія імпрэзы тэатра наведала каля 3,5 тысяч гледачоў. Людзі, дасведчаныя ў традыцыях правядзення еўрапейскіх фестываляў open air, выказвалі пажаданне, каб на новае лета арганізатары праекта парупіліся пра накідкі-дажджавікі для публікі: глядзець спектакль з парасонам — нязручна і для сябе, і для суседа.*

Дарэчы, дырэктар Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка “Нясвіж” Сяргей Клімаў патрымлівае такую пазіцыю маэстра, падкрэсліваючы, што вечары опернага тэатра трапляюць ва ўнісон з новай музейнай канцэпцыяй запаведніка, які і надалей будзе развіваць свае стасункі з мастацкімі калектывамі, перадусім — з тэатральнымі. Бо сама аб’ектыўная гісторыя распавядае пра багатыя творчыя традыцыі радзівілаўскага дома, пра артыстызм самых таленавітых яго насельнікаў, пра дух эстэцтва і мецэнацтва, які, можна сказаць, жыў у генах усяго княжацкага роду. Раней мы распавядалі пра тыя музычна-тэатральныя залы, што з’явяцца ў аднаўленым палацы, пра дамовую капліцу, дзе правядзенне святочных набажэнстваў магчыма спалучаць з канцэртамі арганнай музыкі. Гаворачы пра новае жыццё старажытнага замка, які яшчэ некалькі стагоддзяў таму страціў сваё першаснае, абарончае прызначэнне, С. Клімаў падкрэслівае, што ў гэтым вялікім прыгожым будынку не павінна быць і знаку музейнай руціны. Так, гэты прыгожы, вядомы на ўсю Еўропу дом насялялі жывыя людзі са сваімі характарамі, пачуццямі, праблемамі; тут панаваў дух мастацтва, тут бывала шмат гасцей... “Дом павінен заставацца домам, — мяркуе С. Клімаў. — Таму сюды вяртаюцца не толькі мастацка-асветніцкія традыцыі, але і яго іншыя функцыі: госці ацэняць працу кафэ, рэстарана (ён размясціўся ў прыгожым памяшканні XVIII стагоддзя, дзе падчас даследчых работ былі адкрытыя ўнікальныя для Усходняй Еўропы фрэскі). На тэрыторыі замка знаходзяцца дзве гасцініцы. Двухпавярховая, абсталяваная ў былых стайнях Радзівіла, але гэта не павінна бянтэжыць наведвальнікаў, бо там зробленыя вельмі камфартабельныя нумары прыкладна на паўсотню пастаяльцаў. І чатыры нумары — vip-апартаменты. Так што ўсе функцыі замка па прыёме гасцей, абслугоўванні аднаўляюцца”.

Між іншым, выдатны нясвіжскі экскурсавод і даследчык Сяргей Чысцякоў, даўні знаёмец нашых журналістаў, правёў нас па даступных для турыстаў памяшканнях палаца. І ў яго захапляльным, дасціпным аповедзе прагучала згадка пра радзівілаўскія стайні — істотную частку бліскучага еўрапейскага іміджу амбітных князёў. Коні там літаральна купаліся ў раскошы — сярод люстраў, дываноў і жывапісных карцін, кветак і экзатычных духмянасцяў, што дастаўляліся з Азіі... Кажуць, гэтаму ёсць сваё тлумачэнне: маўляў, Радзівілы, некаранаваныя каралі, мусілі такім чынам сцвярджаць і падтрымліваць свой высокі статус у вачах уплывовых еўрапейскіх суседзяў. Невыпадкова паводле вялікакняжацкай замовы для гэтай сям’і на пачатку XVII стагоддзя быў зроблены эксклюзіўны глобус, на якім ці не самымі буйнымі літарамі вылучалася назва менавіта горада Нясвіжа! Цяпер рэканструяваны “глобус Нясвіжа” можна пабачыць у экспазіцыйнай зале... А які цуд — ландшафтныя паркі Нясвіжа: неацэнны культурна-гістарычны набытак, своеадметная з’ява ў садовым дойлідстве Беларусі, скарбніца адмысловых скульптур і малых архітэктурных форм!.. Зрэшты, пра гэта мы пагаворым ўжо іншым разам.

***На здымку: дворык Нясвіжскага замка.***

# «Пікавая дама» ў гасцях



**Калектыў Гродзенскага абласнога тэатра лялек у чарговы раз браў удзел у міжнародным фестывалі рускіх тэатраў краін СНД і Балтыі "Сустрэчы ў Расіі", што ладзіцца ў Санкт-Пецярбургу і сёлета быў ужо трынаццаты па ліку. Упершыню замежная публіка ўбачыла спектакль Алега Жугжды "Пікавая дама" паводле аднайменнай аповесці Аляксандра Пушкіна і оперы Пятра Чайкоўскага.**

Марына БЛАЖЫЕЎСКАЯ

Фестываль "Сустрэчы ў Расіі" праводзіцца з 1998 года ў межах праграмы дзяржаўнай падтрымкі рускіх тэатраў краін СНД і Балтыі. Сёлета сярод удзельнікаў форуму — драматычных тэатраў з Арменіі, Грузіі, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Малдовы, Таджыкістана, Узбекістана — Гродзенскі абласны тэатр лялек быў адзіным прадстаўніком у сваім відзе тэатральнага мастацтва. Таму пільная ўвага прыхільнікаў Мельпамены да творчасці беларускіх лялечнікаў адчувалася з самага пачатку фестывальнай праграмы.

Паводле даўняй традыцыі пасля прагляду кожнага спектакля ў глядацкім кафэ тэатра "Балтыйскі дом" праходзіла абмеркаванне пастановак. Вядучыя тэатральныя крытыкі і журналісты Расіі і краін Балтыі дзяліліся думкамі і ўражаннямі ад убачанага. У пачатку гутаркі рэдактар "Петербургского театрального журнала" Святлана Шчагіна адзначыла: "Пікавая дама" гродзенцаў — зробленая з бездакорным густам, вельмі вынаходлівая пастаноўка, якую можна доўга апісваць у дэталях".

Прэм'ера спектакля "Пікавая дама" адбылася летась у лістападзе падчас урачыстага святкавання 30-годдзя Гродзенскага абласнога тэатра лялек. Паводле слоў рэжысёра-пастаноўшчыка Алега Жугжды, аповесць А. Пушкіна чакала свайго ўвасаблення на гэтай сцэне амаль 10 гадоў. Ключавым момантам у лёсе спектакля сталася знаёмства рэжысёра з мастаком Маргарытай Сташулёнак, якая, нягледзячы на дэбют у якасці сцэнографа, бліскуча справілася са сваёй задачай.

Сцэнічная прастора спектакля вырашана строга функцыянальна, але пры гэтым канцэптуальна. Яе цэнтр — ламберны стол (як тут не ўспомніць знакамітае: "Что наша жизнь? Игра!»), за які сядаюць гуляць у карты Тройка (Дзмітрый Гайдэль), Сямёрка (Аляксандр Енджаеўскі), Туз (Віталь Лявонаў). Дама ў чорным (Ларыса Мікуліч) толькі назірае за гульнёй. Падчас партыі адзін з гульцоў (Сямерка, ён жа Томскі, — асноўны апавядальнік у спектаклі) згадвае пацешны выпадак, анекдот — гісторыю вайсковага інжынера, немца па паходжанні. І праз хвіліну-другую па зялёным сукне гэтага ж стала ўжо крочыць на фоне Меднага конніка і шпіля Адміралцейства марыянетка Германа, а потым едзе экіпаж старой графіні, якая дапякае сваю бедную выхаванку Лізачку бязглуздымі пытаннямі.

> *Юрый Кобец, тэатральны крытык (Санкт-Пецярбург, Расія): "Спектакль "Пікавая дама"— дзівоснае гарманічнае стварэнне, так і хочацца параўнаць яго з яйкам працы Фабержэ. А з іншага боку — маленькая энцыклапедыя аповесці Аляксандра Пушкіна. Нясумная класіка ў гульнёвай стыхіі. Рады бачыць у Пецярбургу Гродзенскі тэатр лялек, таму што кожны яго спектакль застаецца ў памяці надоўга".*

Дзеянне ў спектаклі абапіраецца на сюжэтныя вузлы, агульныя для аповесці Пушкіна і оперы Чайкоўскага.



> *Этэры Кекелідзе, тэатральны крытык, журналіст (Талін, Эстонія): "Захопленая тым, як Алег Жугжда, ставячыся з велізарным піетэтам да тэксту арыгінала, да праблем і пытанняў, пра якія піша Пушкін, стварыў такі вытанчаны і трохі іранічны сцэнічны твор. У спектаклі не проста расказалі ўсім вядомую аповесць, а выразна і амаль адчувальна ўзнавілі механізм рызыкі, уцягвання чалавека ў гульню, яго слабасць і таемную надзею на дармаўшчыну. Атмасфера, стыхія гульні не знікае ні на хвіліну: з таго моманту, калі гледачы ля ўвахода ў залу асвойваюць правілы гульні ў фараон і жартам робяць стаўкі супраць банкамёта (Аляксандра Енджаеўскага), да самага канца, калі на ламберным стале застаецца толькі фігурка няшчаснага Германа-ляльк і, зламаная, прывязаная рукавамі ўціхамірвальнай кашулі да крэсла".*

Канфлікт аўтараў, які вырас на глебе параўнання дзвюх "Пікавых дам" (па сутнасці, розных твораў), па-майстэрску вынесены рэжысёрам у г.зв. лірычныя адступленні, героямі якіх робяцца самі Аляксандр Сяргеевіч і Пётр Ільіч (акцёры Дзмітрый Гайдэль і Віталь Лявонаў тут працуюць у жывым плане). Пісьменнік і кампазітар распавядаюць у лістах да сяброў і сваякоў свае задумы: для першага "Пікавая дама" — анекдот, а для другога — трагічны шэдэўр. На некаторыя адрозненні — як знешнія, так і ўнутраныя — у трактоўцы падзей і персанажаў Пушкіным і Чайкоўскім Алег Жугжда ненадакучліва робіць акцэнт не толькі ў лірычных адступленнях. Так, у фінале Тройка спрачаецца з Тузом, як скончылася жыццё ці то Германа (у Чайкоўскага гэта ўласнае імя героя), ці то Германа (у Пушкіна гэта прозвішча нямецкага паходжання з дзвюма "н", якое, дарэчы, можна перакласці як "спадар чалавек"). Лёс Лізачкі рэжысёр увогуле вырашае правакацыйна, а паводле слоў крытыкаў, дазваляе сабе дзівосную "отсебятину": ашуканая дзяўчына кідаецца з моста і... застыгнуўшы, нібы ў стоп-кадры, на колькі імгненняў, апынаецца ў вясельнай гандоле палкага італьянца (паводле Пушкіна гераіня выходзіць замуж). Іранічны погляд рэжысёра, які адчуваецца не толькі ў гэтай сцэне, але і ўвогуле ва ўсім спектаклі, прывёў крытыкаў у захапленне.

***На здымках: сцэны са спектакля "Пікавая дама".***

Юрый ІВАНОЎСКІ,
тэатразнаўца,
г. Віцебск

# Шлях да Бога

**У рэпертуары Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа — новы спектакль. І хоць разлічаны ён на самага юнага гледача, але нават зусім сталых людзей можа прымусіць задумацца і паразважаць пра вечныя ісціны. Маладзейшых захопіць займальная інтрыга, амаль прыгодніцкі сюжэт, старэйшых — філасофскія праблемы, закранутыя ў спектаклі, ды тыя вечныя пытанні, якія кожны з нас, дасягнуўшы пэўнай рысы духоўнай сталасці, звяртае да сябе і самім сваім жыццём дае на іх адказы.**

Аўтар п'есы "Шлях у Віфлеем" (другая назва — "Братка Асёл"), наш вядомы драматург Сяргей Кавалёў, адметны тым, што дае новае жыццё знаным міфалагічным, гістарычным сюжэтам альбо займаецца стылізацыяй твора пад пэўную эпоху. Так было з "Трыстанам ды Ізольдай", "Саламеяй", "Бландояй". Вось і "Шлях у Віфлеем" (на віцебскай сцэне твор атрымаў ужо трэцюю назву — "Я буду зоркай") адаптуе вядомы біблейскі сюжэт пра ўцёкі святой сям'і ад помсты злога цара Ірада ў Егіпет. Праўда, цэнтральным персанажам гэтай казачнай гісторыі з'яўляецца не Марыя, не Іосіф, а звычайны Асёл (артыст А. Качан), якому абрыдла быць брыдкай жывёлінай, якой усяляк памыкае грубы і сквапны Гаспадар (артыст Г. Гайдук).

Ужо на пачатку дзеяння яго галоўны персанаж, зачараваны харастром Сусвету, звяртаецца да Анёла (артыст В. Грыева) і, жальбуючы на сваё нікчэмнае існаванне, дзеліцца марай: трапіць на неба, зрабіцца адной з прыгожых зорак. Аслу абвешчана воля Усявышняга: мроя яго здзейсніцца, калі ён сустрэне і ўратуе Бога. Праўда, далейшыя "інструкцыі" да Асла не паступілі. І ён у разгубленасці: дзе шукаць таго Бога і як ён насамрэч выглядае. Ды нельга марнаваць час, і герой рушыць у дарогу…

Рэжысёр-дэбютант Тацццяна Сядова з адметнай фантазіяй малюе карціну Сусвету: мабыць, такой яна бачылася старажытным мудрацам, якія і самі з'яўляюцца перад гледачом (артысты Ю. Цвірка і В. Цвяткоў). Ім таксама наканавана прайсці доўгі шлях да Бога. Ваколі — зорная бясконцасць, на вяршыні пакручастай лесвіцы — Зорка-анёл, унізе, узнікаючы з прадоння, мітусіцца Чорт (артыст А. Сладкевіч). Цікава, што антаганісты, носьбіты дабра і зла, увасоблены ў аблічча жанчыны. Вялікая ўвага ў разгорнутым пралогу спектакля надаецца відовішчнасці: гульні святла, багатай колеравай гаме, пластычна-танцавальным рухам (харэограф Вольга Скварцова, мастак Святлана Макаранка). Але гэта, відаць, той імпульс, што стымулюе дзеянне галоўнага героя: пад уплывам такой прыгажосці ён вырашае змяніць свой лёс. Тым больш што рэжысёр у адаптацыі біблейскага сюжэта ўлічвае псіхалогію дзіцячага ўспрымання (у кожным разе юны глядач больш рэагуе на "карцінку", чым на слова, — такія ўжо выдаткі кліпавага выхавання). Аднак пластыка і касцюмы асобных персанажаў не адмыслова-архаічныя, а набліжаныя да сучаснасці альбо падкрэслена эксцэнтрычныя, парадыйныя. Ды і ў музыцы, вакале, танцах — зусім сённяшнія рытмы. Чаго варты бліскучы, амаль канцэртны выхад Свінкі (артыст Ю. Крашэўская) у яркім ружовым плашчы і гэткіх жа каляровых акулярах! Мы бачым гэткае "прасунутае", абсалютна сучаснае, крутое дзяўчо, якое вышэй за ўсё ставіць смачны наедак (навошта ёй шлях да нейкага невядомага Бога?). Ці блізкі па стылістыцы і дуэт Крата (Я. Берасней) ды Чорта: тут элементы пародыі, імправізацыі, гульні з драматургічным і музычным матэрыялам арганічна спалучаюцца з канцэпцыяй пастаноўкі. Зрэшты, на працягу ўсяго спектакля рэжысёр не адыходзіць ад лёгкай іроніі, забаўляльнасці. Таму сяды-тады відовішча пачынае нагадваць шоу або мюзікл. Можна і паспрачацца, наколькі гэта правамерна, бо размова ўсё ж ідзе пра святыя рэчы, пра сакральную гісторыю. Але ж тэатр — перадусім гульня, перадусім свята. Навучаць, забаўляючы, альбо забаўляць, навучаючы, — хіба не адзін з найважнейшых прынцыпаў сучаснай педагогікі?

Пры выбары выканаўцаў на ролі рэжысёр арыентаваўся не на знешнюю праяву, а на ўнутраную сутнасць вобраза. Высокі, мажны артыст Андрэй Качан пераўвасабляецца ў абсалютна наіўную і даверлівую істоту — Асла. Невыпадкова гэты вялікі добры Гулівер з душой летуценніка з'яўляецца божым абраннікам. У параўнанні з ім Леў (Ц. Жусупаў) выглядае дробным і нягеглым. Цар звяроў толькі здаецца волатам. Той самы прынцып парадоксу, неадпаведнасці знешняга ўнутранаму, датычыць і жаўнераў (В. Асвяцінскі, Р. Карнякоў). Яны нагадваюць нейкіх алавяных салдацікаў з дзіцячай гульні або лялечнага тэатра. Тым страшнейшыя тыя злачынствы, што яны здзяйсняюць. Увогуле ў спектаклі зло вонкава занадта слабае, кволае (нават Ірад у выкананні Юрыя Гапеева выглядае нейкім самотнікам, адрынутым усімі, — ды толькі ў гэтым хітрая гульня дыктатара), але гэта менавіта знешняя абалонка.

Уратаваўшы святое немаўля ад помсты цара Ірада, Асёл ізноў спаткае Анёла-Зорку. Здаецца, ужо няма перашкод, каб здзейснілася яго мара. Ды толькі герой сам адмаўляецца ад узнясення на неба і, упрэгшыся ў вазок, самахоць вязе святое сямейства ў Егіпет. У кожнага свой шлях да Бога, сваё наканаванне на Зямлі.

Спектакль "Я буду зоркай" тэатра імя Якуба Коласа выконвае і мастацкую, і пазнавальна-адукацыйную, і выхаваўчую функцыі. З аднаго боку, праз вобразную выяўленчую мову сцэнічнага мастацтва ён нязмушана выкладае юнаму гледачу старонкі біблейскай гісторыі, з другога, даводзіць, што чалавечае жыццё — гэта бясконцы выбар між дабром і злом, між эгаізмам, сквапнасцю, ганарлівасцю, уладалюбствам і самаахвярнасцю дзеля шчасця і дабрабыту бліжняга свайго.

Віталь СКАЛАБАН,
Ігнат ШЫЧКО

# Невядомы водгук Барыса Палявога

**У жніўні 1937 года з пасады галоўнага рэдактара газеты "Рабочий" (сённяшняя "Советская Белоруссия") быў звольнены Аляксандр Зіноўевіч Хаін-Юмскі (сапраўднае імя — Абрам Зелікавіч Хаін, нарадзіўся ў 1895-м у Талочыне на Віцебшчыне). Рэдактарам ён адпрацаваў крыху болей як год — з сакавіка 1936-га па жнівень 1937-га... Мо той 1937-ы ўсё ж быў для яго шчаслівым. Год, калі асабліва раскручваўся махавік сталінскіх рэпрэсій, прынёс нашаму земляку ўсяго толькі звальненне, няхай сабе і з высокай пасады.**
**Ужо ў верасні 1937-га Аляксандр Зіноўевіч уладкаваўся на працу загадчыкам тэхнічнай прапаганды кандытарскай фабрыкі "Камунарка".**

А ў гэты час многія знаёмыя, калегі вядомага на той час публіцыста і нават тэарэтыка журналістыкі былі арыштаваныя, патрапілі ў лагер і турмы. 28 кастрычніка 1937-га асудзілі да смяротнага пакарання рэдактара часопіса "Штерн" ("Зорка") Ізі Харыка. У жніўні 1938-га арыштавалі паэта Міколу Хведаровіча, які да гэтага працаваў адказным сакратаром часопіса "Полымя рэвалюцыі". Яшчэ ў лістападзе 1936 года арыштавалі журналіста "Звязды" Станіслава Шушкевіча.

У ліпені 1938-га партыя "ўспомніла" пра Аляксандра Зіноўевіча: Хаіна прызначылі загадчыкам аддзела Мінскага гаркама КП(б)Б. У студзені наступнага года — павышэнне: былога журналіста, вопытнага партыйнага публіцыста прызначаюць загадчыкам аддзела партыйнай прапаганды і агітацыі Мінскага абкама КП(б)Б. А яшчэ праз некаторы час Хаін становіцца сакратаром абкама па прапагандзе і агітацыі. Ды партыя і спецслужбы сапраўды трымалі ў памяці літаральна ўсё.

25 студзеня 1940 года народны камісар унутраных спраў Беларускай ССР, сумна вядомы Лаўрэнцій Цанава, звяртаецца асабіста да сакратара ЦК КП(б)Б таварыша Байкачова. І нагадвае пра прычыны звальнення галоўнага рэдактара галоўнай газеты рэспублікі: "На Хаіна-Юмскага Аляксандра Зіноўевіча, 1895 г. нараджэння, мы валодаем выпіскай з пратакола сходу партыйнай арганізацыі рэдакцыі газеты "Рабочий" ад 7-га верасня 1937 года, з якога відаць, што Хаін-Юмскі зняты з працы рашэннем ЦК КП(б)Б за няўменне забяспечыць правільную палітычную лінію ў газеце, за няздольнасць арганізаваць апарат рэдакцыі на выкананне задач бальшавіцкага друку.

Таварышы, якія выступалі на партыйным сходзе, сцвярджалі, што валодаюць наступнымі матэрыяламі на Хаіна-Юмскага:

1. Прасоўванне ім антыпартыйных разваг пра "карысць", якую, маўляў, прынасіў вораг народа Тухачэўскі. Заява т. Рахманчык пра ідэалізацыю ім ворагаў народа Каменева і Зіноўева.

2. Выдаленне з матэрыялаў, якія змяшчаліся ў газеце, усіх вострых момантаў, якія маглі б дапамагчы ў аблічэнні ворагаў народа.

3. Адмова друкаваць шматлікія матэрыялы пра нацыяналістычную работу асуджанага органамі НКУС ворага народа Рафальскага, затрымка ўсіх матэрыялаў пра ворагаў народа, якія падаваў член партыі Хахлоў.

Хаін-Юмскі таксама затрымліваў матэрыялы, якія сігналізавалі пра работу ворагаў народа ў структуры Наркамасветы.

Калі ў газеце быў змешчаны матэрыял (па недагляду Хаіна-Юмскага) пра Чарнышэвіча як ворага народа, ён па патрабаванню гэтага ворага спрабаваў прымусіць партыйны аддзел рэдакцыі даць папраўку, што матэрыял памылковы.

Хаін-Юмскі даверыў сакрэтную перапіску Беру, які пазней быў вылічаны як вораг народа, а таксама меў доступ да сакрэтнай перапіскі памагаты шпіёна Каласоўскага — Александровіч. Болей за тое, калі Хаін-Юмскі атрымаў матэрыялы пра Каласоўскага, яшчэ задоўга да арышту апошняга, схаваў гэтыя матэрыялы, а каб падстрахавацца, напісаў загад аб звальненні Каласоўскага, працягваючы ў той самы час трымаць гэтага ворага ў рэдакцыі. Такі ж загад, на ўсялякі выпадак, быў падрыхтаваны і на Александровіча, што не мяшала апошняму працаваць у рэдакцыі..." І далей: "На сходзе паказвалі на тое, што Хаін-Юмскі схаваў ад партарганізацыі, што Галадзед рабіў спробы яго завербаваць.

Партыйны сход на аснове вышэй выкладзеных матэрыялаў вынес рашэнне аб выключэнні Хаіна-Юмскага з партыі..." І напрыканцы ліста сакратару ЦК партыі Цанава заўважае: "Намі зроблены запыты па месцы працы Хаіна-Юмскага. Пасля атрымання матэрыялаў будзе паведамлена дадаткова".



Да вяртання ў Беларусь у 1936 годзе Аляксандр Зіноўевіч змяніў нямала працоўных месцаў. Увогуле, тыповая біяграфія партыйнага функцыянера. У журналістыку наш зямляк прыйшоў, маючы за плячыма істотны вопыт палітычнай работы.

Закончыўшы ў 1913 годзе ў Оршы рэальнае вучылішча, Абрам-Аляксандр пераехаў у Адэсу. Працаваў сакратаром прафсаюза рабочых-млынароў. У снежні 1915-га паступіў на Вышэйшыя камерцыйныя рахункаводчыя і чыгуначныя курсы ў Пецярбургу. Увайшоў у групу "міжраёншчыкаў". З чэрвеня 1917-га — сакратар праўлення прафсаюза майстроў і рабочых майстэрань і дэпо Петраградскага чыгуначнага вузла. З сакавіка па жнівень 1919-га — член прэзідыума і загадчык аргаддзела ЦК прафсаюза чыгуначнікаў. З мая 1920-га — памочнік загадчыка аддзела Петраградскага губернскага прафсаюза. З верасня па лістапад 1920-га А.Хаін — начальнік аддзялення партыйнай асветы палітаддзела 16-й арміі Заходняга фронту. У снежні 1920-га наш зямляк становіцца начальнікам эканамічнага аддзела Петраградскага губпрафсавета. Пасля два гады працуе сакратаром камітэта транспартнікаў пры Прафінтэрне, амаль год — у Сібірскім бюро ВЦСПС у Новасібірску. У сакавіку 1925 года пераходзіць на партыйную работу — інструктарам агітацыйнага аддзела Маскоўскага камітэта партыі.

> *Хаін-Юмскі зняты з працы рашэннем ЦК КП(б)Б за няўменне забяспечыць правільную палітычную лінію ў газеце, за няздольнасць арганізаваць апарат рэдакцыі на выкананне задач бальшавіцкага друку.*

Яшчэ ў 1923—1925 гадах Аляксандр Зіноўевіч у маскоўскіх і петраградскіх, дакладней, ужо ленінградскіх, выдавецтвах выпусціў шэраг брашур: "Чыгуначны пралетарыят і сусветны прафсаюзны рух", "Рабочы Кітая", "Арганізацыя вытворчасці і прафсаюзы", "Тыпы еўрапейскага і амерыканскага прафсаюзнага руху", "Пройдзены шлях (Саюз майстроў і рабочых чыгункі Петраградскага вузла 1917—1919)". З 1926 года Хаін працуе ў газеце "Рабочая Москва". Часта выступае з артыкуламі на старонках іншых выданняў. Са студзеня 1930-га па сакавік 1936 года Аляксандр Зіноўевіч рэдагуе шэраг абласных партыйных газет: "Тверскую правду", калінінскую "Пролетарскую правду", тульскі "Коммунар"... Да супрацоўнікаў гэтых выданняў і звяртаюцца адпаведныя службы з запытамі пра нашага земляка. Сярод тых, хто адказаў, — Б. Кампаў-Палявой. Так, пісьменнік Барыс Палявой, журналіст, які працаваў з Хаіным у Калініне ці тады яшчэ ў Цвяры.

> *Водгук Барыса Палявога не дужа дапамог Хаіну-Юмскаму, бо ў лютым 1940 года ён ужо быў пазбаўлены пасады сакратара Мінскага абкама партыі. Іначай, пэўна, і быць не магло. За Аляксандра Зіноўевіча ўзяліся ўсур'ёз...*

Свой ліст кандыдат у члены ВКП(б)Б Кампаў-Палявой напісаў у 1940 годзе. Ён нашмат маладзейшы за Хаіна, нарадзіўся ў 1908 годзе. Але журналістыкай пачаў займацца прыблізна ў той час, што і яго старэйшы калега па "Тверской правде". У 1939 годзе пабачыла свет асобнай кнігай аповесць Барыса Палявога "Гарачы цэх". У час Вялікай Айчыннай Барыс Мікалаевіч — франтавы карэспандэнт "Правды". У 1946-м выходзіць яго аповесць пра лётчыка А. Марэсьева — "Аповесць пра сапраўднага чалавека", якую ў 1947-м адзначаць Сталінскай прэміяй. Яшчэ адна Сталінская прэмія — праз два гады, у 1949-м — за кнігу апавяданняў "Мы — савецкія людзі". Амаль дваццаць гадоў Барыс Палявой, якому ў 1974 годзе прысвоілі званне Героя Сацыялістычнай Працы, рэдагаваў адзін з самых папулярных савецкіх літаратурна-мастацкіх часопісаў "Юность". Творчая спадчына Барыса Мікалаевіча ўмясцілася ў дзевяць тамоў. Але ўсё гэта будзе пасля... Тады, у 1940-м, у няпросты для выбару кожнага чалавека час, Барыс Палявой стаяў на пачатку будучага шчаслівага пісьменніцкага лёсу. І кожны крок патрабаваў сумленнасці, а мо нават і мужнасці. Хіба ж няўцям было журналісту, чым выкліканы запыт сур'ёзных інстанцый? І вось што піша Барыс Кампаў-Палявой:

"Тав. Хаіна-Юмскага Аляксандра Зіноўевіча я ведаю па сумеснай рабоце ў рэдакцыі "Тверской Правды", прыблізна з пачатку 1929 г. і па 1934 год з перапынкам у некалькі месяцаў, калі тав. Хаін па мабілізацыі ЦК ВКП(б) рэдагаваў газету па будаўніцтве Бобрыкаўскага Хімкамбіната.

У час работы ў "Тверской Правде" тав. Хаін зарэкамендаваў сябе як цвёрды бальшавік, вельмі прынцыповы чалавек і харошы арганізатар, які ўмее паяднаць і ажывіць у некаторай ступені расхлябаны да яго калектыў.

Добра тэарэтычна ўзброены, добра валодаючы газетнай справай, тав. Хаін як рэдактар стварыў у газеце добрую творчую атмасферу. У перыяд яго работы газета выступіла з цэлым шэрагам цікавых ініцыятыў, такіх, як вытворчыя суды, мітынг машын, барацьба за бесперапынны вытворчы канвеер у машынабудаванні, за комплексную работу ў бавоўняна-папяровай прамысловасці. Газета была ініцыятарам спаборніцтва за добраўпарадкаванне, заснаванне значка "ЗОТ", першых тэхнічных экзаменаў. Шырока і граматна, разумна асвятляліся пытанні культуры, быта, тэатра, выклікаючы дзясяткі новых метадаў і прыёмаў работы. Усе гэтыя мерапрыемствы знаходзілі станоўчую ацэнку ў абзацах "Правды", "Большевистской печати", іх падтрымлівалі іншыя газеты, і яны перарасталі ва ўсесаюзныя мерапрыемствы і цэлыя кампаніі. Можна без перабольшвання заўважыць, што "Тверская правда" перыяду 1930—1934 года была і лічылася адной з самых передавых перыферыйных газет краіны, і ў гэтым несумненна вялікая заслуга тав. Хаіна — як рэдактара і выдатнага ініцыятыўнага журналіста.

Пасля "Тверской Правды", наколькі мне вядома, тав. Хаін працаваў рэдактарам у Туле і цяпер знаходзіцца на партыйнай рабоце ў Беларусі. Б. Кампаў-Палявой..."

Спакойны, дзелавы і, відаць па ўсім, праўдзівы водгук. Пэўна, ён не дужа дапамог Хаіну-Юмскаму, бо ў лютым 1940 года ён ужо быў пазбаўлены пасады сакратара Мінскага абкама партыі. Іначай, пэўна, і быць не магло. За Аляксандра Зіноўевіча ўзяліся ўсур'ёз.

...А 21 красавіка 1945 года партдакументы А. Хаіна былі пагашаны Маскоўскім абкамам ВКП(б) у сувязі са смерцю камуніста, партыйнага публіцыста. Ды ўсё ж, па вялікім рахунку, ліст Барыса Палявога нешта ды значыць...

***На здымку: Барыс Палявой.***

***Аўтары выказваюць удзячнасць вядомаму архівісту Вячаславу Дзмітрыевічу Селямянёву за дапамогу ў зборы матэрыялаў, якія раскрываюць лёс А. Хаіна-Юмскага.***

# Новы перыяд новай эпохі



**Кожная мастацкая эпоха падзяляецца на ранні, развіты і позні перыяды. Канец эпохі і пачатак наступнай вызначаецца паводле яскравых перамен у пэўным рэгіёне, дзе яны найперш самасцвярджаюцца, адкуль яны неўзабаве пашыраюць сваё наватарскае ўздзеянне на розныя бязмежныя адлегласці. Даўнейшае, “даўно забытае” ў мастацтве, на шчасце, ніколі не знікае бясследна, а працягвае жыць у выглядзе розных традыцый, рэтрасімвалаў і да т.п. Гісторыю чалавецтва — ад першавытокаў да нашых дзён — можна звязаць з працяглымі мастацкімі эпохамі: першабытнасць, старажытнасць, Сярэднявечча, Рэнесанс, Барока.**

Яўген ШУНЕЙКА,
мастацтвазнаўца,
фота аўтара

А што было далей, калі адбылася, напрыклад, Вялікая французская рэвалюцыя? У гісторыі замежнага мастацтва савецкага часу пра гэта нічога не ўдакладнялася, нібы проста так міналі XIX і XX стагоддзі. А гэта не былі “проста стагоддзі”. Дазволім сабе зрабіць наступнае мастацтвазнаўчае ўдакладненне. У гэты векапомны прамежак часу з’явіліся дзве новыя эпохі. Пасля гістарычнага фіналу Барока французы распачынаюць з 1789 года эпоху дэмакратычнага мастацтва (ці эпоху мастацкіх рэвалюцый) і становяцца яе бясспрэчнымі лідарамі. А з 1945 года амерыканцы сталі першапраходцамі сучаснай мастацкай эпохі. Першы яе заакіянскі “артс”-перыяд быў звязаны з трыумфам моладзевай культуры, другі, ужо заходнееўрапейскі, паўсюдна атаясамліваецца з постмадэрнізмам 1970—2000-х гг. На пераломе 2000—2010-х гадоў можна бачыць пачаткі такіх творчых эксперыментаў, якія служаць сімптомамі новага перыяду глабальнага мастацкага дыялогу. Яны найбольш актыўна праяўляюцца на вялікай трансkантынентальнай постсавецкай прасторы “ад Берліна да Пекіна” і выяўляюць актыўныя і адказныя аўтарскія адносіны да актуальных экалагічных, маральных, сацыяльных, нацыянальных і інтэрнацыянальных ды іншых яшчэ не вырашаных праблем новага стагоддзя.

> *Можна яшчэ бавіцца па інерцыі ў постмадэрнісцкія творчыя гульні і дзівацтвы, але больш запатрабаванымі становяцца творы, якія вобразна перадаюць гуманнае бачанне будучыні, пашыраюць межы нашых уяўленняў пра свет і стваральныя магчымасці чалавека ў гэтым свеце.*

Зразумела, можна яшчэ бавіцца па інерцыі ў постмадэрнісцкія творчыя гульні і дзівацтвы, але больш запатрабаванымі становяцца творы, якія вобразна перадаюць гуманнае бачанне будучыні, пашыраюць межы нашых уяўленняў пра свет і стваральныя магчымасці чалавека ў гэтым свеце. Беларускім мастакам вельмі пашчасціла на пачатку новага глабальнага мадэрнізатарства выявіць свае творчыя магчымасці. Яны з’яўляюцца прадстаўнікамі прафесійнай мастацкай школы, якая захоўвае і развівае шматлікія еўрапейскія традыцыі. Можна сябе ўпэўнена адчуваць у ролі патэнцыяльных лідараў, бо з выяўленчым прафесіяналізмам на Захадзе цяпер назіраецца яўны дэфіцыт.

Мабыць, у экзатычна-гламурна-імпазантным кірунку выяўленчага мастацтва нашы мастакі ўжо дасягнулі першага месца ў свеце. Але можна ўжо спыніцца “штукарыць” у гэтым даволі вузкаарыентаваным салонным рэчышчы. Нічога лепшага нашы “гламуршчыкі” ўжо не зробяць, а бясконца паўтараючы — губляць уражанне навізны і арыгінальнасці.

Новае дзесяцігоддзе патрабуе значна большай прасторы для творчых пачынанняў, якія павінны ахапіць увесь свет, адкрыць па-новаму яго вядомыя і невядомыя абрысы. Немагчыма, перш за ўсё, не адгукнуцца на невычэрпную юбілейную тэматыку, якая дазваляе з незалежных сучасных пазіцый асэнсаваць творчасць нашых нацыянальных геніяў і самых таленавітых замежных творцаў усіх часоў і народаў. Гэта актуальна, бо ў такіх вобразных прысвячэннях праяўляецца адстойванне сапраўдных культурных каштоўнасцей ад нігілістычнага невуцтва, якое нашым мастакам ужо пачынае псаваць прыстойны імідж.



Чаго вартыя, напрыклад, бездапаможныя патугі “на арыгінальнасць” С. Грыневіча, які спрабуе ў сваіх жывапісна-плакатных работах ставіць знак роўнасці паміж біблейскімі Алафернам і Іаанам Хрысціцелем? Яшчэ больш бесперспектыўнай падробкай пад “мадэрнізацыю класікі” выглядаюць саламяныя пудзілы А. Клінава, якія нібыта прыгадваюць “Тайную вячэру”! Досыць падрабляцца пад дылетантаў, калі ў кішэні некалькі дыпломаў з сярэдняй і вышэйшай мастацкай адукацыяй. Час ставіць сапраўды, дастойныя задачы, дзе праяўляюцца неабмежаваныя здольнасці і шырокая сучасная эрудыцыя.

Вельмі засмучае, калі немагчымым становіцца зразумець, дзе жывуць і твораць мастакі, якія знаходзяцца ў нейкіх замкнёных і герметычна ізаляваных ад шматлікіх перамен XXI стагоддзя закуточках сваіх майстэрняў. Ужо якая па ліку выстаўка віцебскіх “мадэрністаў” праводзіцца ў Мінску. А што з іх можна даведацца пра Віцебшчыну, пра яе гісторыю, сучаснасць, вялікія сувязі са светам?

Іван Чэрскі, што паходзіць з Верхнядзвінскага раёна, у XIX стагоддзі быў славутым адкрывальнікам Чукоткі і Камчаткі. Ёсць на каго раўняцца ва ўсіх эўрыстычных адносінах, бо без адкрыццяў у мастацкіх работах можна канстатаваць толькі банальнасць, больш-менш закамуфліраваную прафесійнай тэхнікай выканання.

Тое самае можна сказаць і пра гродзенцаў, гамяльчан і іншых “рэгіяналаў”, якія не захапляюцца каларытным асяроддзем, самым даступным толькі для іх. Яно яшчэ не атрымала, “дзякуючы” іх абыякавасці, свайго мастацкага адкрыцця, не перажыло вобразнага нараджэння. А потым мы здзіўляемся, што нашу краіну мала хто ведае. А хто б з нас ведаў гімалайскую даліну Кулу, каб ёй не прысвяціў сваё творчае натхненне М. Рэрых?

Няма асаблівых вынікаў і ў многіх эцюдзістаў-пленэрыстаў, якія штогод актыўна адпачываюць з пэндзлямі і фарбамі ў раённых цэнтрах Беларусі. Ехалі, напрыклад, ды не даехалі летась да Белавежскай пушчы аматары свежых уражанняў на чале з М. Купавай і А. Грышкевічам, П. Шарыпай і інш. А вось І. Шышкін на пачатку 1890-х гадоў там стварыў свой найвыдатнейшы цыкл сонечных эцюдаў, бо не паленаваўся забрацца ў самыя неходжаныя нетры прыроднага заказніка.

З такіх не самых кампліментарных меркаванняў, якія можна пашыраць, вынікае, што неабходна пераадольваць часовы застой. Дзесяцігоддзе, багатае на святкаванне этапных, векапомных творчых падзей гэтаму вельмі спрыяе. Напрыклад, гісторыя войнаў, рэвалюцый, вызваленняў 200-гадовай і 100-гадовай даўніны, якую памятае нашая зямля, колькі яшчэ вобразных вырашэнняў можа падараваць нашым мастакам-прафесіяналам, якія даўно пераканалі ўсю Еўропу, што не развучыліся маляваць алейнымі фарбамі, не адцураліся ад складаных эстампных тэхнік, не лянуюцца ткаць габелены, шчыраваць з глінай і да т.п. Яны патэнцыяльна могуць вырашыць любую тэматыку, але ствараецца такое ўражанне, што не ведаюць, з чаго пачаць і дзеля чаго гэта трэба рабіць.

Паўтараем, каб замацаваць сваё лідарства ў сучасным мастацтве, для гэтага ўжо не абавязкова ехаць у Парыж ці ў Венецыю, “каб там нарэшце зразумелі і прызналі па-сапраўднаму”. З тым жа поспехам сваю “геніяльнасць” можна сцвярджаць і ў Мінску, Віцебску і іншых культурных цэнтрах на роднай зямлі.

Можна для актыўнага ідэйнага штуршка, бо ён вельмі патрэбны, параіць нашым супермайстрам-класікам супаставіць сябе з Тыцыянам з нагоды напісання ім 500 гадоў таму Вянеры Урбінскай і даказаць, што сучаснае “ню” ўжо не можа быць у непрыстойнай няволі ад глянцавых часопісаў. Вось дзе можа праявіцца жывапісны імпэт А. Ксяндзова, С. Цімохава, В. Касцючэнкі і іншых вызваліцелей вечнай тэмы жаночага хараства ад цынічных штампаў і салоннай прафанацыі.

Каб потым не было прэтэнзіі, што “тутэйшых мадэрністаў ізноў своечасова не папярэдзілі”, неабходна падкрэсліць: у 2015 годзе нельга не адсвяткаваць самым узорным чынам 100-годдзе “Чорнага квадрата” К. Малевіча. Няўжо гэта не стане звышвыставачнай падзеяй для айчынных мастакоў, якія лічаць сябе прамымі спадкаемцамі рэвалюцыйнага авангарду?

Зрэшты, кожны наш мастак, асабліва прадстаўнік шматлікай творчай моладзі, зірнуўшы на каляндар эпахальных творчых падзей, мае поўнае творчае права вызначыць для сябе нешта вельмі актуальнае, адрасна скіраванае на вырашэнне сучасных культурных праблем. Актыўную рэалізацыю такіх праектаў можна параўнаць з вырашальным іспытам на мастацкую адпаведнасць новаму дзесяцігоддзю, у якім максімальна зыходзяцца-канцэнтруюцца задачы мастацкага глабалізму.

У гэтым словаспалучэнні няма нічога знарочыстага і надуманага. Адказнасць за будучыню свету нельга перакладваць на чужыя плечы. Мастак сёння — гэта не проста выключна таленавітая, “культавая” асоба, раскручаны аб’ект захапленняў, ультрамоднае “дзіва”, якое трэба прэзентаваць замежным турыстам, а першы з шэрагу непахісных атлантаў і карыятыд, на якіх трымаецца ўсё станоўчае, гуманнае, духоўнае ў нашым непрадказальным свеце.

> *Вельмі засмучае, калі немагчымым становіцца зразумець, дзе жывуць і твораць мастакі, якія знаходзяцца ў нейкіх замкнёных і герметычна ізаляваных ад шматлікіх перамен XXI стагоддзя закуточках сваіх майстэрняў. Ужо якая па ліку выстаўка віцебскіх “мадэрністаў” праводзіцца ў Мінску. А што з іх можна даведацца пра Віцебшчыну, пра яе гісторыю, сучаснасць, вялікія сувязі са светам?*

Прафесійная мастацкая школа — надзейны падмурак для такой адказнай творчай пазіцыі сучасных беларускіх мастакоў розных пакаленняў. І яшчэ адна акалічнасць, якую трэба ўлічваць. Чым больш рознабаковым і шчырым будзе дыялог паміж мастакамі, крытыкамі і іншымі зацікаўленымі асобамі, захопленымі эпахальнымі перспектывамі творчасці, тым хутчэй мы дачакаемся найвыдатнейшых вынікаў, якія будуць узорнымі для новага мастацкага перыяду сучаснай цывілізацыі і па-сапраўднаму прызнанымі ў свеце.

***На здымках: работы скульптара Валерыя Малахава.***





# Чалавек-максіма андэграўнду

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва прэзентаваў выстаўку работ "Бесцялеснае" знакамітай творцы Людмілы Русавай. Экспазіцыя, многія работы якой дэманстраваліся ўпершыню, была прымеркавана да дня нараджэння мастачкі, якая, на жаль, у мінулым годзе пайшла з жыцця. Аўтарам канцэпцыі выстаўкі была сама Людміла Русава, а аўтарам экспазіцыі — яе сястра Ала Дэрыа.**

Дырэктар музея Наталля Шаранговіч адзначыла, што Людміла Генадзьеўна — знакавая фігура ў беларускім мастацтве і шматгранная асоба: яна зрабіла ў Беларусі першы перформанс, займалася графікай, жывапісам, габеленам, ствала канцэптуальнае мастацтва, пісала глыбокія філасофскія тэксты, выкладала.

Ханс Рыхтэр Арп, нямецкі мастак, рэжысёр і дадаіст, казаў: "Мы шукалі элементарнае мастацтва, якое выратуе чалавецтва ад апантанай утрапёнасці нашага часу". Людміле Генадзьеўне нічога і не трэба было шукаць, бо яна стварала мастацтва, выбудоўваючы ўласную "міфалогію". Дастаткова прыгадаць яе "Дэкларацыю свабоды творчасці і абароны аўтарскай волі":

1. Аўтар і яго біяграфія, як лёс творчай асобы, — аснова персанальнай міфалогіі…

2. Аўтар як самастойная творчая адзінка, здольная рэалізаваць свой творчы патэнцыял…

3. Аўтар мае права на самаідэнтыфікацыю, таму што аўтар стварае…

4. Аўтар любіць мастацтва, а не мастацтва ў сабе або, тым больш, сябе ў мастацтве…

5. Аўтар можа быць у прэтэнзіі толькі да асабістай персоны…

Мастацтвазнаўца, супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Вольга Архіпава зазначыла, што сёння важна паказаць тое, чым Людміла Русава займалася апошнія дзесяць гадоў — распрацоўвала тэму бесцялеснага ў мастацтве. Для творцы заўсёды было характэрна знайсці ідэю, новую форму, увасобіць яе, прадумаць ад пачатку да канца. Для яе была важнай кожная дэталь. Творчасць — бязмежная прастора, у якой мастак шукае і знаходзіць свой шлях. У дадзеным выпадку тэма бесцялеснага вельмі выразна прачытваецца ў работах Людмілы Русавай. Кожны раз гэта спроба адчування пачуцця, нейкіх з'яў — метафізічны жывапіс, дзе ўвасабляюцца ідэі, якімі мастачка хоча падзяліцца з гледачом.

Таксама слова бралі мастачкі Вольга Сазыкіна, Ала Непачаловіч, рэжысёр-сцэнарыст Кіра Нагаева, якія характарызавалі Людмілу Генадзьеўну як сумленнага, справядлівага, бескампраміснага чалавека андэграўнднага пакалення. Яна не выносіла фальшу, ілжы, падману.

Са слоў мастацтвазнаўцы, артдырэктара аўтарскай некамерцыйнай канцэптуальнай галерэі "БРАМА" Ларысы Фінкельштэйн, Людміла Русава "размаўляла" ўсімі мовамі пластычнага мастацтва. Першы яе перформанс — жэст, крок, прарыў у беларускім мастацтве. Яна практычна стварыла школу айчыннага перформанса. Адным словам, гэта быў чалавек-максіма: абсалютна крэатыўная, абсалютна самастойная ў сваіх меркаваннях і абсалютна катэгарычная.

Людміла Русава нарадзілася ў пасёлку Дашчанае Архангельскай вобласці. Закончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя Аляксея Глебава, аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (яе настаўнікі — Леанід Дубар, Альгерд Малішэўскі, Гаўрыла Вашчанка, Уладзімір Стальмашонак), была членам БСМ, творчых аб'яднанняў "Форма", "Плюраліс", пятнаццаць гадоў працавала мастаком на Барысаўскім камбінаце дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Людміла Русава — аўтар больш як ста мастацкіх выставак і канцэптуальных праектаў. Яе творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі нашай краіны, фондах БСМ, у Музеі "Zimmerli Art" (ЗША, Нью-Джэрсі), у муніцыпалітэце Бона (Германія), а таксама ў прыватных калекцыях Берліна, Варшавы, Гданьска, Рыгі, Стакгольма і Бостана.

***На здымках: работы Людмілы Русавай "Рытм-дзірка. Застыглае дамаганне", "Лавіна. Ніспадаючая прахалода".***

## Прыналежнасць роднай зямлі

Алег АНАНЬЕЎ,
мастацтвазнаўца

У Міністэрстве замежных спраў Беларусі адкрылася персанальная выстаўка жывапісу Валерыя Сідоркіна. У творчасці мазырскага мастака прырода Палесся ў розныя паравіны года — гэта і неабсяжнае неба, і зямля, па якой ён ходзіць, і сэнс яго мастацтва. Прызвычаіўшыся глядзець і бачыць абсягі з вяршынь пагорыстай Мазыршчыны, ён і на многіх сваіх работах адлюстраваў гэты незвычайны ракурс. Тут захапленне беларускімі пейзажамі, радасць быцця і лірычны настрой. Нават з назваў твораў вынікае, што для Валерыя Сідоркіна значыць мазырскае Палессе: "Таполі. Вясна", "Пейзаж з вясёлкай", "Пачатак лета. Мазыршчына", "Купалле", "Летні ранак", "Залацісты вечар", "Навальніца надыходзіць", "Поўдзень. Прыпяць", "Мазырскія яры", "На Прыпяці", "Вечар на Мазыршчыне"…

Мастаку ўласціва і асэнсаванне драматычных станаў жыцця, свету, прыроды. Яго пейзажы часам становяцца сімваламі глыбінных перажыванняў, якія выходзяць за рамкі асабістых пачуццяў. "Прыпяць 1986 года" — хвалюючы вобраз чарнобыльскай катастрофы. Цёмныя воды не проста адлюстроўваюць змрочны стан неба, яны, як жывая субстанцыя зямнога космасу, ахоплены прадчуваннем чорнай навальніцы…

Нарадзіўся Валерый Сідоркін у 1955 годзе ў вёсцы Галавачы Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і настаўніка малявання. Закончыў рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Яго педагогамі былі Май Данцыг, Віктар Грамыка, Пётр Крохалеў. Творы мазырскага майстра выклікаюць шчырую ўвагу не толькі на Радзіме, але і за яе межамі. Нядаўна пейзаж Валерыя Сідоркіна "Вясна на Прыпяці" стаў лепшым у сваёй намінацыі і прынёс аўтару залаты медаль на Міжнароднай выстаўцы выяўленчага мастацтва "Вясна ў поўным колеры" (Нью-Ёркскае таварыства выяўленчага мастацтва "New York Fine Art").

У выставачную залу МЗС Беларусі наведваюцца замежныя дыпламаты, журналісты і проста вядомыя людзі. Да таго ж, як падкрэсліў на адкрыцці экспазіцыі намеснік міністра замежных спраў нашай краіны Ігар Петрышэнка, выстаўка Валерыя Сідоркіна — далёка не апошняя ў гэтым будынку. Міністэрства і надалей будзе падтрымліваць беларускую культуру.

# Энергія лініі

**Графіка, бадай, найбольш старажытны і традыцыйны від мастацтва. Вытокі малюнкаў можна знайсці ўжо ў першабытных наскальных выяўленнях, а таксама ў антычным вазапісе. Спадчына графічнага мастацтва разнастайная, яна адзначана работамі сусветна вядомых мастакоў, такіх, як Дзюрэр, Дарэ, Гойя і інш.**

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара





На шчасце, графіка і цяпер застаецца актуальнай. Творчасць мастака сёння наблізілася да даследчай лабараторыі, дзе ўзнікаюць і нараджаюцца многія цікавыя вобразы і рашэнні. Застаецца толькі даць добрую школу і забяспечыць спрыяльныя ўмовы для развіцця таленту. Энергія, якую мастак укладае ў свой твор, тонкія пачуцці, — усё гэта перадаецца на плоскасць аркуша. Яшчэ Васіль Кандзінскі казаў, што лінія чэрпае сілу з энергіі таго, хто яе правёў. Вобразна кажучы, усе мы складаем сваё жыццё са сваіх асабістых ліній.

Галерэя "Панарама" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ў рамках IV Мінскай міжнароднай выстаўкі графікі "Арт-лінія" дэманстравала экспазіцыю графічных работ студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Адметна, што выстаўка дыпломных работ выпускнікоў БДАМ удзельнічала ў такім прадстаўнічым мастацкім фэсце.

Куратар праекта, загадчык аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці НББ Фёдар Ястраб зазначыў, што на нейкі час графіка выпадала з абоймы вельмі запатрабаваных шырокай публікай тэхнік. Тым не менш на сёння гэта вельмі актуальны від мастацтва, таму што графічны дызайн сустракаецца ў розных сферах нашага жыцця, нават у віртуальным свеце, і мае як традыцыйныя, так і нетрадыцыйныя, вербальныя формы.

Графічныя тэхнікі — гэта тое, што складае ўвогуле аснову развіцця мастацтва ў цэлым, а не толькі ўласна графікі. Якім чынам запоўніць ліст — заўсёды важна. Для любога жывапісца, якую б рэалістычную кампазіцыю ён ні рабіў, на першым месцы стаіць уменне закампанаваць прастору белага палатна. Так і ў графіцы. Жывапісцы шмат чаму могуць навучыцца ў графікаў. Па-першае, уменню абстрагавацца ад рэчаіснасці, свабодна валодаць графічнымі сродкамі, плямай, фармальнай кампазіцыяй. Па-другое, надаваць вялікую ўвагу самой тэхніцы.

Таксама слова бралі дэкан мастацкага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Уродніч, загадчык кафедры графікі БДАМ Юрый Хілько. Творцы адзначалі, што гэта вельмі добра, калі бібліятэка займаецца прапагандысцкай дзейнасцю і мае свае асабістыя мастацкія калекцыі. Для кафедры графікі зладкаваць падобную выстаўку даволі проста, нават элементарна. Ёсць не толькі дыпломныя творы, а і курсавыя, якія адпавядаюць міжнароднаму ўзроўню. Выпускнікі робяць як мінімум пяць дыпломных работ, некаторыя нават да дваццаці лістоў, калі гэта мініпрынт.

У экспазіцыі — больш чым 40 дыпломных і курсавых работ студэнтаў і выпускнікоў кафедры графікі за апошнія 10 гадоў. Творы выкананы ў розных графічных тэхніках: афорт, лінарыт, дрэварыт, літаграфія, гравюра на кардоне. Сярод іх работы маладых, але добра вядомых у мастацкім асяроддзі аўтараў — Р. Сустава, А. Зінкевіча, Ю. Мацуры, Л. Абрамавай, Т. Шэлест, Ф. Басалыгі, А. Лебядзінскай, І. Сідарава, З. Піскун і інш.

Заснаванне кафедры графікі ў кастрычніку 1953 года на мастацкім факультэце Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута стала значнай падзеяй у станаўленні нацыянальнай мастацкай школы ў галіне кніжнай ілюстрацыі, плаката і станковай графікі. За гэты час падрыхтавана больш як 230 мастакоў-графікаў. Сярод іх — народныя мастакі Беларусі А. Кашкурэвіч, В. Шаранговіч, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь У. Савіч, В. Слаук і іншыя.

Мастакамі старэйшага пакалення закладзены моцны падмурак, на якім трывала захоўваецца і развіваецца творчасць сучасных мастакоў, якія дасягнулі выдатных поспехаў на міжнароднай арэне і сталі добра вядомымі беларускаму гледачу.

***На здымках: Ю. Мацура "Краявід"; Н. Клімовіч "Рэфлексія".***



**Ужо чацвёрты год на базе Ждановіцкай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы працуе гуртол "Цестапластыка". Кіруе ім педагог з Мінскага раённага цэнтра дзіцячай творчасці Вольга Казак. Па прызнанні кіраўніка гуртка, яе заўсёды прываблівала творчая праца з дзецьмі. Вольга Мікалаеўна лічыць, што менавіта ў творчасці дзіця раскрываецца і атрымлівае магчымасць рэалізаваць свае здольнасці. Спачатку прыйшло само жаданне працаваць з дзецьмі, трэба было толькі абраць кірунак і зацікавіць дзятву. Выраб сувеніраў з салёнага цеста падыходзіў найлепшым чынам. Па-першае, гэты матэрыял даступны кожнаму і не патрабуе вялікіх грашовых укладанняў. Па-другое, пры працы развіваецца дробная маторыка, што спрыяе развіццю разумовай дзейнасці дзіцяці. Па-трэцяе, працуе фантазія. Па-чацвёртае, на любое свята можна сваімі рукамі вырабіць арыгінальны падарунак.**

# Фантазіі з салёнага цеста

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ, фота аўтара**

Сёння ў гуртку "Цестапластыка" займаюцца больш як дваццаць школьнікаў. Узрост — з першага па восьмы клас. Неаднаразова выхаванцы разам са сваім кіраўніком арганізоўвалі выстаўкі вырабаў, праводзілі творчыя прэзентацыі сваіх работ, прадстаўлялі творы на раённых і абласных выстаўках, якія праходзілі ў Мінскім раённым цэнтры дзіцячай творчасці. Юныя майстры з задавальненнем прынялі ўдзел у акцыі "Сваё сэрца аддам ветэрану".

На адным з заняткаў гуртка "Цестапластыка" мне давялося пабываць. Пазнаёмілася з выхаванцамі, убачыла іх выдатныя работы, пагутарыла з юнымі майстрамі, шмат цікавага даведалася пра тэхналогію вырабу сувеніраў з салёнага цеста.

Як жа зрабіць такую прыгажосць?

Этап 1. Трэба ў правільных прапорцыях замясіць цеста. Для гэтага спатрэбіцца 1 шклянка солі, 2 шклянкі вады, 4 шклянкі мукі. Калі прапорцыі правільныя, кансістэнцыя цеста будзе нагадваць мяккі пластылін.

Этап 2. З прыгатаванага матэрыялу будзем ляпіць фігуркі. Спачатку трэба абраць тэму лепкі. Пры неабходнасці рыхтуем аснову для будучага вырабу. У якасці яе можна выкарыстаць кардон, фольгу. Гэтыя элементы падыходзяць для плоскасных работ. А вось для аб'ёмных вырабаў спатрэбіцца каркас. Ім можа стаць, да прыкладу, шкляны слоік, бутэлька, пенал ад кіндар-сюрпрыза, вазачка, паветраны шарык і інш. Базай для аб'ёмнай фігуры таксама можа стаць папярэдне нарыхтаваная аснова з самога цеста. З такой асновы можа атрымацца, напрыклад, лялька або ялінка.

Этап 3. Такім чынам, лепім з цеста неабходныя нам дэталі. Але кожная з іх пакуль што існуе асобна. Як жа сабраць іх у адну канструкцыю? Мы іх склейваем. У якасці надзейнага клею выступіць звычайная чыстая вада, якой мы намочваем месца склейвання.



Этап 4. Будзем лічыць, што прыклад юных майстроў вас натхніў і вы сваімі рукамі зрабілі сувенір-шэдэўр з салёнага цеста. Але пакуль ён волкі і бясколерны. Наступным крокам будзе сушка вырабу. Гэта можа адбывацца ў натуральных умовах. У залежнасці ад памераў, аб'ёмаў і формы, ён можа сохнуць ад аднаго да пяці дзён. У электрапечцы або духавой шафе выраб сушыцца каля пяці гадзін пры тэмпературы ад 50 да 70 градусаў з перапынкамі. Дзве гадзіны сушыцца, потым робіцца перапынак да поўнага астывання і г.д.

Этап 5. Высушаную работу размалёўваем. Для гэтага падыходзяць акрылавыя фарбы, акварэль, гуаш.

Этап 6. Размаляваны і высушаны выраб пажадана пакрыць лакам. Тады сувенір будзе больш трывалым, бліскучым і даўгавечным. Акрамя таго, лакавае пакрыццё перашкаджае выгаранню фарбаў.

Этап 7. Можа быць іншы варыянт апрацоўкі вырабаў. Сувенір можна не размалёўваць, а глазураваць: пакрываць саляным растворам або салодкім сіропам, можна таксама яечным бялком. Выраб (неразмаляваны!) змяшчаюць у разагрэтую звыш 100 градусаў духавую шафу і запякаюць. Важна сачыць, каб ён не падгарэў. Час глазуравання залежыць ад памераў вырабу і ад жаданага адцення (чым даўжэй трымаем, тым больш насычаным будзе колер). Тыя часткі, якія не трэба глазураваць, закрываем фольгай.

Тыя, хто хоць аднойчы паспрабаваў выказаць свае творчыя фантазіі ў салёным цесце, захапляюцца гэтым заняткам. Паспрабуйце, і вам абавязкова спадабаецца. Творчых поспехаў!



***На здымках: дзіцячыя работы; з задавальненнем наведвае гуртол "Цестапластыка" Маша Халепава.***

## З глыбінкі

### Чароўная планета дзяцінства

У сусвеце дзіцячых кніг Заастравецкай сельскай бібліятэкі-філіяла Клецкага раёна з'явілася новая Планета дзяцінства. Кожны, хто прыходзіць у бібліятэку, незалежна ад узросту, роду заняткаў, падарожнічае па незвычайнай планеце і хаця б на хвілінку вяртаецца ў чароўны свет дзяцінства. У незвычайным куточку дзіцячага чытання — маляўнічая ілюстраваныя, арыгінальна аформленыя выстаўкі: "Твае першыя кніжкі", "Дзіцячых рук майстэрства", "Калейдаскоп падзей", "Імя тваё Белая Русь".

Сярод лепшых чытачоў бібліятэкі — Данік Краўчонак, Віка Раманоўская, Ваня Гаўрук, "будучы бібліятэкар" вучаніца 6-га класа Аліна Мазан, Веранiка Мядзведзева, Даша Шкуцько, Таня Місюкевіч і іншыя. А саму выяву планеты дзяцінства ўпрыгожваюць фотаздымкі дзяцей. Дарэчы, кожны наведвальнік сам прымацоўвае свой фотаздымак там, дзе яму падабаецца. Бібліятэкары заўсёды падтрымліваюць ініцыятывы сваіх маленькіх чытачоў, дапамагаюць ім у выбары кніжак, вучаць берагчы і любіць іх, адкрываюць цудоўны свет мастацкага слова. Калі чытач падрастае, яго знаёмяць з больш сур'ёзнай літаратурай.

Юныя чытачы — заўсёды актыўныя ўдзельнікі масавых мерапрыемстваў, якія ладзіць бібліятэка. Шмат сюрпрызаў і цікавых адкрыццяў чакала наведвальнікаў у летні перыяд падчас правядзення дзіцячай гульнёвай праграмы "Разгуляй весялуха", пазнавальнай віктарыны "Любі і ведай свой край", гадзіны даверлівай размовы "Ведай правы, але не забывай пра абавязкі", конкурсу чытальнікаў вершаў "Гэта зямля твая і мая".

**Людміла РУДЭНКА, г. Клецк**

### "Рух, імкненне, маладосць"

Пад такой назвай у Карэліцкім раённым краязнаўчым музеі прайшла выстаўка карцін маладога мастака Юрыя Лемішава, навучэнца гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка. Гэта першая выстаўка 17-гадовага таленавітага юнака, які, трэба адзначыць, упэўнена адчувае сябе ў такіх жанрах, як жывапіс, малюнак, захапляецца фатаграфіяй, аэраграфіяй, графікай.

На выставе былі прадстаўленыя адны з першых работ Юрыя, выкананыя ў жанры партрэта, пейзажа і нацюрморта. І людзі, і прырода ў творах мастака не ўяўныя: ён малюе з натуры, часта выязджае на пленэры. Асаблівую цікавасць у наведвальнікаў выклікае карціна "Гарышча". Кагосьці яна прывабlівае сваёй таямнічасцю, у кагосьці выклікае пачуццё заспакаення, абуджаючы дзіцячыя ўспаміны пра вячэрнія пасядзелкі сярод старых забытых рэчаў, павуціння і прыемнага паху сушаных яблык.

Выстаўка работ Юрыя Лемішава — прыклад уважлівага і паважлівага стаўлення да маладых пачынаючых аўтараў і выдатная магчымасць знаёмства з таленавітымі землякамі.

**Іна ЛЕЙКА, г. п. Карэлічы**

## Афарызм

*Нашы свечы ў капальнях продкаў палаюць.*
*Мы для ўнукаў павінны дарогу прабіць.*
*Хто забыў сваіх продкаў — сябе губляе,*
*Хто забыў сваю мову — усё згубіў.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04,
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2836
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 11.08.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3823
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686